3

# БАЛЬШАВІК БЕЛАРУСІ



МЕНСК
1931

Пролетары ўсіх краін, злучайцеся!




# БАЛЬШАВІК БЕЛАРУСІ

ЧАСОПІС ПОЛІТЫКІ І ПРАКТЫКІ
ПАРТЫЙНАЙ ПРАЦЫ
ОРГАН ЦК КП(б)Б



№ 3
САКАВІК

МЕНСК — 1931

# Тварам да гаспадарчых задач

VI-ы Ўсесаюзны Зьезд Саветаў паставіў перад рабочай клясай і працоўнымі масамі Савецкага Саюзу задачу — дагнаць і перагнаць у тэхніка-экономічных адносінах перадавыя капіталістычныя краіны да канца бягучага дзесяцігодзьдзя. Гэта заданьне зьяўляецца асноўнай часткай агульнай задачы пабудовы соцыялізму ў нашай краіне. Вялікія посьпехі і магчымасьці, якія маюцца ў руках пролетарыяту, дазволілі конкрэтна ўказаць тэрміны выкананьня гэтай задачы. Гэтыя магчымасьці выўляюцца ў выкананьні пяцігадовага пляну разьвіцьця народнай гаспадаркі СССР у чатыры гады, а па некаторых галінах народнай гаспадаркі,—у 3 гады.

Спробы шкоднікаў Рамзіных і Громан-Суханавых сарваць выкананьне пяцігодкі аказаліся бітымі. Рэволюцыйны энтузіязм пролетарыяту зьнішчае перашкоды, пастаўленыя шкоднікамі на шляху выкананьня пяцігодкі. Посьпехі пяцігодкі, яе рэальнасьць прызнаны нават заядлымі ворагамі Савецкага Саюзу. Зараз капіталістычны мір лічыцца з фактам бязумоўнага ажыцьцяўленьня пастаўленых пролетарыятам СССР задач і яшчэ больш шалёна, яшчэ больш узмоцнена рыхтуецца да зрыву соцыялістычнага будаўніцтва, шляхам узброенага нападу на Савецкі Саюз.

Трэці год зьяўляецца рашаючым у выкананьні агульнага пляну пяцігодкі. На выкананьне плянаў трэцяга году павінна быць зьвернута ўся ўвага партыйных, профсаюзных організацый і ўсяе рабочае клясы. Ад выкананьня гэтых плянаў залежыць у асноўным выкананьне пяцігодкі ў пастаўленыя партыяй тэрміны.

Аднак, выкананьне прамысловасьцю БССР плянаў першага кварталу ня можа быць прызнана здавальняючым. Прамысловасьць БССР ня выканала заданьняў першага кварталу трэцяга году пяцігодкі. У асноўным пляны першага кварталу выкананы да 1-га сакавіка толькі на 55 процантаў.

Гэты прарыў зьяўляецца вынікам паслабленьня ўвагі партыйных, профсаюзных і гаспадарчых організацый да задач выкананьня прамфінпляну. У ўдарным квартале 1930 г. (кастрычнік—сьнежань) прамысловасьць БССР паказала бальшавіцкія тэмпы, ліквідаваўшы ў асноўным запазычанасьць у выкананьні прамфінпляну ранейшых кварталаў, і пасьпяхова выканала прамфінплян асобнага кварталу. Аднак,у першым квартале 1931 г. некаторыя організацыі *паслабілі ўвагу* да выкананьня прамфінпляну, дапусьцілі значнае зьніжэньне тэмпаў, якія былі дасягнуты ў ударным квартале. Опортуністычныя разважаньні аб тым, што да канца году яшчэ далёка, што можна „адпачыць“ ад узятых тэмпаў, дзе-ні-дзе маюць месца.

*Мобілізацыя рабочае клясы БССР на выкананьне ў другім квартале поўнасьцю намечаных плянаў і ліквідацыі прарыву першага*

*кварталу зьяўляецца асноўнай задачай партыйных організацый і профсаюзаў.* Партыйныя і профсаюзныя організацыі абавязаны дабіцца перамогі над опортуністычнымі адносінамі да пытаньня выкананьня прамфінпляну, дабіцца чоткай работы ўсіх зьвеньняў вытворчага апарату, забясьпечыўшы гэтым выкананьне програм трэцяга рашаючага году пяцігодкі.

Адным з баявых заданьняў, якія стаяць перад партыяй і рабочай клясай у сучасны момант, зьяўляецца палепшаньне работы транспорту чыгуначнага і воднага, падняцьце транспорту на высату, якая патрэбна ў трэцім рашаючым годзе пяцігодкі.

Мерапрыемствы ЦК УсеКП(б) і СНК СССР і адпаведна ЦК КП(б)Б і СНК БССР даюць падставу для пасьпяховага выкананьня гэтых задач. Ад партыйных і профсаюзных організацый транспорту патрабуецца чоткае выкананьне гэтых дырэктыў. Аднак, па некаторых пытаньнях, напрыклад, па пытаньню аб пераходзе на спараную язду, аб ліквідацыі „абязьлічкі“ на чыгунцы, мы сустакаем супраціўленьне ў правядзеньні гэтых дырэктыў, альбо такое іх „правядзеньне“, якое зводзіць на-нішто посьпех мерапрыемства. Няма неабходнасьці заставаўлівацца на ролі транспорту ў пягігодцы. Транспорт адыгрывае асноўную ролю ў народнай гаспадарцы. Перад партыяй і рабочай клясай стаіць неадкладная задача — вывесьці транспорт з яго „вузкага месца“.

У бягучым месяцы разгортваецца ў асноўным падрыхтоўка да вясеньняй пасеўнай кампаніі. Гэта падрыхтоўка зьвязана з новай хваляй колектывізацыі, з новым моцным прылівам беднаты і сераднякоў у колгасы. Цэнтральны Камітэт КП(б)Б паставіў задачай дабіцца вясной гэтага году 30 процантаў колектывізацыі. Задачай кожнай парт. ячэйкі, Райкому, комсамольскіх організацый зьяўляецца організацыя колгаснага прыліву і, у першую чаргу, рашучая барацьба з праваопортуністычнымі адносінамі да прыліву, з „самацёчнымі“ настроямі.

Праводзячы работу па колектывізацыі, партыйныя організацыі абавязаны весьці работу па ўмацаваньні як ужо існуючых, так і ствараемых уноў колгасаў. Гэта работа павінна быць увязана з работай сярод батракоў і беднаты. Падаўляючы супраціўленьне кулацкіх элемэнтаў, патрэбна сіліць барацьбу за новы колгасны прыліў.

Адным з стымулаў колектывізацыі зьяўляецца контрактацыя. Заданьні па контрактацыі ня ўсюды выконваюцца на мясцох па тэй прычыне, што, быццам, акрамя контрактацыі, шмат іншых „кампаній“. У той-жа час упускаецца з віду організуючае значэньне контрактацыі, дапамагаючай правядзеньню колектывізацыі, дапускаецца разрыў у правядзеньні новых мерапрыемстваў (мобілізацыя сродкаў, ільнозагатоўкі і г. д.) з выкананьнем асноўнай задачы, якая стаіць перад партыяй на вёсцы — задачы пашырэньня соцыялістычнага сэктару сельскай гаспадаркі і ўзмацненьня яе тэхніка-экономічнай базы.

Разгортваньне колектывізацыі ў вясеньнюю пасеўную кампанію патрабуе максымальнага ўцягненьня ў работу ўсіх зьвеньняў партыйна-савецкага апарату вёскі і цэнтральных устаноў. *Увязаць з пачынаючымся вясеньнім севам пытаньне практычнай работы па колектывізацыі — баявая задача ўсіх партыйных, савецкіх і грамадзкіх організацый.*

Вялікае практычнае значэньне ва ўмовах БССР набывае спэцыялізацыя раёнаў.

Правядзеньне гэтай спэцыялізацыі, разам з соцыялістычнай рэконструкцыяй с.-г. БССР, уздыме с.-г. на вышэйшую ступень і дасьць ёй новыя тэмпы разьвіцьця.

Выкананьне ўсіх гаспадарчых задач, якія стаяць перад КП(б)Б і рабочай клясай БССР, патрабуе напружанасьці сіл і энэргіі. Адсюль задача—*паглыбленьне і разьвіцьцё соцыялістычных форм працы*—соцспаборніцтва, ударніцтва. Саўгас, колгас—ударныя пункты соцыялістычнага наступу ў вёсцы—павінны аб'яднаць вакол сябе лепшыя слаі бядняцка-серадняцкай часткі вёскі, каб у ногу з ім, пад кіраўніцтвам партыі, ажыцьцявіць генэральную лінію ЎсеКП(б). Фабрыка, завод павінны паказаць подлінна кіруючую ролю, як застрэльшчыкі соцыялістычнага наступу на ўсіх фронтох пабудовы соцыялізму.

Бязьлітасная барацьба супроць опортуністаў усіх масьцей, у першую чаргу супроць правых опортуністаў, якія зьяўляюцца галоўнай небясьпекай для соцыялістычнага будаўніцтва, гэта абавязковая ўмова пасьпяховага выкананьня задач трэцяга рашаючага году пяцігодкі.

**Л. Якаўлеў**

# Меншавізм на лаве падсудных

Толькі нядаўна на лаве падсудных перад Вярхоўным Судом СССР знаходзіліся прадстаўнікі расійскай буржуазіі: Рамзін, Ларычаў, Каліньнікаў і інш., якія зьяўляліся ў сваю чаргу агентамі буйнейшых варацiл расійскага капiталу—Рабушынскага, Нобеля, Гукасова і інш., аб'яднаных у арганізацыю дзейнічаньня так—званы Гандлёва-прамысловы камітэт. Вярхоўны Суд выявіў, што гэтыя групы страцілі сваю самастойнасьць, стаўшы прамымі агентамі міравога і, у першую чаргу — французскага капіталу—у асобе Пуанкарэ, генштабу і іншых арганізацый, даваўшага заданьні Торгпрому і Прампартыі, забясьпечваўшага іх сродкамі і будаваўшага пляны выкарыстаньня скуры яшчэ не забітага мядзьведзя—СССР. Вярхоўны Суд, перад якім на працягу 13 дзён праходзілі шкоднікі і шпіёны з прампартыі і яе галінаваньняў, выявіў, што асноўным мэтодам барацьбы расійскага капіталу супроць Саюзу Савецкіх Социялістычных Рэспублік зьяўлялася інтэрвэнцыя, падрыхтоўка да якой інтэнсыўна праводзілася прампартыяй. Тэрмін інтэрвэнцыі, як вядома, быў вызначаны на 1930 год, але па абставінах, якія зусім не залежалі ад міравой і рускай буржуазіі, тэрмін гэты быў перанесены на 1931 год.

Ужо тады, на процэсе, было ўстаноўлена, што ў падрыхтоўцы да інтэрвэнцыі супроць дыктатуры пролетарыяту чынны ўдзел прымалі кіруючыя колы меншавікоў. Таксама, зусім дасканала было ўстаноўлена, што ня толькі французскі капіталізм, ня толькі Рабушынскія, Нобелі і К°, але і меншавікі расійскія і міжнародныя ставяць у аснову сваіх антысавецкіх плянаў інтэрвэнцыю. Такім чынам, у гаспадароў і ў лёкаяў пляны і меркаваньні былі адны і тыя-ж. Аднолькавым, сапраўдней, адзіным быў таксама і спосаб дзеяньняў у ажыцьцяўленьні гэтых плянаў.

У сучасны момант перад судом пролетарыяту прадсталі кіраўнікі рэштак меншавізму ў СССР па абвінавачаньню ў падрыхтоўцы інтэрвэнцыі *ўнутры* Савецкага Саюзу. Такім чынам, і тут схэма зусім ідэнтычная. За мяжой — цэнтр сусьветнага капіталу ў асобе Пуанкарэ і інш., — іх расійская сэкцыя — торгпром, — агентура ў СССР — прампартыя, — мэтод дзейнічаньня супроць СССР — інтэрвэнцыя, якая падрыхтоўваецца знадворку і ўнутры, — у апошнім выпадку прампартыяй.

Такая-ж структура і ў організацыі работнікаў: Другі інтэрнацыянал, — замежныя меншавікі — і „союзнае бюро ЦК меншавікоў", як рэзыдэнцыя гэтай социял-інтэрвэнцыяністкай партыі, вядучая работу ўнутры Савецкага Саюзу. Адзінства мэтодаў дзейнічаньня супроць пролетарыяту СССР — вось першая адзнака, якая аб'ядна€ як сусь-

ветны капіталізм, гэтак і так званыя „соцыялістычныя“ партыі ІІ-га інтэрнацыяналу.

Ці выпадкова меншавізм папаў на адну лаву падсудных з Рамзінымі, Ларычавымі, Калінькікавымі і Чарноўскімі? Ці выпадкова меншавікі Абрамовіч і інш. разам з павадырамі ІІ-га інтэрнацыяналу, валандаючыся ў прыёмных сваіх гаспадароў — Пуанкарэ, Брыянаў, Чэрчыляў, Гіндэнбургаў, зьяўляюцца ўдзельнікамі антысавецкіх інтэрвэнцыянісцкіх плянаў сусьветнага капіталізму? Гэта бязумоўна ўчынілася не выпадкова. Уся гісторыя меншавізму, уся гісторыя „соцыял-дэмократыі 1-га жніўня“ ёсьць гісторыя здрадніцтва рабочай клясе. Этапы, пройдзеныя меншавізмам ад „рабочедельства“, экономізму, праз здрадніцтва рэволюцыі 1905 г., праз „ліквідатарства“, абаронцтва да ададчыненай контр-рэволюцыі, да прамога супрацоўніцтва з інтэрвэнцыянісцкімі бандамі Францыі, Англіі, Калчака, Дзенікіна — зьяўляюцца этапамі здрадніцтва, этапамі здрады рабочай клясе.

У гісторыі расійскай рэволюцыі меншавікі выступалі як дастойныя наступнікі „легальнага марксызму“ — Пракаповіча, Кусковай, наступнікі „рускага Бернштэйна“ — Струвэ. Ужо пры ўзьнікненьні меншавізму Ленін, класычна адзначаючы яго сутнасьць, характарызаваў яго як „інтэлігенцкі індывідуалізм“, абвінавачваў у тым, што меншавікі „грэшаць інтэлігенцкім нявер‘ем у сілы пролетарыяту“, што меншавікі праяўляюць „інтэлігенцкае неразуменьне сапраўдных сіл і неабходных задач пролетарыяту“. [1])

Тактыка меншавізму ў гэтыя гады зьяўлялася тактыкай сьвядомага „не за страх, а за совесьць“ здрадніцтва інтарэсам рабочае клясы. Адзін з лідараў меншавізму — Л. Мартаў, прама высказаў гэта наступнымі словамі:

„Меншавізм ня бачыў для пролетарыяту іншай магчымасьці карыснага ўдзельнічаньня ў даным крызісе (крызісе буржуазіі — Л. Я.), акрамя дапамогі буржуазна-лібэральнай дэмократыі ў яе спробах адціснуць ад дзяржаўнай улады рэакцыйную частку маемных кляс, — дапамогі, якую, аднак, пролетарыят павінен ажыцьцявіць, захоўваючы поўную палітычную самастойнасьць“. [2]) Тут не саромячыся Мартаў адзначае ролю пролетарыяту як зброю ў руках буржуазіі ў барацьбе апошняй з фэўдальна-абшарніцкай монархіяй. *Бальшавізм* ясна і чотка высунуў палажэньне аб гегемоніі пролетарыяту ў буржуазна-дэмократычнай рэволюцыіі, аб тым, што пролетарыят выкарыстоўвае на пэўным этапе рэволюцыйныя тэндэнцыі буржуазіі, накіраваныя супроць фэўдальна-абшарніцкай дзяржавы, выкарыстоўвае з тым, што буржуазна-дэмократычная рэволюцыя будзе перарастаць у рэволюцыю соцыялістычную, рэволюцыю, у якой пролетарыят, расправіўшыся пры падтрыманьні буржуазіі з царызмам, распраўіцца таксама і з буржуазіяй. *Меншавізм* у буржуазна-дэмократычнай рэволюцыі бачыў сваё „сьвятое сявятых“, далей якога ня ішлі імкненьні меншавікоў. Зусім акрэсьлена з гэтага выцякала вучэньне аб пануючай, кіруючай ролі буржуазіі ў рэволюцыі. Падкрэсьліваем — у рэволюцыі, — бо меншавізм пад рэволюцыяй разумеў толькі буржуазна-дэмократычную рэволюцыю, адмаўляючы магчымасьці і здольнасьці пролетарыяту стварыць рэволюцыю соцыялістычную.

Гэта ўстаноўка меншавікоў цалкам выцякала з нявер‘я ў моц пролетарыяту. Замест рэволюцыйнай барацьбы пролетарыяту супроць

1) „Шаг уперад, два шагі назад“, т. V.
2) Цыт. па Леніну, XX, т. 455.

фэўдальна-абшарніцкай дзяржавы і — далей — супроць буржуазіі, за соцыялістычную рэволюцыю, за *дыктатуру пролетарыяту*, меншавізм прапаведваў „самадзейнасьць пролетарыяту" ў рамках капіталістычнае грамады.

Наконт гэтай „самадзейнасьці" вельмі метка адказаў Ленін, гаворачы аб тым, што „есьць самадзейнасьць сьвядома соцыял-дэмократычная і самадзейнасьць Зубатаўская". [1]) Меншавізм іменна прапаведваў гэту зубатаўскую самадзейназьць, бо ён ставіў сваёй задачай выкарыстаньне рэволюцыйнай энэргіі пролетарыяту, як зброі, пры дапамозе якой буржуазія ўтварала даўленьне на царызм. Меншавікі імкнуліся да таго, каб буржуазія магла вымагаць уступак з боку царызму, пагражаючы „разьвязваньнем" рэволюцыйных тэндэнцый пролетарыяту.

„Уся гісторыя 15-летняй барацьбы меншавікоў з бальшавікамі ў Расіі (1903-1917) даводзіць, як даводзяць гэта і тры расійскія рэволюцыі, што меншавікі, увогуле, былі бязумоўна не правы і што яны былі на справе агентамі буржуазіі ў рабочым руху". [2]) Гэтак азначае Ленін сутнасьць меншавізму ў рускай рэволюцыі. Прынізіць рабочы рух, уціснуць яго ў рамкі буржуазна-дэмократычнай рэволюцыі, забясьпечыць буржуазіі выкананьне задач, якія стаяць перад ёю ў буржуазна-дэмократычнай рэволюцыі — і толькі. У гэтым была ўся сутнасьць меншавізму. Меншавізм атрымаў у гэты пэрыод належную ацэнку ад ворагаў пролетарыяту, якія з пахвалою ацэньвалі ўсе анты-рэволюцыйныя імкненьні меншавікоў.

Разьвіцьцё рэволюцыі, яе ход і вынікі, *бязумоўна* залежалі ад таго, *як* у ёй будзе ўдзельнічаць пролетарыят, — *як гегемон* рэволюцыі, альбо, *як падсобнік* буржуазіі. Да ролі гэтага апошняга і імкнуліся зьвесьці ролю пролетарыяту меншавікі.

„Вынік рэволюцыі залежыць ад таго, — пісаў Ленін, — ці адыграе рябочая кляса ролю падсобніка буржуазіі, магутнага па сіле свайго націску на самаўладзтва, але бясьсільнага політычна, альбо ролю кіраўніка народнай рэволюцыі. Сьвядомыя прадстаўнікі буржуазіі адчуваюць гэта вельмі добра. Пагэтаму „Освобождение" і выхваляе акімаўшчыну, „экономізм" у соцыял-дэмократыі, высоўваючы *цяпер* на першы плян профэсіянальныя саюзы і легальныя таварыствы". [3])

Такім чынам меншавізм ў першым этапе рэволюцыйнага руху адыграў ролю памочніка буржуазіі, яго агентуры, якая ставіла сваёй задачай *падпарадкаваць* пролетарскі рух мэтам і задачам буржуазнай рэволюцыі, *звузіць* размах рэволюцыйнага руху пролетарыяту, *прымірыць* супярэчнасьці, існаваўшыя паміж пролетарыятам і буржуазіяй. Прамую ролю агентаў буржуазіі меншавікі адыгрываюць і ў наступныя этапы рэволюцыі.

У рэволюцыі 1905 г. меншавізм таксама адыграў гэту ролю. На хрыбце хвалі рэволюцыі ён загаварыў, праўда, больш рэволюцыйнай мовай, як гаварыла больш рэволюцыйнай моваю і буржуазія. Але гэтая мова толькі прыкрывала лёкайскую сутнасьць меншавікоў. Іх здрада выявілася як ужо ў процэсе рэволюцыі, так і асабліва пасьля яе паражэньня. Тут мы ня будзем застанаўлівацца на гісторыі меншавіцкіх здрад. Досыць адзначыць тую ліквідатарскую плынь, якая характэрна меншавікам пасьля рэволюцыйнага пэрыоду, пэрыоду рэакцыі.

---

[1]) „Две тактики" VI, 69.
[2]) XX, II, 489.
[3]) „Две тактики", VI, 284, падкрэсьлена ў аргінале.

Вайна 1914 году, абаронцтва меншавікоў таксама ня менш яскрава выкрываюць контр-рэволюцыйную сутнасьць меншавізму. Меншавікі аказаліся дастойнымі членамі II інтэрнацыяналу: яны падзялілі долю нямецкай соцыял-дэмократыі і соцыял-абаронцаў усіх краін.

У 1917 г. ад сваёй ацэнкі рэволюцыі яны дайшлі да душэньня пролетарыяту. Знаходзячыся ў складзе ўраду, яны, меншавікі, праводзілі пасьлядоўную капіталістычную лінію. І яны, як ніхто іншы, травілі партыю рэволюцыйнага пролетарыяту — партыю бальшавікоў, на радасьць сваім гаспадаром.

Учрадзілка, далейшая дзейнасьць меншавікоў — дзейнасьць ворагаў рэволюцыі. Іх тэорыя і практыка ў Кастрычнікаўскую рэволюцыю ёсьць тэорыя і практыка клясавых ворагаў пролетарыяту.

Кастрычнікаўская рэволюцыя ішла ў разрэз з інтарэсамі меншавікоў. Яны, як верныя служкі буржуазіі, засталіся з сваімі гаспадарамі да канца. Яны імкнуліся абгрунтаваць тэорытычна свае контр-рэволюцыйныя дзеяньні тлумачэньнем характару пролетарскай рэволюцыі ў Расіі, як рэволюцыі буржуазнай.

„Тая рэволюцыя, якую перажывае Расія вось ужо пяты год з самага пачатку была і застанецца да самага канца буржуазнай рэволюцыяй. *Об'ектыўна* руская рэволюцыя ёсьць рэволюцыя буржуазная", піша меншавік Д. Далін.[1])

Яму ў тон, ужо ў 1927 г., Дан, вядомы лідэр меншавікоў, пісаў: „Бальшавіцкая дыктатура ёсьць толькі этап у разьвіцьці рэволюцыйнага *працэсу*, які пачаўся ў лютым-сакавіку 1917 г. і не закончыўся яшчэ і да гэтага часу. На гэтым неабходна настойваць таму, што нішто гэтак не выклікае блытаніны разуменьняў і ілюзій як непрактычнае паўтарэньне бальшавіцкага догмату, што 7 лістапада ў Расіі утворана асобая рэволюцыя — пролетарская, па свайму зьместу процілеглая і нават варожая буржуазнай рэволюцыі".[2])

Такая ацэнка сутнасьці пролетарскай рэволюцыі, утворанай у кастрычніку 1917 г., выцякае з усёй сутнасьці меншавіцкага разуменьня рухоўных сіл рэволюцыі і ацэнкі сіл і ролі пролетарыяту нагогул у рэволюцыі.

Пролетарыят, утвараючы сваю рэволюцыю, рэволюцыю пролетарскую, адначасова вырашыў шэраг задач буржуазнай рэволюцыі. Аднак, ён не абмежаваўся вырашэньнем толькі гэтых задач, а вырашыў у першую чаргу задачы будаўніцтва соцыялізму. Самая наяўнасьць дыктатуры пролетарыяту пасьля кастрычніка 1917 г. гаворыць аб асаблівым характары гэтай рэволюцыі. У рэзультаце яе ўлада перайшла ў рукі пролетарыяту. Вось ў чым аснова, чаго ня хочуць ні відзець, ні разумець меншавікі.

Ня веручы ў моц пролетарыяту, адмаўляючы самастойную ролю пролетарыяту ў рэволюцыі, меншавікі пагэтаму лічаць усё тое, што адбылося ў Расіі ў кастрычніку 1917 г. і пазьней, толькі працягам буржуазнай рэволюцыі. І тое, што ў пролетарскай рэволюцыі зьяўляецца сутнасьцю — для меншавізму толькі „экспэрымэнт" бальшавікоў, ад якога трэба як мага хутчэй пазбавіць расійскую *буржуазную* рэволюцыю. Так будуецца тэорытычна задача рэстаўрацыі капіталізму ў СССР, задача нізрынуцьця дыктатуры пролетарыяту і ўстанаўленьня панаваньня капіталістычнага грамадзтва. Бо буржуазная рэволюцыя зьяўляецца рухаючым фактарам разьвіцьця буржуазнага, капіталістыч-

---

[1]) Далін Д.—После войны и революции, стр. 7-8

[2]) Дан Ф.—Юбилей диктатуры, „Соц. Вестник" 1927 г. № 21-22.

нага грамадзтва. „Бальшавіцкі экспэрымэнт“ перашкаджае разьвіцьцю і заканчэньню буржуазнай рэволюцыі, гэта значыць мяшае буржуазіі прыняць цуглі кіраваньня, адсюль задача — зьнішчэньне бальшавізму, зьнішчэньне дыктатуры пролетарыяту, зьнішчэньне савецкай улады.

Меншавікі дэмагогічна імкнуцца супроцьпаставіць дыктатуры пролетарыяту яе савецкую форму, выхаласьціўшы яе пролетарскі зьмест.

„Зараз сьвет стаіць яшчэ на капіталістычных падставах. І дзеля такіх адсталых краін, як Расія, няма зараз іншых шляхоў для хуткага разьвіцьця вытворчых сіл і аднаўленьня моцы рабочае клясы (а гэта ёсьць асноўныя прадпасылкі пасьпяховай барацьбы за соцыялізм), як шляхі капіталістычныя“ [1]) — гаворыць адзін з „тэорэтыкаў“ меншавізму. Адсюль вынік — назад, да капіталізму. Там у ўлоньні капіталістычнае грамады, пры існуючых умовах толькі можа быць „аднаўлена моц рабочае клясы“. Гэта ўстаноўка настойліва патрабуе нізрынуцьця дыктатуры пролетарыяту. Яна таксама выцякае з вучэньня сусьветнага меншавізму аб урастаньні капіталізму ў соцыялізм. Чым далей разьвіваецца капіталізм, тым па „тэорыі“ меншавікоў бліжэй ён падыходзіць да соцыялізму. Вось як яны малююць „пераход“ да соцыялізму:

„У той момант, калі кляса буржуазіі ператворыцца ў непатрэбную паразыцкую групу людзей, тады яе можна „адпіліць“. Гэта і будзе зьместам рэволюцыі. Становішча спраў будзе да таго часу відавочна такое: асноўная маса прамысловасьці будзе абагулена. Але ў гэтым абагуленым гаспадарчым будынку разьзяўляюцца, як раны, паасобныя прывілеі... Яны павінны быць зьнішчаны ў імя капіталістычнага працэсу“. [2])

*Пабудова* соцыялізму, гавораць меншавікі, магчыма толькі *ў улоньні* капіталістычнае грамады. Адмена паасобных прывілеяў—у гэтым сутнасьць соцыяльнай рэволюцыі. І, выходзячы з гэтага, трэба зьнішчыць савецкую ўладу, дыктатуру пролетарыяту ў СССР, як перашкаджаючую „праізрастаньню“ соцыялізму ў нетрах капіталізму. Трэба — па далінах — аднавіць гэтыя „нетры“, гэта значыць — капіталізм, і няхай у ім набіраецца сілы пролетарыят, чакаючы „адмены прывілеяў“, складаючай сутнасьць соцыяльнай рэволюцыі.

Такім чынам, у парадак дня ставіцца рэстаўрацыя капіталізму, зьнішчэньне дыктатуры пролетарыяту. У гэтым пляны меншавікоў супалі з плянамі міравой буржуазіі, сапраўдней, цалкам выцякалі як, з аднаго боку, з тэорытычных установак меншавізму, так і з політычнай ролі меншавікоў—агентаў капіталізму.

У сваёй барацьбе супроць дыктатуры пролетарыяту меншавікі імкнуліся выкарыстаць усе сродкі. Няма патрэбы пералічваць тут ўсе контр-рэволюцыйныя організацыі, у якіх прымала ўдзел гэта quasi-соцыялістычная партыя. Яе супрацоўніцтва з кадэтамі ў „Тактычным Цэнтры“, з англа-францускімі інтэрвэнцыяністамі — у ўрадзе Чайкоўскага і францускай окупацыі, яе прамая дапамога і падтрымліваньне Калчака і Дзянікіна — сталі дастаяньнем гісторыі. Ніякімі выкрутасамі гэтага ня зьнішчыш. Неабходна, аднак, тут падкрэсьліць ня гэта. Падкрэсьліць неабходна тое, што ў сваёй барацьбе супроць дыктатуры пролетарыяту меншавікі хватаюцца за ўсе ўхілы ў радох партыі з тым, каб скарыстаць іх для барацьбы супроць партыі бальшавікоў, супроць дыктатуры пролетарыяту.

---

[1]) Далін Д.—Экономическая платформа.

[2]) Далін Д.—„После войны и революции“.

„Выкарыстаньне ворагамі пролетарыяту ўсякіх ухіленьняў ад строга вытрыманай комуністычнай лініі, амаль з найвялікшай відавочнасьцю паказала сябе на прыкладзе кроштадцкага мецяжу, калі буржуазная контр-рэволюцыя і белагвардзейцы ва ўсіх краінах сьвету адразу выявілі сваю гатоўнасьць прыняць лёзунгі нават савецкага ладу, абы скінуць дыктатуру пролетарыяту ў Расіі... Меншавіцкія лісткі ў Петраградзе напярэдадні кроштадцкага мецяжу паказваюць, роўным чынам, як меншавікі выкарысталі рознагалосьсі і некаторыя пачаткі фракцыйнасьці ўнутры РКП(б), каб фактычна падштурхоўваць і падтрымліваць кроштадцкіх мяцежнікаў эс-эроў і белагвардзейцаў, выстаўляючы сябе на словах супраціўнікамі мецяжоў і прыхільнікамі Савецкай Улады, толькі з невялікімі, як быццам, „папраўкамі“, пісаў Ленін у першапачатковым проекце рэзолюцыі Х-га Зьезду РКП(б) аб адзінстве партыі. Уся далейшая гісторыя ўхілаў у УсеКП(б) пацьвярджае цалкам гэтыя словы Леніна. Не гаворачы ўжо аб троцкізьме, — простай плыні меншавізму, які быў падняты меншавікамі на шчыт, правая опозыцыя ўнутры УсеКП(б) знайшла сваіх аполёгетаў з боку меншавікоў. Іх компліманты правым, бязумоўна, зразумелы ў сэнсе тых, зусім правільных, да рэчы, надзей, якія меншавікі ўскладалі на правых опортуністаў. Правідлова лічачы, што ў выпадку паглыбленьня рознагалосьсяў паміж правымі і партыяй, правыя, бязумоўна, пяройдуць на плацформу меншавізму, меншавікі ставілі стаўку імення на паглыбленьне і пашырэньне гэтых рознагалосьсяў. І толькі стратай клясавага пачуцьця правымі можна тлумачыць іх упартасьць у барацьбе з партыяй, стварэньне бяспрынцыпнага права-„лявацкага“ блёку Сырцова, Ломінадзе і інш. на пляцформе, у якой — шмат ад меншавізму.

Апошні этап меншавізму — этап інтэрвэнцыянісцкіх дзеяньняў, шкодніцтва, прывеўшы іх на лаву падсудных сьледам за Рамзінымі, Ларычавымі і інш., ускрывае перад рабочай клясай Савецкага Саюзу і ўсяго сьвету сапраўдную сутнасьць меншавізму. Меншавізм ва ўяўленьні рабочае клясы з гэтага часу асоцыіруецца з контр-рэволюцыяй, шпіёнажам, здрадніцтвам, з Рамзіным, Рабушынскім, Пуанкарэ.

Так замкнуты той агідны круг, які ўключыў у орбіту сусьветнай буржуазіі, у орбіту падрыхтоўкі да інтэрвэнцыі супроць Савецкага Саюзу і меншавікоў. І не выпадкова на лаве падсудных сядзяць лёкаі міжнароднага капіталізму. Іх сутнасьць — сутнасьць лёкаяў, халопаў капіталізму, неаднаразова падкрэсьленая Леніным, ускрыта.

„Неабходна прадставіць маючым клясам дастатковы простор для мірнай барацьбы за ўплыў на ход спраў у дзяржаве і за ўплыў на народныя масы“ — так ставіў пытаньне калісьці ў „Социалистическом Вестнике“ Мартаў. Зараз, не здавальняючыся гэтым, меншавікі проста ставяць пытаньне аб узброенай інтэрвэнцыі супроць савецкай улады. Ніякіх „мірных“ уплываў! І гэта зразумела. Посьпехі соцыялістычнага будаўніцтва, выкананьне пяцігодкі ў 4 гады з кожным днём паслабляюць надзеі капіталістаў і меншавікоў на магчымасьць скінуць дыктатуру пролетарыяту. Надзеі на тое, што ўдасца зваліць дыктатуру пролетарыяту ўнутры — канчаткова адпалі. Застаўся адзіны шлях — шлях інтэрвэнцыі. Вось чаму меншавікі апынуліся ў ліку ліжучых боты генштабаў і правадыроў фашызму ў капіталістычных краінах.

Нарэшце — бясслаўны канец лёкаяў, папаўшыхся на тым-жа, на чым папаўся і пан. Іх лёс — лёс Рамзіных, Ларычавых і інш. — ня ў сэнсе прыгавору пролетарскага суду, але ў сэнсе політычнага канца гэтых людзей, калісьці спрабаваўшых вярцець па-свойму калясо гісторыі.

Іх апошні прытулак — памыйная яма гісторыі.

Гр. Бараба

# Заходня-украінскае працоўнае сялянства ў барацьбе без окупацыяй *)

Ад стагоў і сьцірт збожжа і сена над сёламі Заходняй Украіны бліскае зарава пажараў. Гараць панскія фольваркі, гараць стагі і гумны асаднікаў. Ужо пачалі займацца дамы і сьвірны украінскіх паўпанкаў і кулакоў. З двух-трох падпалаў кожны дзень, апошнія дасягаюць у верасьні свайго кульмінацыйнага пункту — ад 12 да 18 падпалаў у кожную ноч. Пажары ахапілі амаль усе паветы Усходняй Галіччыны, перакінуліся на Валынь, закранулі Заходнюю Беларусь. Гарыць нарабаванае, дрыжаць памешчыкі і кулаччо, хістаецца окупацыя.

А за дымам і зарывам пажараў падняўся пыл ад конскіх капытоў карных вайсковых экспэдыцый, ад цяжкіх ботаў паліцэйскіх тысяч „пацыфікатараў" і ўціхамірвальнікаў рэволюцыйнай барацьбы сялянскай беднаты. Нібы дзікая орда, нібы новы наезд гунаў на сёлы Заходняй Украіны. Панёсься стогн, крык роспачы бітых, аграбленых і змардаваных. Пусьцеюць сёлы — насельніцтва ўцякае ў лясы.

Карнымі экспэдыцыямі, кулямі і бізунамі, агнём, рабаваньнем ды зьнішчэньнем усяго культурнага здабытку заходя-украінскіх працоўных намагаецца польскі фашызм задушыць выбух вызваленчай барацьбы заходня-украінскага сялянства. Разгарэлася барацьба не на жыцьцё, а на сьмерць, барацьба да пераможнага канца над окупацыяй, над панаваньнем буржуазіі. Толькі ў перамозе над фашызмам бачаць працоўныя масы З. У. выхад з катастрофы, да якое давяла іх дванаццацігадовая окупацыя і панаваньне буржуазіі.

Дзесяцігадовае грабежніцкае гаспадараньне польскай буржуазіі прысьпяшыла паглыбленьне і завастрэньне процэсаў паўпэрызацыі і полярызацыі заходня-украінскага сяла, якое церпіць вялікі голад (90% сельскіх гаспадарак без зямлі і малазямельныя). Заняпад і таго мізэрнага промыслу, які быў да вайны (нафтавы, драўляны, саляварны і броварны), затрыманьне ўсякай эміграцыі, а перад усім у Амэрыку, звальненьне украінскіх рабочых з дзяржаўных прадпрыемстваў (чыгунка, ваенны промысел, ніжэйшая служба), урэшце, вайсковае асадніцтва, фашысцкая ліквідацыя сэрвітутаў ды кулацкая грабежніцкая комосацыя адабралі да рэшты шматкі зямлі ад сельскага насельніцтва і пазбавілі шырокія сельскія масы варштату працы, паўпэрызавалі іх ды пагналі наймацца ў фольваркі. Пра тэмпы полярызацыі, пра ўзрост і завастрэньне клясавай барацьбы на вёсцы З. У. ды голад на зямлю сьведчаць частыя выпадкі барацьбы беднаты супроць кулакоў за выганы, за пасьбішчы (Падбуж, Дарожаў, Явароўшчына, Бродшчына). Барацьба супроць комосацыі ў Горадзеншчыне, Крэмянеччыне, Арэхава-

*) Гэты артыкул перадрукоўваецца з органу ЦК КПЗУ „Наша Праўда".

Ковельшчыне і, урэшце, на Гарохаўшчыне, дзе бядняцкая маса на сходах па справе комосацыі вырашае супроць волі стараставай камісіі, каб на сходзе брала ўдзел усё дарослае насельніцтва вёскі, а ня толькі ўласьнікі зямлі, гаспадары, ды ставіць у залежнасьць сваю згоду на комосацыю ад таго, будуць ці не абодвы суседнія фольваркі ахоплены комосацыяй і падзелены бяз выкупу паміж сялянамі. Процэсы радыкалізацыі і актывізацыі сельскай беднаты ахапляюць ня толькі украінскія вёскі, але і польскія на З. У., прыкладам чаго зьяўляецца выпадак у Качаноўцы.

Сельска-гаспадарчы крызіс у Польшчы зваліўся ўсім сваім цяжарам на украінскія вёскі. Падатковыя цяжары, адміністрацыйныя штрафы, эксплёатацыя памешчыкамі і ліхвярамі зацягвалі і зацягваюць з кожным разам усё мацней шнурок на шыі шырокіх бядняцкіх і серадняцкіх мас З. У. Соцыяльная няволя ўзмоцнена яшчэ нацыянальным уціскам і рэжымам окупацыі. Поліцыянт стаў усяўладным панам у заваяваным краі—кіруе, судзіць, карае, кіруе школаю, царквою, самаўрадамі, гаспадарчымі і культурнымі ўстановамі.

## Забастоўкі сел.-гас. рабочых ды падпалы

Бядняцкія масы вёскі Заходняй Украіны, загнаныя окупантамі ў няволю, замкнёныя гермэтычна поліцэйскім рэжымам у сваім пекле—галечы сяла, з кожным разам, шляхам барацьбы з гвалтаўнікамі, шукаюць выйсьця са становішча, парываюцца на окупантаў і „роднага“ супольніка іх—украінскую буржуазію. За ўвесь час уладаньня польскай буржуазіі і памешчыкаў Заходняя Украіна зьяўляецца тым незгасаючым вульканам, які вечна дыміцца і бурліць, які час-ад-часу патрасае асновы дыктатуры капіталу і окупацыі. Прыдушаны і пагашаны крывёю, турмамі і расстрэламі ў адным месцы, выбухае ў другім, зломлены ў аднэй форме барацьбы, хапаецца за другую, але ўсё мацней, шырэй і гразьней. Усё трудней і з большым намаганьнем удаецца окупантам апаноўваць становішчам, утрымлівацца ў сядле.

Пасьля шырокай стыхійнай хвалі т. зв. саботажаў, падпалаў памешчыкаў у 1921-23 г. г., задушаных у крыві наглымі судамі, расстрэламі (Мяльнічук, Шарамета, Залачэўскія расстрэлы, Дзітрых, Саланенка ды сотні іншых) маем у 1924-25 г. на Валыні, як і на Заходняй Беларусі, т. зв. дывэрсыйную барацьбу, узброеныя сялянскія атрады нападаюць на фольваркі, забіраюць жывёлу, паляць, разганяюць поліцэйскія пастарункі, адбіраюць хлеб ад экзэкутараў, сабраныя падаткі і г. д. Паўстаюць ватагі, якія экспропрыююць багатых, ды дапамагаюць бедным.

Яшчэ ня суціх зусім стогн змардаваных па лёхах дэфэнзыў тысяч валынскага рабоча-сялянскага актыву, яшчэ не зарасьлі магілы расстраляных барацьбітоў і яшчэ сьвежыя ў памяці катаржныя бестэрміновыя прысуды валынскіх судоў, а ўжо сялянская бядняцкая маса З. У. падымаецца зноў на барацьбу. Ужо больш сьвядома, лепш з‘організавана — у забастовачнай барацьбе. Клясава ўсьвядомлены, з‘організаваны ў рэволюцыйных організацыях і ахоплены іх уплывамі, сельскі пролетарыят, сельская бедната са стіхійнай пераходзяць на вышэйшую ступэнь організаванай клясавай барацьбы. Змагаюцца за свае штодзенныя экономічныя дамаганьні супроць эксплёатацыі, за зямлю бяз выкупу, высоўваюць палітычныя заклікі, мобілізуюць наўкола іх шырокую сялянскую масу. На чале руху становіцца ўжо пролетарыят, як гегемон і кіраўнік супольнай барацьбы.

Пачынаючы ад 1927 году з Самборшчыны, хваля забастовак с.-г. рабочых і сельскай бядняцкай масы ўзрастае ў наступных гадох, ахапляе іншыя паветы і тэрыторыю краю. Праз крывавыя разгоны бастуючых Грэбянога і Бацяціча ў 1928 г. хваля забастовак у 1929 г. узрастае, ахапляе ўжо каля 20-ці паветаў, каля 120 сёл ды каля 50 тыс. бастуючых сельскіх пролетараў і сялян-падзёньнікаў. Забастовачная барацьба ўпартая, баявая частка прасякнута політычным зьместам і непасрэдна накіравана супроць фашысцкай дыктатуры. На вёсцы ўтвараецца агульны фронт зямляробчага пролетарыяту, украінска-польскага, у саюзе з серадняком накіраваны ня толькі супроць польскага памешчыка і капіталістага, але і супроць украінскага буржуа ды кулака. Барацьба на вёсцы падтрымана прамысловымі рабочымі, і часта праводзіцца пад іх непасрэдным кіраўніцтвам (Сокаль).

У 1930 г. забастовачная барацьба на вёсцы не зьмяншаецца, хоць колькасьць забастоўшчыкаў значна падае, і працягваецца бязупынна праз усю зіму да жніва. Барацьба вострая, упартая. Да якой заўзятасьці даходзяць у сёлетняй забастовачнай барацьбе абодвы бакі, сьведчыць адна забастоўка на Гарохаўшчыне. Памешчык кажа, няхай пшаніца загіне на пні, а „лайдаком ані капейкі павышэньня ня дам“. Пшаніца асыпаецца і гніе, а работнікі на работу ня ідуць. Або другі выпадак — ужо машынаборства. Памешчык, каб зламаць забастоўку, справаджвае жнівяркі. Адну жнівярку забастоўшчыкі зьнішчаюць на полі, а другую — нападаюць грамадою на двор і ў маёнтку ламаюць.

Шарварковая забастоўка ў сяле Далява ў 1930 г. і выступленьні радных у грамадзкай радзе ў Волі Якубавай, Драгабыцкага павету, у 1929 г. супроць шарварковых цяжараў, супроць полёнізацыі, за права украінскай мовы і г. д. — усё гэта сьведчыць аб бязупыннай не пагасаючай барацьбе сялянскіх мас.

Каб зразумець цяперашні стан клясавай барацьбы на заходняукраінскай вёсцы, яе форму і сілу, каб выясьніць, чаму такі, а ня іншы яе прабег, — у першую чаргу трэба сьцьвердзіць, што ні забастовачная барацьба, якая пераважна была організаванай, калі не ў пачатку, дык у самым канцы, ахапіла ў 1929 г. каля 120 вёсак, ні іншыя організаваныя выступленьні сельскай масы, не абыймалі ўсёй сельскай тэрыторыі З.У. Усяго сельскага адценьня клясавай барацьбы З.У. за ўвесь час окупацыі наша партыя ды іншыя рэволюцыйныя масавыя організацыі, апрача значных посьпехаў, дасягненьняў і праробленай работы, апрача шырокіх сваіх уплываў ды здабытага давер'я працоўных мас гораду і вёскі З.У. — не ахаплялі і тым самым ня былі дамінуючым, організуючым у ёй фактарам. Былі цэлыя палосы краю, цэлае Падольле, найбольш спаўпэрызаванае ды ахопленае цяпер найшырэй хваляй падпалаў, маючае за сабою традыцыі слаўнай забастовачнай барацьбы 1922 г., — дзе нас, як організатараў штодзеннай барацьбы беднаты на вёсцы, ня было гадамі. Нават і там, куды дасягалі нашы ўплывы ды організацыйныя сувязі, і там, дзе вялася намі барацьба, ня ўсё ўвязвалася, як сьлед, з пэўнымі заданьнямі, ня ўсе ўмелі коордынаваць барацьбу на вёсцы, пашыраць яе, паглыбляць, разьвіваць ды ўцягваць з кожным разам шырэйшыя колы, з кожным разам за новыя і шырэйшыя дамаганьні. Організаваць ня толькі барацьбу супроць эксплёатацыі памешчыка і кулака, але і супроць усякіх іншых форм эксплёатацыі (падаткі, штрафы ды іншыя зьдзірствы), супроць усіх форм падняволеньня і зьдзекаў. Ня ўсе ўмелі ацаніць правільна настроі на вёсцы, пазнаць сілу ворага ды яго тактыку і адпаведна гэтаму прымаць захады. Ня ўсе ўмелі падымаць барацьбу на вышэй-

шыя ступені. З забастовачнай барацьбы 1929 г. нашы клясавыя ворагі на вёсцы шмат чаму навучыліся, фашызм з усім сваім апаратам гнёту стаў на абарону памешчыкаў. Мы, ведаючы пра гэта, ня здолелі процістаяць, растлумачваць масам, прарабіць організацыйныя захады, каб перамагчы новыя труднасьці, каб пераламаць тэрор. Сельска-гаспадарчы крызіс, які, з аднаго боку, усім сваім цяжарам біў па працоўных і штурхаў іх да барацьбы, з другога — выклікаў адпор з боку памешчыкаў (прыкладам Гарохаў). Толькі грунтоўнейшая падрыхтоўка забастовачнай барацьбы на пашырэньне забастовачнага фронту і разгортваньне барацьбы на вёсцы за ўсе набалелыя пытаньні сельскай беднаты ды накіраваньне яе супроць асноўнага ліха — капіталістычнага ладу і окупацыі, — маглі пашырыць земляробчыя забастоўкі, ахапіць рэволюцыйнымі настроямі ды даць магчымасьць нашай партыі стаць на чале барацьбы працоўных вёскі З.У.

Сялянская маса, даведзеная да крайнасьці, у гэтым годзе зноў рашуча падымаецца на барацьбу супроць сваіх клясавых ворагаў. Бязупыннае нарастаньне элемэнтаў рэволюцыйнай сытуацыі падымае рэволюцыйныя настроі мас да ўсё вышэйшага і вышэйшага напружаньня, а ў барацьбе ўсё часьцей выяўляюцца элемэнты грамадзянскай вайны.

Паводле вылічэньняў аднэй польскай варшаўскай газэты, да канца жніўня спалена ва Ўсходняй Галіччыне 62 дамы, 67 абор і іншых гаспадарчых будынкаў ды 112 сьцірт збожжа і сена, са стратай 6.743 тысяч злотых. У верасьні падпалы ўзрасьлі яшчэ больш — каля 18 падпалаў у кожны дзень. Праз год гэтыя лічбы ўжо падвоіліся і патроіліся.

Масавасьць ды шырыня хвалі падпалаў — уся Ўсходняя Галіччына і Валынь ды часткова Заходняя Беларусь. Гараць панскія сьцірты ды фольваркі і там, дзе сялянскае насельніцтва знаходзіцца яшчэ пад уплывамі украінскіх нацыяналістычных груповак, сярод якіх жывіцца і УВО і па вёсках пад уплывамі КПЗУ ды рэволюцыйных партый, па вёсках, якія яшчэ ў гэты самы год вялі з памешчыкамі забастовачную барацьбу (Валынь, Любомшчына, Гарохаўшчына). Падпалы ўжо ня толькі сьцірт і фольваркаў польскіх памешчыкаў і асаднікаў, але і украінскіх папоў і кулакоў, ды сельскіх спэкулянтаў, якія дапамагаюць карным экспэдыцыям, гавораць самі за сябе аб клясавым, соцыяльным, рэволюцыйным іх настроі. Што стыхія гэта ахапіла ўсё бядняцкае насельніцтва вёскі — дарослых і дзяцей, сьведчаць выпадкі, калі 10-12 гадовыя хлапцы падпальваюць панскія ды папоўскія сьцірты (Заболотцы, павет Жыдачоў), або калі сельскія 10-гадовыя пастушкі разносяць кучы каменьняў на чыгуначнай лініі, каб зрабіць крушэньне цягніка (Корчын, Скольшчына, Каламыя). У падпалах прымае ўдзел і фальварковае батрацтва. Гэты стыхійны рух сялянскіх мас сваёй вострасьцю накіраваны ня толькі супроць окупанта польскага фашызму, а таксама і супроць уласнай буржуазіі і кулака. Таму якраз усе партыі украінскай буржуазіі ад УНДО да УСДП так рашуча яго асуджаюць, як комуністычную анархію, таму яны так старанна дапамагаюць польскаму фашызму патапіць у крыві героічную барацьбу мас вёскі.

Ці не найлепш сьведчыць пра тое, што падпалы не зьяўляюцца справай украінскай буржуазіі, ці там яе баявога атраду УВО, а ёсьць масава-стыхійная рэволюцыйная барацьба вясковай беднаты, галасы украінскай буржуазнай прэсы: „Діло“, „Новий Час“, дэклярацыя зблёкаваных партый УНДО-УСРП і УСДП ды такіх аўторытэтных фігур, як граф Шаптыцкі і яго духавенства.

Зразумела, што тым самым агульным шляхам усёй украінскай буржуазіі ідзе і яе атрад УВО. Каб заваяваць масы на свой бок, каб іх адцягнуць ад рэволюцыйнай барацьбы, УВО падмазваецца да сялянскага руху, опэруе нацыяналістычнай фразай. Яна зьнішчае польскія помнікі, зьдзірае арлы, нават забівае сяды-тады прадстаўнікоў улады (Сабінскі). Есьць выпадкі падпалаў, якія зроблены УВО, але гэта ня можа азначаць, што рух падпалаў, ды зьнішчэньня дзяржаўных об'ектаў быў выкліканы ды організаваны УВО. Бясспрэчна, што нізавыя сельскія організацыіі УВО, якія паддаваліся сельскай стыхіі, якія яшчэ нацыянальна-рэволюцыйную фразэолёгію УВО прымаюць за добрую монэту, дзе-ні-дзе і падкладвалі агонь пад панскія сьціrты. Але гэта гаворыць толькі пра сілу, разгон стыхіі, якая захапляе нават членаў організацыі, якая на сваім сьцягу выпісала лёзунг абароны прыватнай уласнасьці. Гэта якраз сьведчыць, што хваля падпалаў і актаў зьнішчэньня дзяржаўнай маемасьці не зьяўляецца работай УВО, як гэта хоча даказаць уся польская прэса і ўрадавыя чыноўнікі для прыкрыцьця тэрору, які быццам-бы ўжываюць не ў адносінах да заходня-украінскага насельніцтва, а толькі да аднэй тэрорыстычнай організацыі.

Палееў у „Новым часе“ ад 25 жніўня 1930 г., каб ня было ніякага сумненьня, заяўляе: „перарэзваньне дратоў каля Львова даканала УВО. Гэта ня ёсьць выключэньне, таксама, як ня ёсьць выключэньне, што гэта справа комуністычнай організацыі. Але ў нашай галаве ня можа зьмясьціцца, што падпалы фольваркаў могуць быць справай УВО, г. зн. тэй рэволюцыйнай організацыі, якая мае галаву і ногі, якая прасьледуе нейкі разумны плян“..., а каму лепш ведаць, што робіцца ва украінскай фашысцкай сям'і, як не яму.

Згаджаемся з панам Палеевым, што УВО ніяк ня можа пайсьці разам з рэволюцыйным сялянскім рухам, які хістае асновы польскага фашызму, бо гэта-ж азначала-б пайсьці на барацьбу супроць самога сябе, а заданьнем УВО, як і ўсёй украінскай буржуазіі, зьяўляецца організацыя блёку, саюзу з польскай буржуазіяй. Зразумела, што сярод аднэй буржуазнай сям'і ёсьць свае сямейныя трэньні, нязгоды ды спрэчкі.

Трэньні, а часамі можа ў пэўных разьмерах і барацьба польскага фашызму з атрадам украінскай буржуазіі УВО зьяўляюцца ўнутранай барацьбой аднэй і тэй самай клясы за лепшую позіцыю украінскай буржуазіі ў межах фашысцкай Польшчы за падзел прыбыткаў, за эксплёатацыю украінскіх працоўных. Фашызм ужо ня раз даваў пазнаць, што ён разумее добра сапраўдную мэту і заданьні УВО, ён можа нават чакаць і прыглядацца спакойна да работы УВО (словы п. Сухенкі на конфэрэнцыі друку). Затое польскі фашызм, шукаючы выхаду з крызісу сваёй гаспадаркі ў нападзе на СССР і рыхтуючыся прысьпешаным тэмпам да яго, ніводнай гадзіны ня можа чакаць і раздумваць, што рабіць, калі украінская працоўная сялянская маса паднімае галаву, пасягае рукой на панскую зямлю, пачынае страсаць з сябе дармаедаў, рваць кайданы окупацыі, калі тэрыторыю ваеннага нападу на Савецкі Саюз і базы ваенных опэрацый пачынае залівáць рэволюцыйная хваля. Ён з усёй сілай б'е па ёй мячом і агнём, шыбеніцамі ды гвалтамі стараецца задушыць гідру бунту украінскага „хамства“.

Ня горш, як буржуазія і фашысцкі ўрад, ацаніла і зразумела заданьні сваёй барацьбы як супроць польскай, так і супроць украінскай буржуазіі сялянская маса. Рад фактаў адмаўленьня сельскай беднаты вартаваць панскія сьціrты і фольваркі, адмаўленьняў ад

выплаты штрафаў за няяўку на варту (Курыўцкі, Пасада) — гавораць самі за сябе. Сялянская маса спакойна пазірае на пажары і няма выпадку, дзе-б сяло ды яго пажарныя організацыі сьпяшаліся дапамагчы гасіць панскія сьціртры ды будынкі. Ды ня толькі не сьпяшаюцца добраахвотна гасіць фольваркі, але актыўна даюць адпор поліцыі, калі яна прымушае і гоніць гасіць пажары (Львоўскі павет). У Чарткоўшчыне на дапамогу ўцякаючым ад поліцэйскіх падпальшчыкаў сьпяшаецца выкліканае нагла царкоўнымі званамі насельніцтва дзьвёх вёсак і не дае іх злавіць. Характэрнай, напрыклад, зьяўляецца выпушчаная лістоўка ў вёсцы Запытовай, каля Львову, у якой нясклааднымі сялянскімі выразамі заклікаецца да барацьбы супроць окупацыі, да падпалаў фольваркаў, а таксама паграджаецца сьмерцю буржуазіі і кулакам.

І хоць ужо другі месяц бушуюць па вёсках З. У. „пацыфікацыйныя“ атрады Пілсудзкага, па тры і больш раз заяжджаюць у вёскі, б'юць і забіваюць дзесяткі і сотні, арыштоўваюць тысячы сялянскага актыву, — падпалы ўсё-ж ткі пашыраюцца. Клясавы фронт на вёсцы ўсё больш становіцца акрэсьленым і выразным.

## Украінская буржуазія і яе „соцыялістычныя“ прыслужнікі УСДП, УСРП і шумскаўскія рэнэгаты

Рэволюцыйнае стыхійнае, ярка клясавае выступленьне заходня-украінскіх працоўных на барацьбу за сваё соцыяльнае і нацыянальнае вызваленьне стала як-бы вадападзелам паміж рэволюцыйнымі і контр-рэволюцыйнымі сіламі і на З. У., паміж працоўнымі і украінскай буржуазіяй ды яе політычнымі групоўкамі ад УНДО праз УСРП да УСДП уключна. УНДО першы ўдарыў у звон трывогі, першы праз свае друкаваныя органы „Діло“, „Новий час“, „Свобода“ ды інш. выступіў супроць гэтай сялянскай барацьбы, асудзіў яе, запляміў, як „шкодную ня толькі для нашага краю, але і для украінскай (чытай — буржуазнай) справы наогул“. „Мы, — піша „Діло“, — наўмысьля і з прынцыповых меркаваньняў супрацiўляемся супроць усякага зруйнаваньня і анархіі, адкуль-бы яны не паходзілі, *асуджаем зьнішчэньне прыватнага дабра,* ня гледзячы на тое, хто яго набыў“. „Діло“ за конструкцыйную працу і разбудову, разумную самаабарону культурнымі спосабамі. На такі подлы, нікчэмны голас пра падпалы не адважылася ні адна найчарнейшая польская рэптылія, ні адзін „кур'ерык“ не аказаўся здольным на тое, на што здольны „Діло“ і „Свобода“. Выцьцё параненага зьвера польскай рэакцыі і мобілізацыя яе сіл супроць бунтуючага украінскага сяла, зруйнаваньне і пагром ёю украінскіх культурных і гаспадарчых установ для „Діла“ „толькі па форме накіраваны супроць украінскіх працоўных, а па сутнасьці супроць ураду“. Для „Діла“ і „Свободы“ падпалы не зьяўляюцца актамі нацыянальна-вызваленчай барацьбы — гэта памылка, ашуканства, гэта ўнушэньне польскіх галасоў „шырокае польскае і украінскае грамадзянства“ (у вялікай меры прасякнутае польскімі галасамі) гэтыя падпалы называе нейкім актам украінскай вызваленчай барацьбы“. („Діло“, 201).

Папы з амбонаў сыплюць громам на „бальшавіцкую анархію“.

Напалоханы кулак з УСРП скавыча: „вар'яты“, „анархія“, і ўцякае пад апеку Шаптыцкага благаслаўляць карныя экспэдыцыі тысяч поліцыі на пагром сельскай бедняты і на абарону сваіх стагоў. А за імі верны сабачка, высалапіўшы язык, гоніцца УСДП. Прыяцель Гаўзнэра, Мікола Ганкевіч у органе „абаронцаў Львова“ „Дзеньніку Лю-

довым" абураецца: як-жа так нелегальна паліць, нават без дазволу ўлады, „на ўласную руку без найменшага контролю грамадзтва ды яго організацый (г. зн. паліцыі)". Гэта ня мае мэты, пазбаўлена сэнсу і політычнага розуму, для украінскай справы проста шкодна".

І шумскаўскія рэнэгаты не застаюцца ззаду. Для іх гэты рух прасякнуты „фашысцкай ідэолёгіяй УВО", яны сьпяшаюцца на дапамогу фашысцкім сілам дывэрсійнымі выпадамі супроць комуністычнай партыі і ў самы гэты момант завастраюць агрэсыўнасьць сваіх здрадніцкіх атак на нашу партыю, каб затрудніць ёй магчымасьць стаць на чале барацьбы сялянскай масы.

Дзе бой, там гіены выюць. Падлазіць цішком чорнасоценнае РСО і ў вагні барацьбы стараецца сьпячы сваю яешню. Паказвае абурэньне на украінскую буржуазію за яе варожыя адносіны да руху і, прымаючы маску „прыяцеля", хоча заслужыць давер'е сельскай беднаты, каб вось такім шляхам адцягнуць яе ад барацьбы ды ўсякімі абыходнымі сьцежкамі давесьці да фашысцкага лягеру, а адначасова зварачаецца да УНДО з прапановай агульнага выбарчага фронту. І такія-ж самыя выпісваюць лёзунгі „Зямлі і Волі" аднафронтоўцы санацыі з РНО, Капысьцянскі з Карпатарусаў, якія ў 1918-20 г. г. з Калчакамі і Дзянікінымі ішлі бараніць памешчыцкую зямлю ад расійскага бедняка.

УВО дэкляруе свае позіцыі ў тэй барацьбе на контр-рэволюцыйным баку яшчэ ярчэйшымі актамі. Нападае на рабоча-сялянскія організацыі, ячэйкі (Сіла), солідарызуецца з Галушчынскім, які выклікае паліцыю на украінскую школьную моладзь. „Скажам адкрыта і ня таячы свайго абурэньня, — піша галава „Просьвіти", ундаўскі сэнатар п. Галушчынскі, — што вінаватыя, але сапраўдныя, у ободвых выпадках (выкіданьне з украінскай гімназіі ва Львове портрэту Масьціцкага ды абліваньне атрамантам памятнай табліцы), ня гледзячы на тое, хто яны — украінцы ці іншыя, а нават і тыя, што раілі ці згаджаліся з гэтым *павінны быць належна пакараны* (падкрэсьлена намі — *Гр. Б.*). Нават калі-б гэта мела выходзіць з „ідэйных" мотываў на думку тых, што правінаваціліся, то нават і ў такім выпадку зьяўляецца гэта недаравальнай „провокацыяй", ды называе яе ўчынкі і выразы протэсту супроць окупацыі „д'ябальскімі".

### Тушэньне рэволюцыйнага пажару

Заходняя Украіна ад 1914 г. была пастаяннай тэрыторыяй вайны. Пракаціліся па ёй усякія арміі, але за выключэньнем окупанцкіх ордаў Пілсудзкага ў 1919-20 г., такога гвалту салдатчыны і руйнаваньня ўсяго здабытку і маемасьці заходня-украінскіх сельскіх мас, зьнішчэньня ўсіх культурных і гаспадарчых устаноў „Просьвіт", коопэратываў, зачыненьня ўкраінскіх школ, зьнішчэньня бібліотэк, помнікаў, як гэта зараз учыняюць карныя вайсковыя экспэдыцыі і паліцэйскія „тысячкі" польскага фашызму — яна яшчэ не зазнала. Не абвешчаны, але фактычна заведзены, ваенны стан запанаваў на Зах. Украіне. Агульная адказнасьць усяго насельніцтва маемасьцю і жыцьцём, якой ніколі ня ведалі нават мад'ярскія вешальнікі ды пагромшчыкі Бобрынскія ў часе вайны, пачалі прыстасоўвацца культуртрэгерамі, польскай окупацыйнай уладай. Руйнаваньнем сёл, мардаваньнем і гвалтаваньнем жанчын, грабежніцтвам, контрыбуцыямі і шыбеніцамі вырашыў крывавы кат Пілсудзкі перамагчы „зухвале хлопске хамства". З лёзунгам — без пардону і літасьці — рушылі на зах.-украінскія вёскі паліцэйскія „тысячкі" ды кавалерыйскія дывізіі. Горш, як калісь дзікія татары, оку-

пацыйныя банды рушаць ад павету да павету, ад вёскі да вёскі. Акружаюць вёску з усіх бакоў, зганяюць насельніцтва ў адно месца і разьдзяваюць дагала і, „каб опрычнікі не памыліліся“, ня б‘юць на колькасьць удараў, а на час. Па 15-30 хвілін лупцуюць безабаронную сялянскую масу мужчын, жанчын, старых ды малых. Б‘юць цапамі, нібы снапы на таку. Ад пабояў шмат гіне на месцы (6 забіта ў с. Курыўцох), а сотні дагараюць па шпіталях. Зганяюць з хат жанчын на пляцы і кідаюцца „баявыя рыцары“ на перапалоханых жанчын і гвалтуюць іх.

А потым кідаюцца ад хаты да хаты і ўсё пераварочваюць да гары дном. Ломяць, зьнішчаюць, разьбіваюць, высыпаюць збожжа ў гразь і перамешваюць з зямлёю, забіраюць курэй, гусей, сьвіней і жывёлу, збожжа і сена і вывозяць з вёсак. Зраўноўваюць будынкі коопэратываў і „Просьвіт“ ды тавар і маемасьць іх з зямлёю. Накладаюць контрыбуцыю на вёскі і бяруць заложнікаў. Пасьля выхаду пацыфікатараў вёска мае выгляд, як пасьля гурагану. Недарма, калі насельніцтва атрымае вестку, што ідуць карныя экспэдыцыі, яно кідае хаты на ласку лёсу і ўцякае хавацца ў лясы. Экспэдыцыі варочаюцца ў адны і тыя-ж вёскі па тры і больш раз. Разрабаваны паветы Падгаецкі, Рагацінскі, Беражанскі, Збараскі, Бучацкі і Перамыскі, Самбірскі, Раўскі ды інш.

А ў гэты самы час украінскі фашысцкі лягер з панямі Лявіцкімі, Макухамі і Ганкевічамі становіцца „ў позу“ і „ласкава“ просіць Пілсудзкага „прыняць захады“. Свім ганебным комунікатам тры партыі УНДО, УСРП, УСДП, як у 1919-20 г.г., становяцца на баку окупанта, гвалтаўніка, паліцэйскіх тысячак і асуджаюць барацьбу украінскіх сельскіх працоўных мас ды сьпяшаюцца праз Шаптыцкіх, Лявіцкіх і Галушчынскіх дапамагаць „пацыфікаваць“ краіну, бо:

> ...„Усякая ўлада заклікана да таго, каб з такімі зьявамі змагацца, каб бараніць парадак, каб вінаватых у яго парушэньні прыцягваць да карна-судовай адказнасьці. Усё гэта ў парадку і ў поўнай згодзе з лёгікаю. Так у сьвеце ўсё было і так будзе“. („Діло“, 29/IX).

Гэты голас украінскай буржуазіі не патрабуе ніякіх комэнтараў— больш сказаць нічога ня можна. Яна ўжо наперад дае сваю згоду і дапамогу на разгром украінскага нацыянальна-вызваленчага руху, наперад робіць справядлівым тэрор і заахвочвае фашысцкіх судзьдзяў да вынясеньня катаржных прысудаў, бо „гэта ў парадку і ў поўнай згодзе з лёгікаю“ клясавай барацьбы, бо „так у сьвеце ўсё было і будзе“, так яна сама рабіла ў 1918-20 г.г. і так робіць і думае рабіць.

Барацьба застаецца і надалей і будзе працягвацца, ня гледзячы на ўсе намаганьні фашызму задушыць яе. Гараць ужо лясы. Паліцэйскіх і вайсковых банд вітаюць стрэламі, насельніцтва ўцякае ў лясы, і мы ўжо маем элемэнты ўзброенай барацьбы ў форме абстрэльваньня паліцыі і войска ды разброеньня жаўнэраў і біцьця асаднікаў і г. д. Задушаная ў адным выглядзе, барацьба праяўляецца ў іншай форме, бо мацнейшыя за фашысцкі тэрор тыя прычыны, якія яе выклікаюць, спыніць якую зможа толькі пераможная рэволюцыі ў Польшчы і на Заходняй Украіне. Комуністычная партыя, становячыся на чале рэволюцыйнай барацьбы сялянскіх мас, ахапляючы яе організацыйна ды ўвязваючы яе з барацьбою прамысловага пролетарыяту і рэволюцыйных сіл

у Польшчы, зможа паставіць яе на вышэйшую ступень праз узброенае паўстаньне да зьвяржэньня фашысцкай дыктатуры.

## Лёзунгі і формы організацыі барацьбы на вёсцы

Тая барацьба, якую зараз вядзе заходня-украінскае працоўнае сялянства супроць окупацыі ў цэлым, зьяўляецца афэнзыўнаю, зьяўляецца наступленьнем працоўных. У цяперашняй стадыі гэтай барацьбы афэнзыўнасьць масы выяўляецца ў непасрэдных выступленьнях сельскага актыву ды шырокай масы сялянства ў геройскай абароне і барацьбе з тэрорам, якія падтрымліваюць выступленьні актыву, але яшчэ ўсёй сваёй масай, усёй гушчай не перайшлі непасрэдна да наступленьня, да штурму фольваркаў і супроць окупацыйнай улады. Трэба іх толькі падняць да наступленьня, паказаць шырокія дарогі для мас, паказаць відныя і замаскаваныя об'екты і позіцыі ворага. Гэта можа зрабіць толькі наша партыя, углядаючыся на рэволюцыйную барацьбу працоўных Савецкага Саюзу ў 1905 і 1917 г.г.

Нашы галоўныя лёзунгі: зямля бяз выкупу сялянам і сельска-гаспадарчым рабочым, прэч окупацыю — павінны стаць уласнасьцю, паказальнікамі дарогі для рэволюцыйных сіл заходня-украінскай вёскі. Для мобілізацыі і організацыі сялянскай масы на барацьбу насьпела пара высоўваньня і рэалізацыі лёзунгу — ані капейкі падатку фашысцкай уладзе. Ня выконвайце распараджэньняў улады, не плацеце ліхвярскіх даўгоў і процантаў банкам, ліхвяром. Прэч экзэкутараў і каморнікаў з вёсак! Барацьба супроць усякай эксплёатацыі, організацыя забастовачнай барацьбы за павышэньне платы сельска-гаспадарчым і лясным рабочым, за 8-гадзінны рабочы дзень. Барацьба супроць нявольніцтва ў вёсках Заходняй Украіны ў форме нячуванага паднявольненьня кулакамі батракоў. Высоўвайце лёзунг: бярэце з лясоў дрэва на адбудову зьнішчаных вайной будынкаў ды апал, організуйце масавае высяканьне на гэтыя патрэбы сельскай беднатой лесу ды спасвайце дваровыя пасьбішчы і лясы. Супроць шарваркаў, комосацыі і грабежніцкай ліквідацыі сэрвітутаў. Барацьба супроць папоўскіх і царкоўных зьдзірстваў. Барацьба з усімі клясавымі ворагамі на вёсцы. Барацьба за частковыя дамаганьні сялянскай масы.

Організацыя забастовак украінскай дзетварой і бацькамі ў сполёнізаваных і ў дзьвёхмоўных школах і выгнаньне полёнізатараў - настаўнікаў з вёсак. Супроць зачыненьня украінскіх гімназій і школ. За украінскую школу, за рабоча-сялянскую школу. Явачным парадкам — сельскімі сходамі ўводзіць украінскую мову ў грамадзкім кіраўніцтве.

Гэтыя заклікі нашай партыі павінны дайсьці да ўсіх тых вёсак, па якіх гулялі крывавыя банды Пілсудзкага.

Заклікі да нявыплаты падаткаў і штрафаў ды інш. з галіны прапаганды і популярызацыі павінны стаць цэнтрам нашай організацыйнай работы, заклікамі дзеяньняў. Гэта ўжо заклікі справы, заклікі організацыі мас на барацьбу і ў барацьбе за іх рэалізацыю. Стварэньне ў процэсе барацьбы кіруючых органаў на сяле забясьпечыць накіраваньне ў організаванае рэчышча стыхіі, разгортваньне масавага наступленьня па ўсім фронце, па ўсіх экономічных, політычных і нацыянальных адценьнях барацьбы, надасьць ёй сілы, вытрыманасьці, дасьць магчымасьць мобілізаваць і пусьціць у рух увесь сялянскі масыў, а ня толькі яго авангард. Такімі органамі барацьбы на вёсцы могуць быць сялянскія камітэты барацьбы, выбраныя ўсёй масай працоўных вёскі

на сходах, як выяўленьне суцэльнага фронту зьнізу ўсіх элемэнтаў, якія жадаюць рашуча змагацца супроць окупацыі.

Ніколі яшчэ на З. У. ня было такіх магчымасьцяй для організацыі намі на вёсцы ўсёй працоўнай сялянскай масы, выпіханьня з тэрыторыі працоўнага сялянства розных буржуазных партый УНДО, радыкалаў ды інш., вызваленьня мас з-пад іх уплыву, як зараз. Калі на цяперашнім этапе барацьбы, якую зараз вядзе украінскае сялянства з фашызмам, ярка выявілася ва ўсёй аголенасьці буржуазнае антынароднае, клясава-варожае аблічча украінскіх нацыяналістычных груповак, калі кожнаму працоўнаму З. У. можна лёгка даказаць і пераканаць, хто яго прыяцель, а хто вораг, хто дапамагае яму ў барацьбе, а хто выступае супроць яго і яднаецца з ворагам для супольнага наступленьня супроць яго. Суцэльны фронт барацьбы зьнізу гэта незаменны спосаб для рэволюцыйнага руху, для організацыі ўсіх клясавых сіл, усіх рэволюцыйных элемэнтаў. Гэта адзіны спосаб адцягненьня несьвядомых элемэнтаў з-пад уплыву фашысцкай УВО і перакананьня іх, што УВО, радыкалы, УСДП—гэта толькі агенты украінскай буржуазіі і капіталізму, што адзіным абаронцам працоўных і організатарам ды кіраўніком вызваленчай барацьбы зьяўляецца Комуністычная партыя.

Сялянскія камітэты павінны стаць на чале ўсёй барацьбы на вёсцы, кіраваць выступленьнямі рэволюцыйных грамадзкіх радных, якія павінны першымі ўзьняць голас — ні капейкі падатку ўладзе окупантаў! Організоўваць забастовачную барацьбу за павышэньне платы і іншыя правы сельскай беднаты, організоўваць барацьбу за украінскую школу, супроць полёнізатараў, організоўваць школьныя забастоўкі, барацьбу за права украінскай мовы і г. д. Сялянскія камітэты для барацьбы супроць тэрору, супроць баёвак „Стжэльца“, асаднікаў ды поліцэйскіх банд, для абароны ад экзэкуцый павінны стварыць *сялянскія аддзелы масавай самаабароны.* Організоўваць актыўную барацьбу з рэквізіцыямі, масавымі збойствамі ды арыштамі, за зямлю бяз выкупу, супроць окупацыі, за пераможную рэволюцыю ва ўсёй Польшчы. Гэта адна з умоў перамогі.

Трэба сказаць, што з‘організаваныя рады рэволюцыйнага лягеру заходня-украінскага сяла пачалі адставаць у барацьбе. Ня сталі на чале барацьбы, не з‘організавалі масавых выступленьняў супроць эксплёатацыі і окупацыі. Чарга цяпер за імі. Пара выраўняць прарыў. Час пашырыць тэрыторыю барацьбы, час пасьпяшыць на дапамогу стэрорызаваным, зьбітым і змардаваным поліцэйскімі бандамі сваім братом ва ўсходніх паветах. Уся партыя, усе яе організацыі і члены, масавыя рэволюцыйныя рабоча-сялянскія організацыі, — на фронт барацьбы, на чало руху! Дзе дзеліся рэволюцыйныя радныя, нават цэлыя сельскія рады? Яшчэ маўчаць рабоча-сялянскія „Просвіты“ ды іншыя культурна-асьветныя організацыі. Маўчаць далей нельга і ня можна больш! Пасыўнасьць, асабліва ў гэты час — найгоршы від опортунізму. Апраўданьне пасыўнасьці аргумэнтамі пагрозы легальнасьці нашых рэволюцыйных устаноў зьяўляецца фактычным ліквідатарствам, найгоршым родам легалізму, апраўдвае пагромніцкія выступленьні ўкраінскага контр-рэволюцыйнага лягеру. У той самы час, калі ўвесь украінскі нацыялістычны лягер у саюзе з польскім фашызмам выступіў супроць барацьбы ўкраінскага сялянства, калі ўсякія РСУК‘і, побач з украінскім нацыяналістычным блёкам УНДО—УСРП і УСДП асудзілі гэту барацьбу,—павінны ўзьняць голас протэсту сьвядомыя рэволюцыйныя радныя Холмшчыны, Валыні, Рэўшчыны, Драгабыччыны, Покуцьця і інш. краін, протэставаць павінны „Просвіт“, „Лугів“,

„Рідни Хати“ і ўсе іншыя рабоча-сялянскія організацыі. З‘організаванае, моцнае выступленьне „Просвіту“ ці сельрадных на Холмшчыне або Драгабыччыне, дзе барацьба не набыла такіх вострых форм, як ва ўсходніх паветах, можа стаць сыгналам да яе ў гэтых краёх. Голас „Просвіту“ ці грамадзкіх радных зьверне на сябе ўвагу ўсіх працоўных мас З.У. і нават Польшчы. Неорганізаванае сялянства, якое вядзе барацьбу, зараз убачыць, што яно не адно, што на дапамогу яму сьпяшаецца і організаваны авангард, організатар і кіраўнік барацьбы—Компартыя.

На фоне рэволюцыйнага ўздыму працоўных сяла З.У., побач са стыхійнасьцю гэтага руху, неорганізаванасьцю, праявіліся вялікія недахопы і слабыя бакі рэволюцыйнага руху на З.У. і Польшчы і вялікія недамаганьні на баку рэволюцыйнага авангарду—Комуністычнай партыі.

У вясковым рэволюцыйным адценьні барацьбы з‘організаваныя рэволюцыйныя атрады заходня-украінскай вёскі пачалі адставаць ад тэмпаў барацьбы, якая разгарэлася зараз.

Другім слабым месцам гэтага адценьня фронту зьяўляецца няўвязка барацьбы заходня-украінскіх сялянскіх працоўных мас з барацьбой сельскай беднаты і серадняка Польшчы і З.Б. Працоўныя польскія і заходня-беларускія рабоча-сялянскія масы не адгукнуліся належна на барацьбу заходня-украінскіх працоўных мас, не падтрымалі іх сваімі выступленьнямі, не пашыралі фронту барацьбы за зямлю бяз выкупу, барацьбы супроць памешчыкаў і сельскіх кулакоў ды ліхвяроў. Супольнае выступленьне сялянскай масы ўсёй Польшчы супроць фашысцкай дыктатуры мае, апрача палітычнага, яшчэ і стратэгічна-рэволюцыйнае значэньне. Яно распыляе сілы фашызму, адцягвае іх ад аднэй тэрыторыі, распыляе па ўсёй Польшчы, чым аслабляе іх наступленьне і палягчае выступленьне гарадзкому пролетарыяту.

Не адказала ў належнай меры на барацьбу заходня-украінскіх сваіх братоў у іх геройскай барацьбе з агульным окупантам і заходня-беларускае працоўнае сялянства. Задачай рэволюцыйных сіл Польшчы і Заходняй Беларусі зьяўляецца зараз выраўняць фронт барацьбы сялянскай масы З.У. за зямлю, супроць памешчыкаў і кулакоў, супроць окупацыі і пашырыць яе на ўсю Польшчу і Заходнюю Беларусь.

Але самым слабым месцам рэволюцыйнага фронту барацьбы на З.У. і ва ўсёй Польшчы і да гэтага часу зьяўляецца няўвязанасьць героічнай барацьбы сялянскіх працоўных мас з барацьбой прамысловага пролетарыяту. Гэта зараз адна з найбольшых пагроз рэволюцыйным сілам і рэволюцыйнай барацьбе на Заходняй Украіне. На рэволюцыйным фронце ў З.У. мы маем зараз вялікі разрыў паміж барацьбой прамысловага пролетарыяту і барацьбой сялянскіх бядняцкіх мас. Партыя павінна павесьці пролетарыят у барацьбе супроць наступленьня капіталістаў на яго зарплату, супроць наступленьня агульным фронтам усіх фашысцкіх сіл на З.У., на яго рады, на аб‘яднаньне з верным яго саюзьнікам—сельскімі працоўнымі, якія вядуць геройскую барацьбу са сваімі сьмяротнымі ворагамі—памешчыкам, кулаком і окупацыяй, барацьбу не на жыцьцё, а на сьмерць.

На вяліка-прамысловай тэрыторыі разгараюцца значныя баі. Барацьбой ахоплены мэталісты ў Сяноўцы, у Пярэмышлі, ва Львове, гарнякі, салянікі ў Калушы, Стэбніку, Косаве, рабочыя тутунёвай прамысловасьці ў Віньніках. На тартачнай тэрыторыі мы мелі вясною частыя забастоўкі супроць звальненьняў рабочых, супроць паніжэньня платы на 10%, у Барыслаўі, Даліне, Сколім, Сінявіцку, Дарагобычы, Падбужжы, зачыненьне тартаку Квяткоўскіх у Стрыі і звальненьне рабочых

у тартаку ў Сколім. Сярод чыгуначнікаў праведзены масавыя тысячныя звальненьні. Ва ўсіх гэтых кампаніях ня было да гэтага часу каардынаваньня, увязкі ўсіх іх у адну агульную з'арганізаваную барацьбу ўсяго заходня-украінскага пролетарыяту.

Перад партыяй стаіць зараз ва ўсёй шырыні задача ахапіць і каардынаваць барацьбу прамысловага пролетарыяту на фабрыках, капальнях і тартаках супроць капіталістычнай рацыяналізацыі, звальненьняў, супроць эксплёатацыі, за павышэньне платы, увязаць гэту барацьбу з рухам беспрацоўных і аб'яднаць іх з барацьбой працоўных сялянскіх мас З.У. для агульнага наступленяня супроць дыктатуры фашызму і окупацыі.

Апошнія выпадкі ў Польшчы, гаспадарчы і палітычны крызіс фашызму разварушылі ўсю рабочую клясу. На рэволюцыйных настроях працоўных прабуе жывіцца соцыял-фашызм. У пролетарыята ўзрастаюць рэволюцыйныя і баявыя настроі. Перад Компартыяй паўстаюць вялікія задачы. У найбліжэйшы час павінна адбыцца поўная ліквідацыя разрыву паміж барацьбой паасобных атрадаў пролетарыята. Барацьбу сялянскай масы павінны замяніць масавыя выступленьні на вуліцах гарадоў ды барацьба прамысловага пролетарыяту. Вялікая справа стаіць перад Комуністычнай партыяй Польшчы, перад яе атрадам—нашай КПЗУ і ўсім рэволюцыйным лягерам. Супроць агульнага буржуазнага лягеру на чале з фашысцкім урадам павінны стаць солідарна рэволюцыйныя сілы прамысловага пролетарыяту і сялянскай працоўнай масы на чале з Комуністычнай партыяй.

Наша партыя стаіць зараз перад гістарычнымі падзеямі, перад вялікім экзаменам рэволюцыйнага авангарду.

Посьпех барацьбы заходня-украінскай працоўнай масы залежыць, як сказана, ад аб'яднанай барацьбы з барацьбой промысловага пролетарыяту на З.У. і пад яго кіраўніцтвам супольнай барацьбой за соцыяльнае і нацыянальнае вызваленьне, за зьвяржэньне окупацыі, за здабыцьцё зямлі бяз выкупу для сельскай беднаты. Посьпех гэтай барацьбы залежыць аднапасова ад непарыўнай барацьбы польскага пролетарыяту, барацьбы з фашысцкай дыктатурай працоўных усёй Польшчы. Без перамогі рэволюцыі ў Польшчы ня можа быць перамогі рэволюцыі на З.У. Толькі тады працоўныя З.У. і З.Б. скінуць ярмо окупацыі, калі аднапасова пойдзе з імі ў наступленьне на фашысцкае панаваньне польскі пролетарыят і працоўнае сялянства і агульнымі намаганьнямі скінуць уладу буржуазіі і яе ўрад—фашысцкую дыктатуру Пілсудзкага.

Польскі пролетарыят і працоўнае сялянства не рэагавалі, як трэба, на барацьбу заходня-украінскай сельскай беднаты, але яны гэта робяць і зробяць, і фронт клясавай барацьбы выраўняецца ад Львову — Тарнопалю да Варшавы, Пазнані, Сасноўкі, Вільні, Беластоку. Польскі пролетарыят праявіў сваю клясавую сьвядомасьць і солідарнасьць з працоўнымі іншых народаў у 1905 ды 1918 г. г. Працоўныя Польшчы ня раз ужо адклікаліся на барацьбу працоўных З.У і аказвалі ім сваю дапамогу ды сымпатыі. І на гэты раз рэволюцыйныя сілы З.У. не застануцца аднымі ў барацьбе з агульным фашысцкім ворагам. Працоўныя масы З.У. вераць, што польскі пролетарыят і ўсе працоўныя пойдуць супольна з імі, пад адным кіраўніцтвам нашай партыі КПП, у наступленьне на ўладу буржуазіі і памешчыкаў, за рэволюцыю ў Польшчы, за зьвяржэньне ўлады окупанта на З.У. і З.Б.

## Стыхійнае рэволюцыйнае выступленьне сялянскіх мас і організаваны рэволюцыйны лягер

Якія недахопы выявіліся ў часе апошніх падзей на Заходняй Украіне ў організаваным рэволюцыйным лягеры?

Гэтыя недахопы можна зьвесьці да 5 асноўных:

1. Некаторая політычная недаацэнка і неразуменьне паасобнымі членамі і нават організацыямі нашай партыі і рэволюцыйнага лягеру рэволюцыйнай вагі гэтай стыхійнай барацьбы сялянскіх мас.

2. Ножніцы паміж рэволюцыйнымі настроямі і актыўнасьцю мас ды нашымі політычнымі ўплывамі і організацыйным ахопам.

3. Няўменьне нашых організацый сваячасова рэагаваць на політычныя падзеі, організаваць і кіраваць работай і барацьбой на сяле і ўвязваць яе з барацьбой гарадзкога пролетарыяту.

4. Слабасьць нашай работы сярод украінскай школьнай вясковай і студэнцкай моладзі.

5. Недахоп нашай работы сярод войска.

Недаацэнка або поўнае неразуменьне гэтага руху ідзе па дзьвёх асноўных лініях. Першае, пярэчаньне супроць рэволюцыйнасьці гэтага руху і другое, наконт правільнасьці ці няправільнасьці мэтодаў барацьбы сялянскай стыхіі ў форме падпалаў, зьнішчэньня дзяржаўных об'ектаў і г. д.

Яркі прыклад неразуменьня гэтага руху выказаў АК Станіславаўскай організацыі, які ацаніў яго, як барацьбу двух нацыяналізмаў — польскага і украінскага. І ўжо ў іншай форме, у скрытай форме, сялянская газэта „Сельроб" у сконфіскаваным артыкуле „УВО, саботажы ды карныя экспэдыцыі". (Памылковасьць гэтага артыкулу выпраўлена самакрытыкай у наступных нумарох „Сельроба"). Аўтар гэтага артыкулу назваў барацьбу украінскага сялянства з окупацыяй і памешчыкамі ды кулаччом коратка саботажам, выходзячы з палажэньня, што „распачала гэтыя саботажы УВО", лічыць гэтую барацьбу провокацыяй УВО і украінскіх соцыял-фашыстаў, каб такім спосабам выклікаць тэрор і разгром вызваленчага руху на вёсцы. Аўтар задаволены, „што ў проціпастаўленьні да 1923-25 г. наш клясавы лягер ня даўся ў гэтым годзе дэзорганізаваць яго саботажніцкай ідэолёгіяй".

Ацэньваючы гэтыя выпадкі, аўтар зышоўся з ацэнкай украінскай буржуазіі, бо яны „ствараюць анархістычныя настроі, не пагражаюць панаваньню буржуазіі і г. д., што гэтыя сельскія выступленьні зьяўляюцца нават пажаданымі для фашыстаў" і г. д. Паказаны артыкул, апрача фальшывых і варожых ацэнак руху, зьяўляецца опортуністычным указаньнем „дамагацца неадкладнага адкліканьня з сёл атрадаў войска і паліцыі".

У паданых выпадках мы маем справу да канца з нязжытымі яшчэ ў комуністычных і рэволюцыйных радох люксэмбургіянствам, неразуменьнем нацыянальна-вызваленчай барацьбы, як рэволюцыйнага фактару. Мы маем падпаданьне сям-там у некаторых зьвеньнях нашай партыі націску польскага вялікадзяржаўнага нацыяналізму. Станіславаўскі і Сельробаўскі выпадкі рэволюцыйнага сялянскага руху прыраўноўваюцца да контр-рэволюцыйнага руху УВО. Апрача адзіночных выпадкаў падпалаў організацыяй УВО, яны ня бачылі шырокай хвалі імкненьня да барацьбы сялянства супроць яго ворагаў. Не разумелі, што нізавыя організацыі УВО, падпальваючы, выконвалі гэта пад уплывам рэволюцыйных настрояў, што групы УВО і паасобныя організаваныя ёю пад-

палы мелі на мэце перахапляць рэволюцыйныя настроі, апаноўваць рухам, каб зламаць яго ды накіраваць у контр-рэволюцыйнае рэчышча.

Такія пасыўныя, адмоўныя і „нэўтральныя" адносіны да таго руху ў выніку пазбаўляюць пролетарыят кіраўніцтва гэтым рухам, ствараюць умовы для далейшага ўплыву на рух контр-рэволюцыйнай УВО.

Другога роду памылкай зьяўляецца недаацэнка мэтодаў барацьбы сялянскай масы. Такая памылка ёсьць нават у лісьце ЦК КПЗУ да партыі па справе падзей на З.У. у верасьні г. г.

Пры слушным настаўленьні партыі пры дачы заданьняў гэту стыхійную барацьбу ў форме падпалаў назвалі ў лісьце няслушна „памылковымі шляхамі", якія „не набліжаюць дня перамогі над клясавымі ворагамі".

Такія формы сялянскай барацьбы, як падпалы, зьнішчэньне маемаснай падставы свайго памешчыка і кулака — зьяўляюцца прыроднымі. Яны выплываюць з самых умоў вёскі і заусёды ідуць побач з масавым сялянскім рухам. А задача партыі заключаецца ў тым, каб стаць на чале гэтага руху з яго формамі.

З распыленасьці аб'яднаць паміж сабою і ўвязаць з барацьбой рабочых мас фабрык, капалень ды рабочым горадам наогул. Паднімаць гэты рух на вышэйшыя этапы, каб накіроўваць яго ў рэчышча організаванай рэволюцыйнай барацьбы агульным фронтам.

Гэты спосаб барацьбы мае, аднак, той недахоп, што ў ім прымае ўдзел толькі сялянскі актыў, а асноўная сялянская маса не ўваходзіць непасрэдна ў рух. Зьнішчэньне дзяржаўных об'ектаў, перарыў тэлеграфнай і тэлефоннай сувязі, захват фольваркаў і безакладны падзел зямлі — усё гэта будзе ўжывацца і організаванымі рэволюцыйнымі масамі на пэўнай ступені барацьбы ў непасрэдным рэволюцыйным дзеяньні.

Другога роду фальшывымі поглядамі на рух зьяўляюцца думкі т. Бл., якія, па сутнасьці, сходзяцца з концэпцыямі „адзінага нацыянальнага фронту", г. зн. — працоўных з буржуазіяй і разрыў саюзу паміж украінскай буржуазіяй і польскім фашызмам, зьяўляюцца роднымі з тэорыяй безбуржуазнасьці украінскай нацыі. Гэтыя погляды небясьпечны асабліва цяпер, калі украінская буржуазія змагаецца організавана супроць вызваленчай барацьбы украінскіх працоўных і супольна з польскім фашызмам рыхтуецца да нападу на Савецкі Саюз і УССР. Тав. Бл. меў на мэце раскрытыкаваць свае погляды, але гэта яшчэ не азначае, што такіх поглядаў у партыі больш няма або ня можа быць. Арышты сярод украінскай буржуазіі і іншыя праявы трэньняў паміж украінскай і польскай буржуазіяй могуць і далей нараджаць такія думкі. Наша партыя павінна зьвярнуць пільнейшую ўвагу, узмацніць барацьбу супроць усякіх такіх праяўленьняў, што зьяўляецца выяўленьнем падпаду націску украінскай буржуазіі паасобных зьвеньняў рэволюцыйнага лягеру і нават партыі.

Рэволюцыйнасьць барацьбы, якую зараз праводзіць заходня-украінскае сялянства з окупацыяй, сьцьвярджае ЦК КПП сваёй рэзолюцыяй, у якой гаворыцца: „КПП разам з КПЗУ зьяўляецца адзінай партыяй, якая прызнала цяперашнюю барацьбу украінскіх мас з памешчыкамі, польскімі кулакамі-асаднікамі і польскім окупацыйным рэжымам сваёй барацьбой".

Слабасьць нашай партыйнай організацыі на вёсцы, слабасьць сеткі парт'ядра, асабліва ва ўсходніх паветах, слабасьць работы на вёсцы выявілася вельмі востра.

Трэба прызнацца, што, маючы правільную лінію на пашырэньне парторганізацыі сярод прамысловага пролетарыяту, на ўмацаваньне пролетарскага ядра ў партыі, мы не даацэньвалі значэньне пашырэньня нашых організацый на вёсцы. Мы ішлі на вёску толькі там, куды не пайсьці ўжо не маглі, дзе бяз нашай дапамогі паўставалі комуністычныя гурткі, наладжвалі контакты з нашымі гарадзкімі організацыямі і, я-б сказаў, прымушалі нас прызнаць іх і ўключыць у парторганізацыю. Мы ішлі „самацёкам“ на вёску. Мы не праявілі належнай ініцыятывы і намаганьняў, каб ахапіць на вёсцы рэволюцыйныя сельскія элемэнты нашымі партгурткамі. Гэта самае ня ў меншай, а нават у большай меры адносіцца і да рэволюцыйных сялянскіх партый. На вёсцы, апрача дадатнай організацыі забастовачнай барацьбы, мы ў іншых галінах жыцьця вёскі не праводзілі пасьлядоўнай, грунтоўнай штодзённай работы ні ў коопэратывах, ні ў „Просьвітах“, ні ў іншых організацыях. Мы — увесь рэволюцыйны лягер, у які ўцягнулі сотні рэволюцыйных радных да грамадзкіх рад і нават зрабілі сям-там цэлыя рады, не ўявілі сваёй работы на гэтых важных пунктах. Мы не організавалі на вёсцы, як належыць, барацьбы з падатковымі цяжарамі, якія паміма дзяржавы, накладаліся багатырамі вёскі ў якасьці так званых грамадзкіх падаткаў, не вялі барацьбы з экзэкуцыямі, а ўжо пра шырокую барацьбу за украінскую школу, украінскую мову, за кіраўніцтва вёскай няма чаго і гаварыць.

Гэты прабел у рабоце нашай на вёсцы, каб не аказацца па-за сялянскай масай, каб стыхію накіраваць у адно рэволюцыйнае рэчышча барацьбы працоўных З. У. і Польшчы, усім рэволюцыйным лягерам павінен быць як мага найхутчэй запоўнен.

Другім слабым месцам нашай партыйнай работы ды КСМЗУ зьяўляецца ахват украінскай сельскай моладзі, а апрача гэтага зусім запушчаная галіна работы сярод школьнай і студэнцкай моладзі.

Стан работы нашага КСМЗУ сярод школьнай украінскай моладзі зьяўляецца нязначным. Ня хочацца верыць, каб комуністычныя ды рэволюцыйныя організацыі моладзі ў окупаванай краіне, сярод прыдушанай нацыі і так спролетарызаванага сялянства, як на З. У., ня мелі ў сваіх радох тысяч моладзі украінскай нацыянальнасьці.

Клясавая барацьба ў Польшчы завастраецца, масы выступаюць на вуліцу, фашызму ўжо не хапае паліцыі і ён вымушаны пасылаць супроць рэволюцыйных радоў цэлыя палкі і дывізіі войска. Партыя павінна зьвярнуць увагу і ўсе свае намаганьні на заваяваньне салдацкіх мас, каб зрабіць дарэмным для фашызму ўжываньне войска для задушэньня рэволюцыйных выступленьняў рабочых і сялян. Партыйныя ўстановы зварачаюць з кожным разам увагу ўсёй партыі на гэту галіну нашай работы. Але значнага зруху ў гэтай рабоце пакуль што яшчэ няма. Войска, польскія салдаты, як бачым, падганяныя афіцэрамі, руйнуюць украінскія вёскі, уздымаюць руку на свайго брата—украінскага селяніна і бедняка. Тварам да казармы, больш жывы контакт рэволюцыйных рабочых і сялян з салдатамі, уцягнуць у справу барацьбы працоўных салдацкую масу, дапамагчы ёй у барацьбе з афіцэрамі і вайсковым рэжымам, братаньне рабочых і сялян з салдатамі ня толькі на вуліцах і ў дэмонстрацыях, у часе карных экспэдыцый ды манэўраў, але братаньне з дня ў дзень, пераламаць ізоляванасьць салдатаў ад „цывільных“ — вось спосабы, якімі рэволюцыйны лягер можа і павінен дайсьці да салдацкай масы, заваяваць яе на свой бок.

Час працуе на рэволюцыю, але ні хвіліны не чакае на тых, што спазьніліся. Перад Компартыяй і рэволюцыйным лягерам стаяць цяж-

кія і адказныя задачы. Тэрор, консолідацыя ўсяго фашысцкага лягеру затрудняе працу і барацьбу рэволюцыйным масам на чале з КПЗУ і КПП, але, з другога боку, назіраецца выразны вадападзел паміж рэволюцыйнымі і контр-рэволюцыйнымі сіламі як ва украінскім грамадстве, так і ва ўсёй Польшчы. Агульны фронт украінскай буржуазіі і ўсіх яе партый з польскім фашызмам і соцыял-фашызмам ад Н. Д., санацыі да „Строньніцтва Хлопскага“ і ППС, якія на фоне барацьбы украінскіх працоўных мас з окупацыяй выступілі ў поўнай сваёй агаленасьці, дае магчымасьць нашай партыі павесьці з посьпехам барацьбу за адцягненьне з-пад уплыву соцыял-фашызму і ўсякіх іншых украінскіх нацыяналістычных партый працоўных мас, організацыю іх у адзіныя рэволюцыйныя рады для супольнага далейшага наступленьня на ўладу буржуазіі і окупацыі.

Заходня-украінскія сялянскія працоўныя масы не адны ў барацьбе. На іх змаганьне з окупантам адгукнуўся ня толькі пролетарыят З. У. і Польшчы, але і рэволюцыйныя рабочыя ўсяго сьвету, пролетарскі Бэрлін, Парыж, Прага, Вэна. Нават далёкі ангельскі і амэрыканскі рабочы ўзьнімае моцны голас протэсту супроць крывавага тэрору польскага фашызму, выказвае сваё спачуваньне і сымпатыі заходня-украінскім рэволюцыйным масам, якія змагаюцца. Комуністычныя пасольскія фракцыі ў парлямантах Нямеччыны і Францыі з парляманцкіх трыбун, ад імя працоўных сваіх краін, выказваюць сваё спачуваньне працоўным З. У. і абвяшчаюць помсту польскаму і сусьветнаму імпэрыялізму за яго расправу з рэволюцыйным сялянствам Заходняй Украіны ды шлюць сваё рэволюцыйнае прывітаньне сельскім бедняком З. У., якіх зьбіваюць поліцэйскія „тысячкі“ і „пацыфікатарскія“ дывізіі. І ўжо бурай панёсься па землях Савецкай Украіны і ўсяго Саюзу, па фабрыках і сёлах бацькаўшчыны працоўных голас гневу брацкіх рабочых і сялян-колгасьнікаў, беднякоў і серадьнякоў супроць польскага окупанта, яго украінскіх супольнікаў Шаптыцкіх, Луцкіх ды інш. Тысячы, мільёны рабочых і сялян Савецкай Украіны і ўсяго Саюзу шлюць брацкае прывітаньне заходня-украінскім працоўным у іх барацьбе і выказваюць гатоўнасьць актыўна падтрымаць іх змаганьне за вызваленьне, рыхтуюць свае рады на абарону сваёй і сусьветнага пролетарыяту бацькаўшчыны ад нападу імпэрыялістычных драпежнікаў, на абарону сваіх соцыяльных і культурных дасягненьняў, на абарону свайго соцыялістычнага будаўніцтва ў горадзе і на вёсцы.

Задачай КПЗУ зьяўляецца растлумачыць усім працоўным масам З. У. пра тое, хто з імі супроць буржуазіі і окупацыі і хто супроць іх. Выкрыць да канца контр-рэволюцыйную ролю УНДО, УКНО, РСО, УСРП і УСДП, а таксама недабіткаў шумскаўскіх рэнэгатаў, якія ў агні барацьбы разьбіваюць рэволюцыйныя масы, сваімі сьвісткамі „культуры“ ўводзяць дэзорганізацыю, праводзяць юдаву работу. Паклёпам і ашуканствам хочуць узьняць партыйныя масы супроць кіраўніцтва КПЗУ, дыскрэдытуюць у вачох мас Компартыю.

Узмацніць барацьбу ў радох партыі з усякім опортунізмам, з украінскім ды вялікадзяржаўным польскім нацыяналізмам і яго адценьнямі. Мобілізацыяй усіх сіл, выпраўленьнем памылак і недахопаў КПЗУ справіцца са сваёй задачай і стане на чале барацьбы працоўных З. У. і пад кіраўніцтвам КПП павядзе іх да пераможнай рэволюцыі ў Польшчы, за дыктатуру пролетарыяту, за зямлю бяз выкупу для сельска-гаспадарчых рабочых і сялян, за далучэньне Заходняй Украіны да Савецкай Украіны.

**А. Ліпкін**

# Увага воднаму транспорту

„Ня гледзячы на грамаднае значэньне транспорту, гаспадарка транспорту, рэконструкцыя гэтай гаспадаркі ўсе яшчэ адстае ад агульнага тэмпу разьвіцьця. Пры такім становішчы мы рызыкуем ператварыць транспорт у „вузкае месца“ народнай гаспадаркі. Трэба палажыць канец такому становішчу.

Асабліва дрэнная справа ў рачным транспорце. Гэта факт, што Волжскае параходатва ледзь дабілася 60%, а Дняпроўскае—40% даваеннага часу. 60 і 40% даваеннага часу—гэта ўсё, што можа занесьці рачны транспорт у сьпіс сваіх „дасягненьняў“. Няма чаго сказаць, вялікае „дасягненьне“. Ці ня час ужо пакончыць з гэтым пазорам?

Задача састаіць у тым, каб узяцца па-бальшавіцку за справу транспорту і пасунуць яго ўперад“.

(Сталін. XVI Зьезд).

За час, які прайшоў пасьля XVI зьезду, партыя рашуча прыступіла да практычнага вырашэньня цэлага раду проблем, зьвязаных з разьвіцьцём воднага транспорту. Між тым увага рачному транспорту з боку раду організацый БССР, нават у сучасны момант, пасьля звароту ЦК і СНК СССР і дырэктыў ЦК КП(б)Б аб водным транспорце, зьяўляецца зусім недастатковай.

Гэта сьведчыць аб наяўнасьці яшчэ да гэтага часу опортуністычнай недаацэнкі значэньня рачнога транспорту ня толькі для народнай гаспадаркі БССР і пэрспэктыў яе разьвіцьця, але і для ўсёй народнай гаспадаркі ўсяго Саюзу.

Дастаткова пералічыць толькі некаторыя гаспадарчыя проблемы, разрашэньне якіх зьвязана з рачным транспортам, для таго, каб бачыць, наколькі важнымі зьяўляюцца пытаньні воднай гаспадаркі, яе разьвіцьця і рэконструкцыі. Усім вядома значэньне водных шляхоў для *лясной гаспадаркі і лесаапрацоўваючай прамысловасьці.* Ня менш буйнае значэньне ў народна-гаспадарчым разьвіцьці мае для БССР (і ня толькі для БССР) разьвіцьцё такіх галін гаспадаркі, як апрацоўка *фосфорытаў*, залежы якіх састаўляюць больш 250 міл. тон, распрацоўка *вапняку і мелу*, якія таксама маюцца ў значнай колькасьці на тэрыторыі БССР, цэмантная прамысловасьць, кермічная прамысловасьць, якая мае багатыя пэрспэктывы. Разьвіцьцё гэтых галін гаспадаркі цесна зьвязана з разьвіцьцём рачнога транспорту. Скарыстаньне водных шляхоў БССР дае магчымасьць вырашыць пытаньне аб дабычы і перавозцы *каменя.* Таксама дрывяное суднабудаўніцтва мае багатыя магчымасьці разьвіцьця ў БССР. Няма неабходнасьці

гаварыць аб значэньні, якое мае рачны транспорт у разгрузцы асноўнай чыгуначнай магістралі, якая злучае поўдзень з поўначчу, аб пэрспэктыве злучэньня Чорнага мора з Балтыцкім праз Бярэзінскую ці Дняпроўскую сыстэму, якая настойліва высоўваецца ў сувязі з скончэньнем Днепрабаду, а таксама абаронным значэньнем рачнога транспорту.

Недаацэнка транспорту і, як вынік гэтай недаацэнкі, недастатковая ўвага да яго зьяўляюцца ня зьнішчаным яшчэ *вынікам* працы шкоднікаў, якія пры садзейнічаньні опортуністых і пад іх крылышкам распаўсюджвалі тэорыю аб падзеньні ролі воднага транспорту для народнай гаспадаркі, імкнуліся давесьці аб немагчымасьці і непатрэбнасьці разьвіцьця транспортнай гаспадаркі, затрымлівалі рэконструкцыю транспорту, нават прапанавалі здаць Волжскае і інш. параходзтвы ў концэсію.

Сьнежаньскі Аб'яднаны Пленум ЦК і ЦКК і 3-я Сэсія ЦВК СССР у сваіх пастановах аб народна-гаспадарчым пляне на 1931 г. паставілі „пад асобы нагляд рабочай клясы і яе партыі перамаганьне аднаго з вузкіх месц у народнай гаспадарцы—чыгуначнага і воднага транспорту" і „рашучае падцягваньне транспорту да ўзроўню тых запатрабаваньняў, якія ставіць перад ім бурны рост асноўных галін народнае гаспадаркі". (З звароту ЦК і СНК да транспортнікаў).

ЦК УсеКП(б) і СНК СССР вызначылі цэлы рад мерапрыемстваў па палепшаньню ўжо ў бліжэйшы час становішча і работы рачнога транспорту.

Першай задачай, на вырашэньні якой неабходна сконцэнтраваць увагу ўсіх організацый у бліжэйшы час, зьяўляецца *падрыхтоўка да навігацыі 1931 г.* Перавозкі Днепра-Дзьвінскага дзяржпараходзтва павышаюцца ў 1931 г. па тонажу на 101% і па тона-кілёмэтрах на 126% у параўнаньні з контрольнымі лічбамі мінулага году (296 т. тон і 24.889 т. тона-кілёмэтраў у мінулым годзе і 595 т. тон і 58.158 т. тона-кілёмэтраў па контрольных лічбах на 1931 г.). Асноўную масу гэтых перавозак трэба будзе выканаць бяз значнага павялічэньня тонажу і цягавай сілы ў пэрыод вясеньняга разводзьдзя.

Вызначаныя контрольныя лічбы ня толькі неабходна будзе поўнасьцю выканаць, але і перавыканаць, бо напружанае становішча іншых відаў транспорту і шпаркі рост асноўных галін народнай гаспадаркі БССР, бязумоўна, прад'явяць дадатковыя патрабаваньні на перавозкі па водных шляхох.

Аднэй з першых умоў сваечасовай падрыхтоўкі да навігацыі, выкананьня і перавыкананьня пляну перавозак зьяўляецца *сваечасовае і якаснае скончэньне сударамонту.* Да адчыненьня навігацыі павінен быць адрамантаваны ўвесь паравы і шнаравы флёт. Каля 30% усяго паравога флёту патрабуе капітальнага рамонту. Узмоцненыя запатрабаваньні, якія прад'яўляюцца рачному флёту, патрабуюць асабліва ўважлівых адносін да якасьці. Гэтага яшчэ ў большай меры патрабуе вялікая зношанасьць маючагася флёту. ЦКК КП(б)Б у студзені бягучага году констатавала дрэнную падрыхтоўкі да зімовага рамонту, наяўнасьць бясплянавасьці, безгаспадарчасьці і дрэннае становішча працдысцыпліны, што ставарае пагрозу выкананьню пляну рамонту. У сучасны момант рамонт па пляну ўжо павінен быў быць скончаным. Між тым па раду затонаў застаецца яшчэ вялікая работа. Асабліва вялікая пагроза несваечасовага выкананьня рамонту маецца па

Гомлю.[1]) Прамысловасьць, ад якой залежыць выкананьне каля 50% усяго рамонту, таксама не паўсюды акуратна выконвае заказы для рачнога транспорту. Неабходна ў карацейшы тэрмін, які застаецца да пачатку навігацыі, з усёй сілай налегчы на выкананьне ўсяго неабходнага рамонту. Каля гэтага пытаньня неабходна разьвіць ударніцтва і соц. спаборніцтва. Зьмест партыйнай і профэсіянальнай работы павінен быць запоўнены ў бліжэйшы час конкрэтнымі мерапрыемствамі па выкананьню гэтай задачы. Гаспадарчыя організацыі павінны заразжа ўважліва праверыць якасьць, выяўляць усе недаробкі і нядобраякаснасьць з тым, каб сваечасова іх зьнішчыць. Організацыі прамысловасьці павінны пайсьці насустрач водным організацыям і дапамагчы выкананьню гэтай задачы.

Выкананьне і перавыкананьне пляну перавозак магчыма толькі пры тэй умове, калі цалкам будзе скарыстаны маючыйся тонаж, цягавая сіла ў найбольш спрыяючы для водных перавозак пэрыод веснавой паводкі.

Водныя басэйны Днепра-Дзьвінскай сыстэмы ў выніку цэлага раду прычын і, у першую чаргу, у выніку шкодніцкай работы і опортуністычнай недаацэнкі воднага транспорту, сільна запушчаны. Гідротэхнічныя работы праводзілася ўвесь час у недастатковым разьмеры. Найменшыя глыбіні дасягаюць у ліпні ад 55 да 75 *см*, у жніўні ад 40 да 70 *см* па асобных басэйных. У пэрыод спаду вады ўтвараецца шмат пяшчаных мялізн і перакатаў, якія прыводзяць па паасобных басэйных (Зах. Дзьвіна, вярхоўі Дняпра і Бярэзіны) да спыненьня руху. Гэтыя акалічнасьці прымушаюць паставіць перад дзяржпараходзтвам задачу выкананьня 50% усіх перавозак у пэрыод вясеньняй паводкі. Гэта задача ня можа быць дасягнута самацёкам. Для гэтага патрабуецца ўважлівае *плянаваньне* перавозак.

У звароце ЦК і СНК адносна гэтага гаворыцца: „У мэтах максымальнага скарыстаньня воднага транспорту і зьнішчэньня недапушчальнага становішча, калі ў найбольш спрыяючы для водных перавозак момант—вясеньняй паводкі—рачны транспорт працуе з вялікім недагрузам, прапанаваць СПА ў двухдэкадны тэрмін распрацаваць плян накіраваньня масавых грузаў з месца дабычы і збору ў раёны спажываньня і для экспорту з максымальным скарыстаньнем водных шляхоў“.

Плянаваньне і прад'яўленьне заявак воднаму транспорту з боку кліентуры па БССР на сёнешні дзень гаворыць аб вялікай пагрозе з гэтага боку. Асноўная кліентура — Лесбел і Дортранс прад'явілі ў Дзяржплян свае заяўкі 5-6 сакавіка, Севбелтранслес яшчэ да гэтага часу не прадставіў сваіх плянаў. Ні ў Дзяржпляне, ні ў Кіраўніцтве яшчэ да гэтага часу няма цьвёрдага пляну. Орыентовачны плян не прадугледжвае выкананьня дырэктывы аб 50% перавозак у вясеньнюю паводку.

Гэткае становішча недапушчальна.

З гэтым пытаньнем зьвязана пытаньне аб адносінах кліентуры да скарыстаньня тонажу і пытаньне аб зьнішчэньні сустрэчных перавозак. Такое становішча, якое назіралася ў мінулую навігацыю, калі па прыбыцьці барж не аказвалася грузаў, калі па 3-4 дні не выгружаліся судны, ці калі баржы грузапад'ёмнасьцю ў 60—70 тон загружаліся

[1]) Завод „Дзьвігацель Рэволюцыі“ (Гомель), зараз скончыў сударамонт. Ударныя брыгады заводу ўзялі шэфства над асобнымі суднамі флёту. У звароце да ўсіх воднікаў яны запрашаюць іх уключыцца ў Усебеларускі аўрал.

2—3 тонамі, ні ў якім разе ня можа быць дапушчана ў гэтым годзе. ЦК і СНК устанавілі *„матар'яльную і судовую адказнасьць кліентуры* за непрад'яўленьне грузаў у устаноўленыя плянам тэрміны, за нерэальнасьць заявак на падачу флёту, за фактычную адмову ад прыёму і разгрузкі ў устаноўленыя тэрміны і такую-ж адказнасьць воднага транспорту за непадачу тонажу і цягі“. Неабходна цьвёрда сачыць за выкананьнем гэтай устаноўкі.

Важнейшай умовай выкананьня пляну перавозак гэтага году і аздараўленьня рачнога транспорту зьяўляецца падбор, расстаноўка і падрыхтоўка *камандна-кіруючага складу*. „Ускладаючы вялікія задачы на камандны склад рачнога флёту і пашыраючы яго правы, ЦК УсеКП(б) і Саўнарком Саюзу ССР зварачаюць асаблівую ўвагу гаспадарчых, партыйных і профсаюзных організацый на пастаноўку справы правільнага вылучэньня работнікаў на камандныя пасты. На камандныя пасты павінны вылучацца таксама работнікі, якія паказалі на справе сваю адданасьць справе рабочай клясы, прайшлі практычную школу, праявілі здольнасьць кіраваць флётам, праявілі гатоўнасьць вучыцца і перавучвацца справе кіраваньня флётам, маюць жаданьне і здольнасьць аўладаць тэхнікай справы. Саўнарком Саюзу ССР і ЦК УсеКП(б) палагаюць, што толькі ўсвоіўшы гэты мэтод вылучэньня работнікаў рачнога флёту на камандныя пасты магчыма будзе ўзмацніць кадры, паставіць іх на належную вышыню“.

Правільны падбор і вылучэньне кадраў на камандныя пасты набывае асаблівае значэньне ў сучасны момант з рэорганізацыяй сыстэмы кіраўніцтва і пераводам на гаспадарчы разьлік судна, прыстані і затону.

У БССР яшчэ да гэтага часу камандны склад на суднах, прыстанях і затонах не падабраны і не падрыхтаваны. Між тым час, які застаўся для правядзеньня гэтай работы можна лічыць гадзінамі. Тым больш неабходна па-бальшавіцку скарыстаць усе магчымасьці для выкананьня пастаўленых задач.

З ланцугу важнейшых зьвеньняў падрыхтоўкі да навігацыі застановімся на некаторых: сваечасовае сканчэньнн рэорганізацыі і зьвязаныя з гэтым перасоўкі і перастаноўкі ў камандах з тым, што-б „перасадка“ не адбілася адмоўна на падрыхтоўцы да навігацыі і асабліва на поўным скарыстаньні найбольш спрыяючага для водных перавозак часу — вясеньняй паводкі. Пры гэтым асноўныя мэты рэорганізацыі— згрупаваньне ўвагі на асноўным зьвяне рачнога транспорту — судне, дакладнае вызначэньне функцый і кругу адказнасьці асоб за работу судна, прыстані, майстэрні, стварэньне такой функцыянальнай сыстэмы зьнізу даверху—павінны быць усвоены ўсімі работнікамі і поўнасьцю праведзены ў жыцьцё.

Давядзеньне пляну перавозак і вымяральнікаў да кожнага судна, кожнай прыстані і майстэрні і прапрацоўка гэтага пляну сярод усіх груп рабочых.

Недааценіць гэтую задачу, значыць адмовіцца ад аднэй з асноўных магчымасьцяй забясьпечыць выкананьне і перавыканьне пляну. Падрыхтоўка і забясьпечаньне навігацыі адпаведнымі кадрамі рабочых і асабліва кваліфікаваных рабочых. Правільнае і сваечасовае правядзеньне дырэктыў ЦК і СНК аб зарплаце, стварэньне сыстэмы зацікаўленасьці рабочых у выкананьні пляну і паказчыкаў і павышэньня якасьці работы. Забясьпечэньне транспорту неабходнымі для навігацыі матар'яламі і запаснымі часьцямі.

Нараду з концэнтрацыяй асноўнай увагі на сваечасовую і поўную падрыхтоўку да навігацыі, перад Днепра-Дзьвінскім дзяржпараходзтвам, партыйнымі, савецкімі, профэсіянальнымі і інш. арганізацыямі БССР стаіць рад задач вялікага гаспадарчага і палітычнага значэньня, вырашэньне якіх патрабуе сур'ёзьнейшай увагі ў бліжэйшы час. Разьвіцьцё народнае гаспадаркі і быстры ўсрост тэмпаў соц. будаўніцтва прад'яўляе ўжо цяпер і ў далейшым, у яшчэ большай меры, будзе прад'яўляць вялікія патрабаваньні да транспорту. Для таго, каб транспорт мог справіцца з гэтымі патрабаваньнямі, якія прад'яўляе да яго народная гаспадарка, ён павінен будзе перабудавацца.

Пры гэтым перабудова ня можа ісьці толькі па лініі колькаснага задавальненьня запатрабаваньняў. Рачны транспорт можа і павінен быць найбольш карысным, у адносінах кошту і зручнасьці, відам транспорту для цэлага раду перавозак.

У выніку рэконструкцыі павінен быць значна патанен сабекошт водных перавозак.

Пытаньне суднабудаўніцтва мае вялікае значэньне для воднага транспорту. У звароце ЦК і СНК асаблівае значэньне надаецца ў сучасны момант дрывяному суднабудаўніцтву ў умовах недахопу мэталю. Там-жа прапануецца Наркамводу яшчэ ў гэтым годзе пашырыць праграму дрывянога суднабудаўніцтва.

Умовы БССР у адносінах наяўнасьці неабходнага для суднабудаўніцтва лесаматар'ялу, наяўнасьці зручных водных басэйнаў для будаўніцтва судоў, у адносінах забясьпечанасьці рабсілай спрыяюць для разьвіцьця дрывянога суднабудаўніцтва і будаўніцтва адпаведных верфяй. Зараз гэтае суднабудаўніцтва раскідана па розных мясцох, праводзіцца амаль выключна саматужным спосабам. Гэтае будаўніцтва праводзіцца ў асноўным для Дняпроўскага дзяржпараходзтва. Акрамя гэтага сіламі Днепра-Дзьвінскага дзяржпараходзтва праводзіцца будаўніцтва дрывяных суднаў для сваіх патрэб.

Становішча будаўніцтва па верфях Белкустпрамсаюзу такое, што выклікае *сьцеражлівасьць* за сваечасовае і поўнае выкананьне праграмы.

Пэрспэктывы разьвіцьця суднабудаўніцтва патрабуюць асбталяваньня і мэханізацыі будаўніцтва, концэнтрацыі будаўніцтва ў пэўных, адпаведна абсталяваных, верфях і концэнтрацыі кіраўніцтва гэтай справай ў адных руках. Разрашэньне гэтага пытаньня ня церпіць адкладаў.

Зварот ЦК УсеКП(б) і СНК СССР канстантаваў, што „парторганізацыі рачнога транспорту зьяўляюцца найбольш адсталымі ў пастаноўцы партыйнай і масава-вытворчай працы ў параўнаньні з парторганізацыямі іншых галін народнай гаспадаркі. Партпраслойка надзвычайна нізка (2—3%), што прывяло да поўнага адсутнічаньня судовых ячэек“.

Гэта характарыстыка цалкам адпавядае становішу парторганізацыі рачнога транспорту па БССР. Да апошняга часу па КП(б)Б было ўсяго 3 ячэйкі рачнога транспорту (Гомель, Бабруйск і Віцебск) з агульнай колькасьцю партыйцаў у іх, па даных на 1/I-31 г. ў 120 ч., з якіх членаў партыі толькі 71 чал. і рабочых на транспорце ўсяго—78 чалавек. Няма і ня было ніводнай ячэйкі на суднах і прыстанях. Толькі ў апошнія дні організавана партячэйка воднікаў ў Магілеве, дзе знаходзіцца кіраўніцтва Днепра-Дзьвінскага дзяржпараходзтва. Партыйныя ячэйкі воднікаў адарваны ад мясцовых партыйных

організацый, якія вельмі мала да апошняга часу займаліся ячэйкамі воднікаў. Парторганізацыі не падыйшлі да пытаньня непасрэднага конкрэтнага кіраўніцтва вытворчасьцю. Ня ўсе партыйцы ўцягнуты ў ударніцтва.

Гэтым высоўваюцца наступныя задачы: расстанавіць маючыяся партыйныя сілы такім чынам, каб на ўсіх паравых суднах, на ўсіх буйных прыстанях, ва ўсіх майстэрнях мець партыйныя ячэйкі і, у крайнім выпадку, на невялікіх буксірных параходах мець парторганізатараў. Мясцовыя партыйныя організацыі павінны аказаць садзейнічаньне ў правядзеньні гэтага мерапрыемства шляхам пераводу рабочых з іншых галін прамысловасьці на водны транспорт. Умацаваць кіраўніцтва з боку мясцовых партыйных організацый ячэйкамі і ўсёй *працай* рачнога транспорту.

Перабудаваць партыйную работу такім чынам, каб *цэнтр работы перанесьці на судны,* зьмест работы запоўніць конкрэтным кіраўніцтвам асобнымі галінамі работы (выкананьне паказчыкаў пляну перавозак, становішча працдысцыпліны, пагрузачныя і разгрузачныя работы, рамонт і г. д.). Парторганізацыі і кожны партыец у паасобку павінны стаць на чале і мобілізаваць вакол сябе ўсю масу рабочых на бальшавіцкае выкананьне ўсіх пастаўленых задач, на падставе разгортваньня соц. спаборніцтва, разгортваньня работы вытворчых нарад, барацьбы з адсталымі настроямі асобных груп рабочых і опортуністычнымі элемэнтамі ў парторганізацыі.

„Мясцовыя партыйныя і комсамольскія організацыі цэнтр увагі ўсёй масавай работы павінны сасрэдаточыць на рашучай барацьбе з прагуламі, рвацтвам, за падняцьце працдысцыпліны, абапіраючыся на перадавыя сілы рабочых воднай гаспадаркі, на ўдарнікаў.

Неабходна паставіць работу таварыскіх судоў так, каб яны сталі на справе організацыямі таварыскага ўзьдзейнічаньня і выхаваньня адсталых слаёў воднікаў“ (зварот ЦК і СНК).

Становішча профработы на рачным транспорце БССР таксама зьяўляецца нездавальняючым. Профорганізацыі воднікаў яшчэ да гэтага часу не рэорганізаваны ў адпаведнасьці з гаспадарчай структурай і не падрыхтаваліся да разьвіцьця работы з адчыненьнем навігацыі.

Задачы, пералічаныя ў звароце ЦК і СНК, патрабуюць безадкладнай і грунтоўнай перабудовы ўсёй профработы.

Задачы, якія стаяць перад рачным транспортам, ня могуць быць выкананы без таго, каб парторганізацыя заняла сапраўды авангардную ролю—стала на чале пад‘ёму мас.

---

Я. Галенчанка

# Програма колектывізацыі сельскай гаспадаркі БССР на 3 год пяцігодкі

## I. Социяльна-экономічная і тэхнічная база колектывізацыі

Студзеньскі Пленум ЦК КП(б)Б па пытаньню аб контрольных лічбах народнай гаспадаркі БССР пастанавіў:

„Процант колектывізаваных бядняцка-серадняцкіх гаспадарак вызначыць *да канца 1931 г. у разьмеры 45 проц. агульнай колькасьці гаспадарак*".

Прычым, уздым колектывізацыі на вясну г./г. вызначаны ў 30%.

Ці ёсьць, сапраўды, у ўмовах с.-г. Беларусі магчымасьці для гэтых тэмпаў колектывізацыі? Ці мае магчымасьць індустрыя даць дастатковую тэхнічную базу для такой колькасьці колгасаў?

З самага пачатку трэба памятаць той закон колектывізацыі, які цалкам апраўдаўся на практыцы колгаснага будаўніцтва, гэта тое, што *колектывы маюць гаспадарчыя перавагі перад аднаасобнымі нават пры простым складаньні сялянскіх сродкаў вытворчасьці.*

Але гэта зусім не адзначае, што можна не даацэньваць значэньня машынізацыі сельскай гаспадаркі.

Машынізацыя зьяўляецца магутным сродкам колектывізацыі, базай разьвіцьця і ўзмацненьня колгасаў, саўгасаў, г. зн. базай соцыялістычнай рэконструкцыі сельскай гаспадаркі.

Укладаньні ў с.-г. БССР на 1931 г., прынятыя ЦК КП(б)Б і НКЗ БССР (і зацьверджаныя колегіяй НКЗ СССР), наступныя:

Агульную колькасьць трактараў для завозу ў 1931 г. вызначана ў колькасьці 15.980 трактарных сіл.

Па с.-г. машынах: ільнатрапалак—100 штук, ільнацерабілак—500 шт., бульбасаджалак трактарных—150 шт., конных—2 тысячы шт., сенакасілак трактарных—280 шт., конных—2.985 шт., сілосарэзак—650 шт., грабель конных—4.690 шт., кормазапарнікаў—1.400 шт., збожжадрабілак—100 і малацілак—48. Па мінэральных ўгнаеньнях усяго 181,5 тыс. тон.

„Пры гэтым, завоз трактараў", адзначаецца ў пастанове НКЗ СССР: павінен быць у асноўным выканан да веснавой сяўбы, а завоз мінэральных угнаеньняў у разьмеры ня менш—60%.

Побач з форсаваным забясьпечаньнем БССР трактарамі, забясьпечыць больш высокія тэмпы будаўніцтва электрастанцый, абслугоўваючых сельскую гаспадарку, асабліва ў частцы організацыі скотных

двароў і гароднае гаспадаркі. Даручыць Электрастрою забясьпечыць выкананьне намечанага будаўніцтва ў БССР трох электрастанцый з такім разьлікам, каб гэтыя станцыі ўступілі ў эксплёатацыю не пазьней канца 1932 г. (пастанова камісіі НКЗ СССР ад 12/II-31 г.).

Фінансавыя ўкладаньні ў с.-г. на 1931 г. вызначаны ў разьмеры 166 міл. руб.

**Разгледзім наступную табліцу дынамікі сельскай гаспадаркі БССР.**

| | 27/28 г. | 28/29 г. | 29/30 г. | 1931 г. (контр. лічбы) | Заўвагі |
|---|---|---|---|---|---|
| 1. *Пасеўная плошча* (тыс. га) | 3.400 | 3.432 | 3.634 | 4.083 | [1] без ляснай гаспадаркі |
| % павяліч. за год | — | +1% | +5,9% | +12,4% | |
| 2. *Буйная рагатая жывёла* (тыс. галоў) | — | — | 1.741 | 2.115 | [2] толькі ўкладаньні |
| % павяліч. за год | — | — | — | +21% | |
| 3. *Сьвіней* | — | — | 1.658 | 2.925 | [3] у параўнаньні з 28/29 годам |
| % павяліч. за год | — | — | — | +76% | |
| 4. *Трактары* (конскіх сіл на круку) | 1.270 | 2.235 | 9.100 | 25.000 | [4] бяз сродкаў насельніцтва |
| % павяліч. за год | — | +76% | +307% | +175% | |
| 5. *Коні* (у тыс. галоў) | — | — | 1.015 | 1.015 | |
| % павяліч. за год. | — | — | — | — | |
| 6. *С.-г. машыны* (тыс. р.) [1] | 2.106,7 [2] | 3.070,4 [2] | — | 15.365 [2] | |
| % павялічэньня за год [1]. | — | 46,2% | — | 400% [3] | |
| 7. *Капітальныя ўкладаньні* (тыс. руб.) | 21.745 [4] | 34.155 [4] | 52.146 [4] | 138.372 | |
| % павялічэньня за год | — | 57% | 52,6% | 165% | |

Гэтая табліца паказвае нам, па-першае, надта марудны рост с.-г. да 1930/31 г. і, па-другое, вядучую ролю індустрыі (трактарызацыя, машынізацыя).

У выніку ўкараненьня трактараў і машын у с.-г. мы маем у апошнія два гады паскарэньне тэмпаў разьвіцьця с.-г. у злучэньні з яе соцыялістычнай рэконструкцыяй.

На кожны гэктар ва ўсёй с.-г. плошчы прыпадала с.-г. машын і прылад у 1928 г. на 5,6 руб., а ў 1930 г.—на 10,3 руб.

На кожны гэктар пасеўнай плошчы прыпадае цягавай сілы, конскай і трактарнай (трактарнай з улікам моцнасьці на круку пры трохзьменнай рабоце):

У 27/28 г.— 1,4 конскіх сіл
„ 28/29 „ — 2,2 „ „
„ 29/30 „ — 7,8 „ „
„ 1931 г. —18,6 „ „

Гэты рост узброенасьці с.-г. машынамі, прыладамі і цягавай сілай знайшоў (і ня мог не знайсьці) свой адбітак у росьце соцыялістычнага сэктару с.-г. (саўгасаў і колгасаў).

Пяройдзем цяпер да разгляду дынамікі колгаснага сэктару:

| | 1927/28 г. | 1928/29 г. | 1929/30 г. | 1931 г. (контр. лічбы) |
|---|---|---|---|---|
| 1. *Пасеўная плошча* (тыс. *га*) | 49,2 | 179 | 546 | 1.188 [1]) |
| % павяліч. за год . . . . | — | +264% | +205% | +117% |
| 2. *Кароў* (тыс. галоў) . . . | 16,6 | 61,5 | 165,5 | — |
| % павяліч. за год . . . . | — | +270% | +170% | — |
| 3. *Сьвіней* (тыс. галоў) . . . | 5,8 | 22,3 | 80,1 | — |
| % павяліч. за год . . . . | — | +284% | +260% | — |
| 4. *Коняй* (у тыс.) . . . . | 7,4 | 30,7 | 103 | 477 |
| % павяліч. за год . . . . | — | +315% | +235% | +363% |
| 5. *Трактары* (конскіх сіл) . . | 312 | 570 | 4.802 | — |
| % павяліч. за год . . . . | — | +83% | +742% | — |
| 6. *С.-г. машыны* апрача трактараў (у тыс. руб.) . . . | 450 | 1.189 | 4.120 | 19.500 |
| % павяліч. . . . . . . . | — | +164% | +246% | 373% |
| 7. *Колькасьць колектывізав. гаспадарак* (у тыс.) . . . | 8,5 | 25,8 | 116,7 | 350 |
| % павялічэньня . . . . | — | 203% | 352% | 200% |

Як бачым з гэтай табліцы, тэмпы колектывізацыі, у асноўным, ідуць на адным узроўні з тэмпамі разьвіцьця колгаснага паляводзтва і жывёлагадоўлі (29/30 г., як вядома, мае асаблівасьці і таму лічбы гэтага году трэба браць з некаторай папраўкай).

Так, на кожны гэктар пасеўнай плошчы колгасаў прыпадае: с.-г. машын на 9,1 руб. у 27/28 г. і на 16,4 руб. у 1931 г., трактарнай цягі (у конскіх сілах з улікам трохзьменнай работы) у 27/28 г. на кожны гэктар прыпадала 19 конскіх сіл, а ў 1930 г.—26,4.

Які асноўны вынік трэба зрабіць з разгляду гэтых лічбаў па ўсёй с.-г. БССР і яе колгаснага сэктару?

Асноўны вынік той, што з кожным годам узброенасьць сельскай гаспадаркі машынамі і трактарамі ўзрастае, а значыць узрастае і магчымасьць пашыранай вытворчасьці, яе інтэнсыфікацыі і социялістычнай рэконструкцыі, г. зн. тэхнічная, індустрыяльная база колектывізацыі значна ўзмацняецца.

Паміж іншым, улічваючы інтэнсыфікацыю с.-г. (тэхнічныя і кармавыя культуры, жывёлагадоўля, першапачатковая апрацоўка с.-г. продуктаў і г. д.), нагрузка на кожную цягавую адзінку ў 1931 г. будзе ня менш чым у 1930 г. і напружанасьць з цягавай сілай таксама застанецца.

Пагэтаму ні ў якім выпадку нельга недаацэньваць конскай сілы і забываць задачу павялічэньня конскага статку.

---

[1]) З разьліку 30% колектывізацыі на вясну 1931 г.

(Як ня дзіўна, а НКЗ БССР падае ў гэтых адносінах прыклад опортуністычнага кіраўніцтва, калі ў контрольных лічбах зусім не вызначае павялічэньня конскага статку на 1931 г.[1]).

Калі мы жадаем высьветліць соцыяльна-экономічныя ўмовы колектывізацыі ў 1931 г., дык, зразумела, нельга абмежавацца толькі разглядам тэхнічнай базы с.-г. і іншых сродкаў вытворчасьці.

Неабходна яшчэ высьветліць тыя зьмены ў соцыяльнай абстаноўцы, тыя зрухі ў расстаноўцы клясавых сіл, якія адбыліся за першыя два гады пяцігодкі.

Гэтыя зрухі ў асноўным наступныя:

1. Індустрыя БССР ступіла на 150% уперад.

2. Саўгасны сэктар павялічыўся амаль у тры з паловай разы (па пасеўнай плошчы).

3. Колгасны сэктар шагнуў з аднаго процанту ахопу бядняцкасераднядкіх гаспадарак—да 15% (на 1/III-31 г. да 18,7%).

Соцыялістычны сэктар сельскае гаспадаркі ў 1930 годзе даў каля 20% усёй валавой і каля 30 проц. таварнай продукцыі сельскае гаспадаркі. Валавая продукцыя соцыялістычнага сэктару з 15,8 млн. руб. у 28/29 г. узрасла да 144 млн. у 1930 г.

Гэта ўсе плюсы.

Але ёсьць і мінусы. Галоўныя з іх:

1. „Лявацкія" загібы адбіліся надта шкодна як на справе колектывізацыі, так і на становішчы с.-г.

2. У выніку „лявацкіх" загібаў і кулацкай агітацыі значна пагоршылася становішча жывёлагадоўлі ў 1930 г. (зьмяншэньне конскага статку на 16%, буйнай рагатай жывёлы—на 25,6%, сьвіней на 47,4%).

Але за гэты-ж год партыя і пролетарыят атрымалі вялікія урокі кіраўніцтва колгасным рухам, выправілі памылкі і скажэньні, выйшлі ў 1931 г. больш згуртаванымі і ўзброенымі вопытам.

На трэці год пяцігодкі ў дапамогу партыі і пролетарыяту ў справе колектывізацыі падыйшлі новыя атрады актывістых-колгасьнікаў.

Пролетарыят СССР на 1931 г. дае БССР вялікую дапамогу ў выглядзе трактараў, с.-г. машын, фінансаў і інш. сродкаў.

Усё гэта гаворыць аб тым, што *ў 1931 г. мы ўступілі ў значна лепшай абстаноўцы чымся ў 1930 год.*

## II. БССР і Заходняя вобласьць РСФСР.

Надта цікава і каштоўна параўнаць програму 1931 г. ў галіне сельскай гаспадаркі па БССР з адпаведнай програмай Заходняй вобласьці РСФСР.

Як мы ведаем, сельская гаспадарка Заходняй вобласьці і БССР маюць шмат агульнага: і там і ў нас сельская гаспадарка маюць напрамак на жывёлагадоўлю, тэхнічныя культуры (лён, каноплі).

---

[1]) У пастанове колегіі НКЗ СССР па дакладу НКЗ БССР (т. Рачыцкага) аб конях гаворыцца толькі наступнае: „коняй у 1930 г. было 1.015 тыс., у 1931 г.—1.015 тыс., павялічэньня няма" (!?). (Зьвязда, 19/I-31 г.). Проста і ясна!

Спачатку параўнаем агульныя даныя аб становішчы сельскай гаспадаркі.

| У 1930 г. | Агульная плошча пасеву (тыс. *га*) | Агульная колькасьць гаспадарак (у тыс.) | $^0/_0$ колектывіз. на 1/I-1931 г. | Колькасьць колек. гаспад. (у тыс.) | Пасеўная плошча пад колгасамі | |
|---|---|---|---|---|---|---|
| | | | | | Абсол. (т. *га*.) | У $^0/_0{}^0/_0$ да ўсёй пасеўн. плошчы |
| БССР | 3.700 | 780 | 15 | 117 | 546 | 15 |
| Заходн. вобл. | 6.100 | 1.160 | 8,8 | 102 | 423 | 7 |

З гэтай табліцы мы бачым, што пасеўная плошча і колькасьць гаспадарак па Заходняй вобласьці прыблізна на $50^0/_0$ больш, чым у БССР, але $^0/_0$ колектывізацыі на 1 студзеня 1931 г. амаль у два разы меншы, менавіта ў БССР ён складае $15^0/_0$, а ў Заходняй вобласьці — толькі $8,8^0/_0$.

Простае параўнаньне процантаў колектывізаваных гаспадарак не дае нам яшчэ патрэбнага ўражаньня аб становішчы колектывізацыі ў той ці іншай вобласьці, трэба мець яшчэ даныя аб колектывізацыі і ў дынаміцы, у руху.

| | Колектывізавана гаспадарак | | | |
|---|---|---|---|---|
| | Б. С. С. Р. | | Заходняя вобласьць | |
| | Абсол. (у тыс.) | У $^0/_0{}^0/_0$ | Абсол. (у тыс.) | У $^0/_0{}^0/_0$ |
| На 1/X-1929 г. . . | 26 | 3,3 | 30 | 2,6 |
| „ 1/X-1930 г. . . | 92 | 11,5 | 83 | 7,1 |
| „ 1/XII „ г. . . | 104 | 13,4 | 89 | 7,6 |
| „ 1/I-1931 г. . . | 117 | 15 | 102 | 8,8 |

Як відаць з табліцы, па БССР 26 тысяч, а па Заходняй вобласьці — 30 тысяч гаспадарак маюць стаж колгаснай работы ў паўтары гады, розьніца тут нязначная. Але, пачынаючы з кастрычніка 1930 г. БССР ужо і па колькасьці гаспадарак і па проценту колектывізацыі ідзе наперадзе Заходняй вобласьці.

Што датычыцца трактарызацыі с.-г., дык тут даныя такія:

| | Было ў 1930 г. | Будзе ў 1931 г. |
|---|---|---|
| Колькасьць М. Т. С. у Б. С. С. Р. . . . | 2 | 25 |
| У Заходняй вобласьці . | — | 20 |

Такім чынам, і па соцыяльнай базе (удзельнай вазе соцыялістычнага сэктару ў с.-г.), і па машынізацыі (колькасьць МТС) умовы для разгортваньня колектывізацыі ў БССР значна лепшыя чымся ў Заходняй вобласьці. Праўда, некаторыя асаблівасьці БССР ускладняюць абстаноўку барацьбы за соцыялістычную рэконструкцыю с.-г. (меншая ўдзельная вага індустрыі, большы процант хутароў, кулацкіх гаспадарак — у БССР $4,2^0/_0$, у Заходняй вобласьсьці $2,4^0/_0$; нацыянальная стракатасьць, прымежнасьць БССР і інш.).

Але ўсё-ж такі па асноўных паказальніках соцыяльна-экономічнай абстаноўкі (вага соцыялістычнага сэктару і забясьпечанасьці цягавай сілай) умовы для колектывізацыі ў БССР можна сьмела параўнаць з умовамі Заходняй вобласьці.

Разглядзім цяпер програмы пашырэньня с.-г. на 1931 г.

**Програма 3-га году пяцігодкі.**

| | Павяліч. пасеўнай плошчы ў %% | | | | Павяліч. жывёлаг. ў %% | | |
|---|---|---|---|---|---|---|---|
| | Агульн. плошча | Зернав. | Тэхн. | Кармав. | Усяго статку | Кароў | Сьвіней |
| БССР . . . . | +12,4 | —15[1]) | +60 | +206 | +35-37 | +21 | +76 |
| Заход. вобл.[2]) . | +20 | + 6 | +45 | + 30 | +25-28 | — | — |

Як відаць, у Заходняй вобласьці прынята больш напружаная програма пашырэньня агульнай пасеўнай плошчы і менш напружаная, чымся ў БССР, програма жывёлагадоўлі.

Пры больш дэталёвым разглядзе гэтых лічбаў мы бачым, што *ў БССР узят рашучы курс на жывёлагадоўлю і тэхнічныя культуры,* нават за лік скарачэньня пасеўнай плошчы пад збожжавымі культурамі.

Пасеўныя плошчы пад тэхнічнымі культурамі пашыраюцца ў 1931 г. на 60%.

Пад вызначаныя тэмпы разьвіцьця жывёлагадоўлі (кароў на 21%, сьвіней на 76%) падводзіцца моцная база ў выглядзе пашырэньня кармавых культур на 206%, г. зн. больш чым у тры разы ў параўнаньні з 1930 годам.

У пляне на 1931 г. па БССР прадугледжана павярхоўнае палепшаньне сенажацяй па плошчы 300.000 гэкт., засілосаваньне ня менш 1 мільёна тон, засеў сілосных культур — 35 тыс. гэкт., аднагадовых і шматгадовых траў — 552 тыс. гэкт. і караньплодаў — 80 тыс. гэкт.

Што датычыцца да програмы колектывізацыі на вясну 1931 г., дык тут лічбы найбольш цікавыя.

**Програма колектывізацыі на вясну 1931 г.**

| | Колектыв. гаспадарак на 1/I-1931 г. (у тыс.) | % кол. на 1/I-1931 г. | Трэба колект. да 1/V (у тыс). | У сярэд. на кож. месяц да 1/V (у тыс.) | % колектыв. да вясны 1931 г. | % колектывізацыі ў раёнах М.Т.С. |
|---|---|---|---|---|---|---|
| БССР . . . . | 117 | 15 | 117 | 30 | 30 | 50 |
| Заход. вобл. . | 102 | 8,8 | 230 | 60 | 30 | 50 |

[1]) Памяншэньне.

[2]) Усе лічбы па Заходняй вобласьці ўзяты з часопісу Запобкому ЎсеКП(б), „Партыец“, № 19-20, 1930 г.

БССР і Заходняя вобласьць паставілі перад сабою аднолькавыя задачы — колектывізацыі на вясну 1931 г. 30% усіх бядняцка-серадняцкіх гаспадарак, а ў раёнах МТС давесьці колектывізацыю да 50%. У колькасным выражэньні гэта адзначае неабходнасьць колектывізацыі, у сярэднім на кожны месяц, па БССР 30 тысяч гаспадарак, а па Заходняй вобласьці ў два разы больш — 60 тысяч.

З усяго гэтага параўнаньня нам павінна стаць зразумелым, што ўстаноўка ЦК КП(б)Б на колектывізацыю 30% да пачатку веснавой сяўбы прынята ў выніку бальшавіцкага ўліку нашых магчымасьцяй, у выніку аналізу соцыяльных зрухаў сярод асноўнай масы сялянства.

Студзенькі пленум ЦК КП(б)Б так і адзначае, што *„выходзячы з дасягнутага ўзроўню колектывізацыі, разгортваньня МТС, саўгаснага будаўніцтва... створана магчымасьць ва ўмовах БССР дасягнуць проценту калектывізацыі ў веснавую пасеўную кампанію да 30% і да канца 1931 г. — да 45%“.*

Зьвернемся цяпер да разгляду таго, ці адпавядаюць тэмпы разгортваньня колектывізацыі, якія мы маем у апошнія месяцы, гэтым пастаўленым задачам.

**Велічыня колгаснага прыліву (па месяцах (у тыс.).**

| | Б. С. С. Р. | Заходняя вобл. |
|---|---|---|
| Кастрычнік . . 30 г. | 5,2 | 1,4 |
| Лістапад . . . 30 г. | 6,8 | 4,0 |
| Сьнежань. . . 30 г. | 12,7 | 13,0 |
| Студзень . . . 31 г. | 8,9 | 14,0 |
| Люты . . . . 31 г. | 11,0 | 50,0 |

Па БССР у канцы 1930 г. мы маем больш роўнаважную і моцную хвалю колгаснага руху, чымся ў Заходняй вобласьці і толькі ў пачатку 1931 г. есьць зьніжэньне тэмпаў прыросту.

Як мы ўжо ведаем, для таго, каб дасягнуць таго ўзроўню колектывізацыі, які вызначаны ў контрольных лічбах, трэба, каб велічыня колгаснага прыліву за кожны месяц да 1 мая складала па БССР, у сярэднім, 30 тысяч.

Як відаць з паказаных лічбаў, мы значна, у тры разы, адстаем ад вызначаных намі тэмпаў.

У чым прычына такіх слабых тэмпаў?

З таго папярэдняга кароткага разгляду сучасных ўмоў і магчымасьцяй колектывізацыі ў БССР мы можам зрабіць той вынік, што мы яшчэ недастаткова скарыстоўваем нашы магчымасьці. У гэтым прычына слабых тэмпаў колектывізацыі.

Мы нашы магчымасьці яшчэ ня цалкам ператвараем у сапраўднасьць.

### III. Магчымасьць ператварыць у сапраўднасьць

З папярэдняга аналізу мы ўстанавілі *поўную магчымасьць выкананьня пляну колектывізацыі сельскай гаспадаркі трэцяга году пяцігодкі.*

Што трэба, каб гэтую магчымасьць ператварыць у сапраўднасьць?

Перафразіруючы вядомыя слова К. Маркса, мы можам сказаць, што трактар, які ня будзе скарыстаны для работы, есьць толькі спорчанае жалеза; насеньне, якое ляжыць на складзе — ёсьць насеньне толькі ў магчымасьці.

„Жывая праца павінна ахапіць гэтыя рэчы, уваскрасіць іх з мерцьвякоў, перавярнуць іх з толькі магчымых у сапраўдных і дзейнічаючых"... (К. Маркс. Капітал, т. I).

Толькі тады, калі рэчы ахоплены полымем працы, толькі ў кантакце, у сувязі з жывой працай — магчымасьць ператвараецца ў сапраўднасьць.

Проста кажучы, у процэсе работы, у станка на фабрыцы, за трактарам, плугам, сеялкай у полі — робіцца сапраўднасьць.

Але гэта яшчэ ня ўсё.

Людзі заўсёды самі рабілі сваю гісторыю, як рабілі гліняныя гаршкі, палатно, сапагі і г. д., але, як рабілі?

Капіталістычная грамада разьвіваецца паводле стыхійных законаў. Кіруючая і пануючая кляса капіталістых не ўсьведамляе і не скарыстоўвае законы грамадзкага разьвіцьця і ня можа скарыстоўваць, бо г. зн. для капіталістых рыхтаваць сваю пагібель, бо на пэўным этапе гэтыя законы патрабуюць зьмяненьня капіталізму ў соцыялізм, праз рэволюцыю і дыктатуру пролетарыяту.

Зусім інакш справа ў умовах савецкай сыстэмы.

Усьведамляючы законы грамадзкага разьвіцьця, пролетарыят *пад кіраўніцтвам партыі* скарыстоўвае гэтыя законы для пабудовы соцыялізму.

З стыхійных законаў яны робяцца законамі нашай волі, розуму і свабоды.

Вось тут мы і падыходзім да самай сутнасьці пытаньня. У умовах пераходнага пэрыоду ўся маса пролетарыяту, маса ўсіх працоўных ня можа цалкам усьвядоміць свае задачы і шляхі іх вырашэньня.

Толькі авангард пролетарыяту — комуністычная партыя бальшавікоў, кіруючыся рэволюцыйнай тэорыяй марксызму-ленінізму, асьвятляе шляхі рэволюцыйнай практыкі і кіруе масамі ў гэтай практыцы перабудовы грамады.

Поўнае скарыстаньне сродкаў вытворчасьці ня ёсьць адзіная ўмова ператварэньня магчымасьці ў сапраўднасьць.

Наадварот, гэтае поўнае, найбольш поўнае і мэтазгоднае накіраваньне вытворчых сіл магчыма толькі ў адпаведных соцыяльных умовах пры адпаведнай расстаноўцы клясавых сіл, пры адпаведным кіраўніцтве партыі.

Ператварыць магчымасьць у сапраўднасьць, гэта адзначае тое-ж самае, што цалкам скарыстаць усе рычагі, вінцікі, зьвеньні, сродкі, — тэхнічныя, фінансавыя, клясавыя на справу колектывізацыі — гэта адзначае *мобілізацыю ўсіх сіл пролетарыяту, колгасьнікаў і бядняцка-серадняцкага сялянства на выкананьне гэтых задач.*

Гэта адзначае расчышчэньне шляху ад усіх супраціўляючыхся, ад усіх, якія тармазяць наступленьне соцыялізму, усімі тымі мэтодамі і сродкамі, якія маюцца ў пролетарыята і яго партыі.

Гэта адзначае, што „трэба перш за ўсё пахаваць тэорыю самацёку" (Сталін).

Разгортваньне колектывізацыі нельга аддзяліць ад іншых сельскагаспадарчых кампаній (вясеньняя сяўба, контрактацыя, загатоўкі, справаздачная кампанія ў колгасах і г. д.).

Усе гэтыя кампаніі пераплятаюцца паміж сабой тысячамі струнак. Усе гэтыя кампаніі павінны садзейнічаць разгортваньню колектывізацыі.

Вось чаму пры разглядзе задач колектывізацыі, якія стаяць перад парторганізацыямі ў гэтую вясну, нельга не закрануць задач і іншых с.-г. кампаній, у першую чаргу задач падрыхтоўкі да другой бальшавіцкай вясны.

„Рашаючай умовай посьпеху вясеньняй сяўбы",— гаворыцца ў пастанове ЦК партыі ад 20 студзеня,— „зьяўляецца замена пачаўшагася ўвосень новага прыліву колгаснага руху... ў сапраўдны моцны прыліў у колгасы".

Трэба стварыць колектывізацыю моцным рычагом вясеньняй сяўбы і вясеньнюю сяўбу—рычагом колектывізацыі.

## IV. Зьвеньні бальшавіцкай вясны

Якія задачы стаяць перад намі ў другой бальшавіцкай вясьне? У якія галіны работы кожная парторганізацыя на вёсцы павінна зьвярнуць цэнтр увагі, чым павінна кіраваць праз адпаведныя прывадныя рамяні?

1. Давядзеньне *плянаў пасеву* да саўгасаў, колгасаў, вёскі і да двара.

2. Складаньне *насенных і страхавых фондаў*, ачыстка і пратручваньне насеньня, якасьць іх, захоўваньне, абмен насеньня на гатунковае. Насеньне траў, караньплодаў і г. д.

*3. С.-г. машыны, угнаеньне.*

Праверыць кожны склад. Прасоўваньне машын, насеньня, угнаеньня на месцы. Рамонт машын.

4. *Цягавая сіла.* Роля МТС. Рамонт трактараў. Забясьпечаньне палівам. Падрыхтоўка коняй да сяўбы. Броняваныя кармавыя фонды на час сяўбы, іх якасьць, захоўваньне.

5. *Дагаворная кампанія з МТС і контрактацыя.*

6. *Кадры.* Трактарыстых, брыгадзіраў, паляводаў сьвінаводаў і інш. організатараў колгасаў. Запатрабаваньні ў кадрах, плян падрыхтоўкі і г. д.

7. *Плян мобілізацыі сродкаў* у колгасах, саўгасах, вёсках.

8. *Земляўпарадкаваньне* новых колгасаў і старых у выніку прыліву аднаасобнікаў.

Усе гэтыя задачы павінны злучацца з барацьбой за новы *прыліў у колгасы.*

Старыя колгасы павінны быць прыкладам лепшага правядзеньня вясновай сяўбы. Лепшыя колгасы і саўгасы павінны ўзяць на буксір адстаючых.

*Замацаваньне існуючых колгасаў* першачарговая задача. Правільная організацыя працы, разьмеркаваньне прыбыткаў, разгортваньне соцспаборніцтва, ачыстка колгасаў ад кулакоў і г. д.

У якім-жа становішчы знаходзяцца ўсе гэтыя зьвеньні колгаснае вясны. Пяройдзем да конкрэтнага разгляду гэтых зьвеньняў.

1. Дрэнна абстаіць справа з *давядзеньнем пляну пасеву да колгасу,* да вёскі, да двара.

Шмат раёнаў (74!) яшчэ дыскутуюць аб рэальнасьці пасеўнага пляну, а колгасьнікі і аднаасобнікі, якія будуць араць — ня ведаюць зусім гэтых плянаў, яны да іх не давездены.

На 1 сакавіка пляны даведзены да 68% колгасаў і да 40% аднаасобнікаў. Але па некаторых раёнах даведзены пляны ня тыя, што вызначаны НКЗ, а паменшаныя, опортуністычныя пляны, прынятыя раённымі ўстановамі.

2. *Засыпка насенных фондаў* праведзена да 1 сакавіка ў колгасах на 72%, страхавых толькі на 34%. Але з якога разьліку праведзена гэтая засыпка, калі толькі да 68% колгасаў даведзены пасеўныя пляны?

Ачыстка насеньня праведзена па колгасах на 58% пляну, абмен насеньня на гатунковае толькі на 7% (да 1/III), у аднаасобнікаў ачышчана насеньне толькі на 16% пляну.

У некаторых раёнах пануюць настроі, што насеньне прывязуць з цэнтру і таму ня трэба самім клапаціцца. Да кулацкіх гаспадарак цьвёрдыя заданьні па загатоўках насеньня даводзяцца вельмі марудна. У некаторых мясцох спадзяюцца на страхавыя фонды, што імі можна замяніць насеньне.

Вельмі дрэнна, як бачым, праходзіць абмен зярна на гатунковае.

3. *Прасоўваньне с.-г. машын і ўгнаеньняў* на месцы трэба надта паскорыць.

Тав. Рачыцкі гаварыў на Студзеньскім пленуме, што на складах ляжыць сельска-гаспадарчых машын больш чым на два міл. руб.

Задача кожнай ячэйкі партыі і комсамолу, кожнага профкому, асабліва „лёгкай кавалерыі КСМ" і ўдарных брыгад правяраць кожны склад с.-г. машын і рашуча штурхануць справу з месца.

Вось некалькі прыкладаў:

„У Чашніках на складах райкоопсаюзу выяўлены залежы значнай колькасьці с.-г. машын: 8 сартовак, 16 сяўярак, 10 ільнамялак, 10 ільнатрапалак, 56 плугоў, 98 барон, 4 трыеры і інш." „На складах Вульскага райкоопсаюзу накапілася 377 розных с.-г. машын на суму 25 тысяч руб.

У той час, калі ў раёне ачыстка збожжа зрываецца з-за недахвату машын, *на складах ляжаць бяз руху 18 сартовак „Трыумф", 3 трыеры, 6 ільна-трашчотак.* Ляжыць таксама 7 вагонаў мінэральных угнаеньняў. На складах у 35 раёнах накапілася конных плугоў — 4.006, барон—4.857, культыватараў—1.195, сяўярак конных—715, сартовак—457. Па Круглянскім раёне за 2 месяцы рэалізавана...8 плугоў, адна барана, 5 акучнікаў. Такі-ж малюнак па Гомельскім і Аршанскім раёнах.

Яшчэ горш з рэалізацыяй збожжа-ачышчальных машын. На складах Клімавіцкага раёну ляжаць бяз руху 39 трыумфаў і трыераў, Горацкага—24, Аршанскага—30, Гомельскага раёну—23. Гэта ў той час, калі ў радзе раёнаў адчуваецца вялікі недахват у збожжаачышчальных машынах.

З прасоўваньнем запасных частак такое-ж становішча. На Менскай базе Белсельснабу ёсьць залежы запасных частак на 254.000 руб., у Аршанскім-жа раёне іх зусім няма" (Зьвязда, 15 і 17/III-1931 г.).

Вось як абстаіць у іншых раёнах з магчымасьцю і сапраўднасьцю. Магчымасьць у выглядзе сартовак, трыераў,—ёсьць, але яна ў сапраўднасьць, у выглядзе адсартаванага насеньня, не пераходзіць.

*Дрэнна абстаіць справа і з рамонтам с-г інвэнтару.* Але некаторыя раёны паказваюць лепшыя прыклады.

У некаторых вёсках кузьні працуюць у тры зьмены. Мобілізаваны ўсі кавалі. У кожнай кузьні таксама вучаць дарослых кузьнечнай справе.

4. У справе *падрыхтоўкі цягавай сілы* да вясны адну з асноўных роляй адыгрываюць МТС.

Ня трэба даказваць, што МТС зьяўляецца таксама важнейшым рычагом колектывізацыі.

Становішча з падрыхтоўкай ужо маючыхся МТСвельмі небясьпечнае. З маючыхся трактараў на 1 сакавіка адрамантавана толькі 46%. Майстэрні па рамонту працуюць толькі ў адну зьмену і некаторыя загружаны ня цалкам.

Трэба своечасова загатовіць „кармы“ для трактараў, г.-зн—апал. Трэба прадугледзець напружанасьць з забясьпечаньнем апалам і папярэдне ставіць пытаньне аб эканоміі. Падрыхтоўка кваліфікаваных трактарыстых павінна адыграць тут першую ролю.

*Пытаньне аб эканоміі паліва павінна быць адным з галоўнейшых у соцспаборніцтве паміж асобнымі трактарыстамі і паміж МТС.*

У рамонце трактараў БССР адстае ад іншых вобласцяй.

На гэты-ж час, г. зн. на 1/III на Украіне адрамантавана ўжо 83%, у Н-Волжскім краі—72%, на Паўночным Каўказе—83%, у Крыму—усе 100%.

Толькі суседка БССР —Заходняя вобласьць рухаецца такімі-ж „абломаўскімі“ тэмпамі, як і мы (на 1/III—45%). Трэба зараз-жа разгарнуць рашучую барацьбу ня толькі за своечасовую падрыхтоўку машын да сяўбы, але і за беражныя адносіны да трактара, да машын.

Паварот „тварам да тэхнікі“, аб якім гаварыў т. Сталін на зьезьдзе гаспадарнікаў, датычыцца таксама і працаўнікоў с.-г.

Падвышэньне тэхнічнай граматнасьці масавых кадраў праз курсы, конфэрэнцыі, гурткі тэхнічнай граматнасьці і г. д. мае важнейшае значэньне ў гэтай справе.

Трактары складаюць значную, але ўсёж-ткі меншую частку агульнай колькасьці цягавай сілы.

На 1931 г. моцнасьць трактараў будзе складаць 25 тысяч, г. зн. пры трохзьменнай рабоце—75 тыс. конскіх сіл, а коняй на гэты-ж год ва ўсёй с.-г. налічваецца больш аднаго мільёна. Значыць, з агульнай моцнасьці цягавай сілы (бяз уліку валоў і інш.) у 1.100 тысяч конскіх сіл трактары складаюць толькі 6,8% і 93,2% складаюць коні. Адсюль зразумела, што яшчэ на шэраг бліжэйшых гадоў асноўнай цягавай сілай будуць зьяўляцца коні. Па гэтаму ні ў якім выпадку нельга зьмяншаць увагі да задачы павялічэньня і палепшаньня конскага статку.

Але мы ўжо гаварылі, што НКЗ дае прыклад опортуністычнага кіраўніцтва, калі ў контрольных лічбах на 1931 г. зусім ня лічыць неабходным павялічэньне конскага статку.

Опортуністычнасьць гэтай устаноўкі зробіцца перад намі зусім яскравай, калі мы ўспомнім, што ў 1929/30 г. было памяншэньне конскага статку на 16% у выніку „лявацкіх“ загібаў і кулацкай „актыўнасьці“ па зьнішчэньні жывёлы, калі мы ўспомнім, што і *зараз кулак вядзе шалёную агітацыю за памяншэньне і зьнішчэньне статку.*

*Барацьба супроць разбазарваньня жывёлы, асабліва коняй, ня страціла сваёй вастраты.*

На вялікі жаль, шмат раёнаў (на чале з НКЗ) запамяталі вурокі 1929/30 г.

Аб падрыхтоўцы коняй да сяўбы НКЗ СССР, Колгасцэнтрам СССР БССР своечасова даны пэўныя і выстарчальныя ўказаньні. *Дрэнна толькі праводзіцца выкананьне іх.*

Адзначым, напрыклад, становішча з складаньнем фуражных фондаў. На 1 сакавіка створана фуражных фондаў у БССР па грубых кармох 7,8% пляну, па концэнтраваных кармох—15%.

Ня гледзячы на тое, што с.-г. БССР мае выразны жывёлагадоўчы напрамак, што ў адносінах магчымасьцяй стварэньня фуражных фондаў БССР знаходзіцца ў значна лепшых умовах, чымся іншыя вобласьці і нацрэспублікі, ня гледзячы на гэта і ў справе стварэньня насенных фондаў мы цяляпаемся ў хвасьце.

Украіна на 1/III выканала 60-62% пляну, Паўночна-Каўкаскі край 72%, сярэдні процант выкананьня пляну па ўсяму СССР па грубых кармох—56%, па концэнтраваных—34%.

5. *Контрактацыя і дагаворы з МТС*. Вялізарнейшае значэньне дагавораў з МТС відна хаця-б з таго, што ў пераважнай большасьці выпадкаў цэлыя вёскі (зраумела, за выключэньнем кулацкай часткі) у выніку дагавораў і работы МТС ў гэтым-жа годзе ці праз год цалкам колектывізуюцца. Такім чынам, МТС зьяўляецца магутным рухавіком ня толькі с.-г. вытворчасьці, але і яе социялістычнай перабудовы.

На жаль, некаторыя МТС ідуць па лініі найменшага супраціўленьня і заключаюць дагаворы толькі з ужо маючыміся колгасамі замест таго, каб уключыцца ў агульны паход за колектывізацыю.

Контрактацыйная кампанія па БССР праходзіць вельмі дрэнна. На 1 сакавіка законтрактавана яравых, збожжавых пасеваў *менш аднаго проценту пляну.*

БССР і тут пляцецца ў хвасьце ўсіх іншых вобласьцяй і рэспублік.

Гэтае зьвяно колектывізацыі і вясеньняй сяўбы *амаль зусім выпала з агульнага ланцугу*[1]).

Трэба адзначыць добры пачын комсамолу БССР аб стварэньні скразной ударнай брыгады з 15 тысяч комсамольцаў па садзейнічаньні контрактацыі (гл. „Чырвоная Зьмена", 13/II-31 г.).

Гаворачы аб контрактацыі, нельга абыйсьці маўчаньнем агіднейшую справу ў Копыльскім раёне. Там было прыцягнута да судовай адказнасьці 167 беднякоў і серадняков як быццам за невыкананьне дагавораў па контрактацыі за 1929 г.

На другім пасяджэньні суду (на першае не зьявіўся істец) высьветлілася, што 164 з гэтых 167 свае абавязкі выканалі.

Гэта, бязумоўна, провокацыйны, контр-рэволюцыйны выпадак.

„За контрактацыю цягаюць па судох" будзе трубіць кулак.

Агенты Белдзяржандлю *Энцін, Бохан, Каротки* і нарсудзьдзя *Лашчэўскі*—вось „героі" гэтага процэсу.

„Організацыя судовага процэсу над 167 сялянамі зьявілася фактычнай вылазкай клясавага ворага, які скарыстаў судовы апарат у сваіх клясава-варожых мэтах для падрыву гаспадарча-палітычных кампаній на вёсцы і саюзу рабочае клясы з асноўнымі масамі сялянства.

Непасрэдны організатар процэсу народны судзьдзя *Лашчэўскі зьявіўся фактычным праваднікам кулацкай палітыкі* пад прыкрыцьцем формальна-бюрократычных заяў.

Працаўнікі канторы Дзяржгандбелу *Энцін, Бохан, Каротки, зьяўляючыся адкрыта агентурай кулацтва ў савецкім апараце*, узьнялі справу на аснове хлусьлівых і блытаных матар'ялаў для таго, каб стварыць адмоўныя настроі з боку бядняцка-серадняцкага сялянства да правядзеньня чарговых гаспадарча-палітычных кампаній" (Зьвязда, 6/III-31 г., пастанова сакратарыяту ЦК КП(б)Б).

[1]) У красавіку маецца, у выніку мерапрыемстваў ЦК КП(б)Б, значны зрух: на 6-IV законтрактавана ільну—34,7%, бульбы—22,7%, сена—5,4%.

Становішча контрактацыйнай дагаворнай кампаніі паказвае, што шкоднікаў і опортуністых тут шмат. Задача адсюль—ясна.

6. *Кадры*. „Стварэньне колгасных кадраў зьяўляецца адной з важнейшых умоў узмацненьня колектывізацыі" (XVI зьезд). Гэта зразумела і не патрабуе доказаў. Але стварэньне колгасных кадраў мае вялікае значэньне і ў справе організацыі новых колгасаў.

Прывядзем толькі адзін малюнак.

„На сходзе ў Цараўцах пасьля выступленьня т. Галадзеда, прыехаўшага туды з раённага зьезду саветаў, выказалася звыш 20 таварышоў. І большасьць з іх скардзілася на адно і тое-ж:

—Мы знаходзімся на раздарожжы. Аднаасобная гаспадарка нас ня выведзе з галечы. У гэтым мы цьвёрда ўпэўніліся. Мы за колгас. Але ў нас няма кіраўнікоў, організатараў, якія-б дапамаглі".

Бяднячка цётка Агрыпіна, выступаючы на сходзе, заявіла:

—Вёска „мечется", хоча выйсьці з тупіку, абрыдзела паўгалоднае жыцьцё. Каб нам добры кіраўнік. А ў нас іх няма" (Зьвязда, 14/II-31 г.).

Бязумоўна, мае рацыю аўтар гэтага артыкулу, т. Грахнеў, калі адказвае гэтай бяднячцы:

„Няпраўда, цётка Агрыпіна. Такія організатары ёсьць. „Адно з самых лепшых заваяваньняў колгаснага руху заключаецца ў тым, што ён ужо пасьпеў вылучыць тысячы організатараў і дзесяткі тысяч агітатараў колгаснай справы з самых сялян... А сяляне-агітатары зьяўляюцца добрымі агітатарамі колгаснага руху, бо яны знойдуць такія аргуманты ў карысьць колгасаў, якія зразумелы для астатняй масы сялян, аб якіх мы, кваліфікаваныя бальшавікі, ня можам нават марыць" (Сталін).

Ёсьць яны і ў Цараўцах, у асяродзішчы лепшай часткі беднаты і сераднякоў. Выявіць гэтых організатараў, выхоўваць іх і організаваць на барацьбу за колгасы — важнейшая задача партыйна-масавай работы на сяле".

Самацёкам гэтыя масавікі, організатары, агітатары ня зьявяцца. „*Выявіць, выхаваць, організаваць*" — вось на што трэба рабіць націск.

Па ўсёй колгаснай сыстэме СССР да веснавой кампаніі павінна быць падрыхтавана па пляну *582 тысячы* масавых колгасных працаўнікоў (старшыні і члены праўленьня, організатары працы, брыгадзіры, паляводы і г. д.).

На БССР з гэтай лічбы падае *11 тысяч*, а падрыхтавана да сакавіка 1931 г. толькі каля 2000 ці каля 18%[1]). На курсы па падрыхтоўцы ў многіх раёнах амаль зусім не вылучаюцца жанчыны, а між тым адпаведныя дырэктывы гавораць аб неабходносьці дабіцца павялічэньня ўдзельнай вагі жанчын да 50% агульнага складу.

У справе падрыхтоўкі масавых колгасных работнікаў БССР стаіць амаль на апошнім месцы. Заходняя вобласьць РСФСР на 20/II выканала плян на 58%, Сярэдняя Волга на 141,2%, Ніжняя Волга—на 263%. (!)

Нацыянальныя рэспублікі таксама ідуць наперадзе БССР, так, на 20/II-1931 г. Украіна выканала ўжо 89% пляну, Закаўказьзе—147% (!), Нямецкая рэспубліка—88,1%

Таксама дрэнна абстаіць справа з падрыхтоўкай кадраў спэцыялістых. Тав. Рачыцкі на X Зьезьдзе Саветаў БССР гаварыў наступнае:

„Паводле скромных падлікаў, якія мы зрабілі, выходзячы на бліжэйшыя гады з пэрспэктыў будаўніцтва саўгасаў і колгасаў, нам да канца пяцігодкі ў сельскай гаспадарцы патрэбна мець *вышэйшай кваліфікацыі каля 7000 чалавек, сярэдняй — 16.000 чалавек, ніжэйшай*

[1]) На 20-III ўжо вучыцца 6 тыс., ці 53,8%.

*кваліфікацыі, як та: рулявых, паляводаў, брыгадзіраў, жывёлаводаў, сьвінароў каля 100 тысяч чалавек.* Маючаяся сетка навучальных устаноў без яе пашырэньня забясьпечвае менш паловы патрэбнай нам колькасьці вышэйшай і сярэдняй кваліфікацыі. У гэтай галіне нам *патрэбна карэнным чынам перагледзець сетку навучальных устаноў* у бок яе значнага пашырэньня, а таксама маючуюся сетку перабудаваць так, каб яна была здольна прапусьціць большую колькасьць падрыхтаваных спэцыялістаў, чымся гэта маецца зараз".

Як вядома, да канца пяцігодкі засталося толькі паўтары гады, а кіраўнікі НКЗ толькі рыхтуюцца „перагледзець сетку навучальных устаноў". Ці-ж гэта можна назваць бальшавіцкімі тэмпамі? Ці гэта не „хвасьцізм"? Павялічэньне колькасьці МТС у БССР да 25 патрабуе адпаведнага павялічэньня тэхнічных кадраў ужо на бягучую вясну. Весткі з месц гавораць аб вельмі небясьпечным становішчы ў гэтай галіне. Напрыклад:

„Ветрынская МТС да вясны будзе мець 60 трактараў, 53 трактары ўжо прыбылі, а трактарыстаў няма. Аднак, адміністрацыя МТС зусім не клапоціцца аб падрыхтоўцы кадраў для МТС. Дырэктыва Трактарацэнтру аб падрыхтоўцы 120 трактарыстаў і 25 паляводаў ня выконваецца. Не рэалізаваны плян організацыі ШКМ. Пытаньне аб падрыхтоўцы кадраў не абмяркоўвалася на агульных сходах профактыву і парторганізацыі". (Зьвязда, 17/II-31 г.). Таксама дрэнна забясьпечаны МТС агрономамі. Згодна пастановы Наркампрацы і Наркамзему СССР (гл. „Правда", 12/II-31 г.) у трохдзённы тэрмін павінна быць мобілізавана на правядзеньне веснавой сяўбы 60% усіх спэцыялістых па с.-г., якія працуюць у розных апаратах.

Рашучае правядзеньне гэтага мерапрыемства можа даць значны зрух ня толькі ў справе веснавой сяўбы, але і ў справе падрыхтоўкі кадраў, пры правільным скарыстаньні мобілізаваных таварышоў.

7. *Плян мобілізацыі сродкаў.* Укладаньні ў с.-г. БССР на 1931 г. складаюць 166 міл. руб. Аднэй з крыніц гэтых укладаньняў зьяўляюцца сродкі самога насельніцтва (колгасаў, колгасьнікаў і аднаасобнікаў). Гэтая крыніца павінна даць 57.300 тысяч руб. Стварэньне ў гэтым годзе 23 новых МТС, забясьпечаньне машынамі і інвэнтаром залежыць непасрэдна ад мобілізацыі сродкаў насельніцтва:

„Практычнае ажыцьцяўленьне пляну будаўніцтва МТС у кожным раёне, забясьпечаньне МТС трактарамі, аўтомашынамі, прыцэпным с.-г. інвэнтаром і іншымі сродкамі вытворчасьці *павінны быць пастаўлены ў цесную залежнасьць ад разьмеру грашовага ўдзелу мясцовага насельніцтва ў будаўніцтве станцый. Раёны, якія выканалі заданьне па зборы сродкаў у тэрмін, павінны быць забясьпечаны абслугоўваньнем МТС у першую чаргу.*

У раёнах, у якіх насельніцтва ня прыме адпаведнага грашовага ўдзелу ў будаўніцтве МТС, МТС павінны быць зьняты і перанесены ў раёны, дзе збор сродкаў працякае больш пасьпяхова. („Інструкцыя НКЗ і Колгасцэнтру СССР" Соц. Землед., 12/II-31 г.).

Каб высьветліць як ідзе мобілізацыя сродкаў па БССР на МТС, дадзім слова т. Рачыцкаму:

„На жаль, у радзе раёнаў", гаворыць ён: „існуе недаацэнка ролі МТС. Гэта відаць хоць-бы з таго, што мобілізацыя сродкаў на будаўніцтва МТС праходзіць зусім нездавальняюча. Контрольныя лічбы, якія былі дадзены на асобны квартал—5.900 тыс. руб. і на першы квартал 2 з паловай мільёны, з акругленьнем, выкананы толькі на 12 проц. Нават тыя раёны, у якіх намечана будаўніцтва МТС, заданьне

сваё выканалі толькі на 24%. Прычым ёсьць такія раёны, як Асьвейскі, Буда-Кушалеўскі і Жыткавіцкі, якія не сабралі ніводнай капейкі, і толькі 6 раёнаў плян мобілізацыі сродкаў на будаўніцтва МТС выканалі больш 50%. Такое становішча ні ў якім разе нельга прызнаць нормальным.

Цэнтральны Камітэт партыі і ўрад прымушаны з двух раёнаў, якія недаацэньваюць значэньня МТС—Сьмілавіцкага і Буда-Кашалеўскага, зьняць будаўніцтва МТС і перанесьці ў іншыя раёны". (Даклад на X зьезьдзе Саветаў).

За студзень—люты гэтага году квартальны плян збору на МТС выканан толькі на 8,2%.

Плян мобілізацыі сродкаў не абмяжоўваецца толькі зборам на МТС, ня меншую ролю адыгрываюць тэрміновыя і датэрміновыя выплаты с.-г. падаткаў, збор уступных і паявых узносаў па колгаснай сыстэме (на 1/III-31 г. выканана 18,2% квартальнага пляну), уклады ў ашчадкасы, зварот с.-г. пазык, падпіска на пазыку „пяцігодка", узносы ў спажывецкую коопэрацыю і г. д.

На 1/III па ўсіх гэтых крыніцах выканана 44% квартальнага пляну.

## V. Формы і мэтоды барацьбы за колгасны прыліў

Адно пералічэньне спосабаў, сродкаў, зьвеньняў работы па колектывізацыі паказвае ўсю велічыню і складанасьць гэтай задачы.

„Пабудаваць соцыялістычную грамаду рукамі адных комуністых гэта рэбячаская зусім, рэбячаская спроба" (Ленін). Соцыялізм будуецца рукамі, актыўнасьцю ўсіх працоўных мас. Задача партыі мобілізаваць гэтую актыўнасьць і кіраваць ёй. Агітацыя і пропаганда справай, прыкладам грае тут вялізарнейшую ролю.

У практыцы і вярбоўцы ў колгасы вырабаталіся лепшыя мэтоды. Першае месца тут маюць *справаздачы колгасаў перад аднаасобнікамі.* Паказ колгасамі сваіх дасягненьняў—лепшы сродак агітацыі за колектывізацыю. Як паказвае вопыт лепшых колгасаў БССР і СССР, непасрэдна пад уплывам справаздачнага сходу шмат аднаасобнікаў, нават цэлыя вёскі, уступаюць у колгас.

Справаздачы лепш за ўсё рабіць спачатку на сходах бядняцтва, моладзі, жанчын, а потым на агульных сходах. Пры гэтым самыя справаздачы трэба будаваць так, каб больш высьвятляліся тыя пытаньні, якія асабліва датычацца ўдзельнікаў сходу і хвалююць іх. Трэба, каб на гэтых сходах выступалі і радавыя колгасьнікі, а ня толькі члены праўленьня. Простае слова колгасьніка часам робіць больш карысьці, чымся вялікія лічбы і развважаньні. Справаздачы колгасаў трэба ставіць ня толькі ў сваёй ці вакольнай вёсцы, але і ў іншых, нават часам у іншых раёнах. У БССР ужо ёсьць вопыты гэтага. На вялікі жаль, гэты адзін з лепшых мэтодаў організацыі прыліву ў колгасы яшчэ вельмі дрэнна, вельмі мала скарыстоўваецца ў БССР.

Шмат старых колгасаў у БССР яшчэ не падагулілі вынікаў сваёй работы за год і спазьніліся з разьмеркаваньнем. (На 1 лютага былі разьмеркаваны прыбыткі толькі ў 2 тысячах колгасаў з агульнага ліку больш чатырох тысяч).

Другім сродкам зьяўляюцца *ініцыятыўныя групы.* Калі сялян, якія жадаюць організаваць колгас, яшчэ недастаткова для гэтага, дык яны складаюць ініцыятыўныя групы і агітуюць сваіх аднасялян пад кіраўніцтвам колгасьнікаў ці брыгадзіра.

Калі набярэцца дастатковая колькасьць, дык групаператвараецца ў колгас.

Як паказвае вопыт, такія групы даюць вельмі добрыя вынікі і ў хуткім часе вырастаюць у колгас.

Нельга толькі абюрокрачваць гэты мэтод: нельга *вызначаць* групы (у савеце, ячэйцы). Групы складаюцца з аднаасобнікаў, якія ў сапраўднасьці жадаюць стварыць колгас. Неабходна імкнуцца да стварэньня ініцыятыўнай групы ў кожнай вёсцы, у якой няма колгасу, неабходна ўвесь час дапамагаць і кіраваць імі.

У некаторых раёнах члены ініцыятыўных груп пасылаюцца ў бліжайшы колгас. Там яны знаёмяцца з становішчам гаспадаркі, працай у колгасе і, зварочваючыся робяць даклады на сходах ініцыятыўных груп. У выніку такіх паездак звычайна ўся ініцыятыўная група ператвараецца ў колгас.

Трэцяй формай зьяўляюцца *вярбовачныя брыгады*. Гэта брыгады з лепшых актывістых-колгасьнікаў, якія вядуць агітацыйна-арганізацыйную работу сярод аднаасобнікаў. Трэба прыцягваць да ўдзельнічаньня ў гэтых брыгадах аднаасобнікаў з ініцыятыўных груп. Брыгады лепш ствараць асобныя па рабоце сярод жанчын, моладзі, ці ў кожную брыгаду ўключаць такіх работнікаў. Зразумела, што такія брыгады павінны імкнуцца ахапіць сваёй работай і вакольныя вёскі.

Праз гэтыя брыгады, якія пасылаюцца ў іншыя вёскі, раёны, перадаецца новым колгасам вопыт старых колгасаў. Зразумела, што брыгады трэба ўвесь час забясьпечваць матар'яламі аб рабоце колгасаў (як убралі і разьмеркавалі ўраджай, як рыхтуюцца да севу і г. д.).

Чацьверты спосаб — пасылка па вёсках *інструктарскіх брыгад з раёну, гораду, цэнтру*. Гэтыя брыгады складаюцца з рабочых, парт., проф. комс. актыву, вучашчыхся тэхнікумаў, ВНУ і ВТНУ, Комвузаў, адказных працаўнікоў і г. д.

Па БССР ужо шмат такіх брыгад працуюць у вёсцы. Першачарговай умовай іх пасьпяховай работы зьяўляецца *адпаведная расстаноўка сіл, дача пэўных заданьняў, кіраўніцтва імі і праверка іх работы*.

Брыгады з раёну і цэнтру павінны ў першую чаргу ўзяцца за дапамогу і кіраўніцтва колгаснымі брыгадамі і ініцыятыўнымі групамі.

Пятым спосабам—зьяўляецца пасылка ў лепшыя колгасы *дэлегацыі з аднаасобнікаў* і маладых колгасьнікаў. Маладыя колгасьнікі атрымоўваюць праз такія дэлегацыі вурокі колгаснага будаўніцтва, а аднаасобнікі, побач з гэтым, упэўняюцца ў перавагах колгаснай гаспадаркі.

Шостым спосабам зьяўляюцца *„чырвоныя сваты“* і „чырвоныя свахі“, г. зн. індывідуальная агітацыя асобных сялян. Гэты спосаб дае вельмі яскравыя вынікі. Як вядома, авангардам у колектывізацыі зьяўляюцца батракі і беднякі. Часта, пасьля стварэньня першай групы колгасьнікаў з батрацтва, беднаты і асобных серадняков, далейшая колектывізацыя затрымліваецца на адным месцы. Серадн‌які чакаюць. Сусед глядзіць на суседа. Вось тут адпаведны індывідуальны ўплыў і дапамагае перамагчы гэтыя хістаньні, а за суседзямі пойдуць іншыя суседзі. *„Чырвоныя сваты“ таксама вельмі карысны ў справе канчатковай колектывізацыі вёскі ці раёну.* „Сватаць“ трэба настойліва больш упартых серадняков, і тады за імі пойдуць і астатнія.

Ня меншую ролю ў разгортваньні колектывізацыі павінна адыграць вылучэньне (у парадку добраахвотнасьці) лепшых колгасьнікаў для арганізацыйнай работы ў новых колгасах.

Для лепшага высьвятленьня гэтых мэтодаў прывядзем некалькі прыкладаў з практыкі ЦЧО.

Вось практыка Падгоранскага раёну (ЦЧО).

„Спачатку, калі процант колектывізацыі раёну быў менш 50, парторганізацыя праводзіла *масавыя сходы* беднаты, моладзі і агульныя сходы адаасобнікаў сумесна з колгасьнікамі. Як толькі процант колектывізацыі падняўся да 75 сталі пераходзіць да новай формы работы. Рашано было спачатку завербаваць самых аўторытэтных аднаасобнікаў, яшчэ працягваючых разважаць. На іх глядзелі і астатнія сяляне. Часта брыгады колгасьнікаў слыхалі: „Ён пакуль ня ў колгасе. Пачакаю і я“. Тады *быў узяты курс на вярбоўку важакоў.* Як толькі зямельная грамада (аднаасобнікі) выбіраюць свайго ўпаўнаважанага, брыгаднік з колгаснай вярбовачнай брыгады пачынае з ім бяседаваць. Упаўнаважаны ўваходзіць у колгас, а за ім ідуць і іншыя аднаасобнікі. Так ішла сыстэматычная праца па вярбоўцы ў колгас.

І трэці мэтод брыгад вярбоўшчыкаў на фронце колектывізацыі— *работа з кожным аднаасобнікам у паасобку.* Тут практыкуюцца два способы: ці брыгада ў 3—5 чалавек наведвае двары беднякоў і сераднякоў, вядзе гутаркі аб колектывізацыі, ці кожны колгасьнік займаецца падрыхтоўкай у колгас аднаго аднаасобніка. На сходах колгасьнікаў для гэтай мэты выдзяляюцца самыя актыўныя колгасьнікі. Кожны выбірае сабе аднаасобніка. Яны наведваюць сваіх „падшэфных“ аднаасобнікаў, гутараць, спрачаюцца, і ў канцы-канцоў аднаасобнік уступае ў колгас.

Партыйная організацыя скарыстала ўсе магчымасьці, каб забясьпечыць рост колектывізацыі. Яна памагла ўступіць у колгасы многім беднякам і серадням.

Гэта ініцыятыва была падхоплена іншымі раёнамі ЦЧО, *і за апошні час у адстаючых раёнах вобласьці працуюць 1.000 колгасьнікаў з раёнаў суцэльнай колектывізацыі.*

Увесь актыў раёну працуе на сяле. Парторганізацыя дабілася таго, што колгасьнікі сталі сапраўднымі агітатарамі за колгасы“.

(„Правда“, 6/II-31 г.).

Там-жа ў Беразоўскім раёне — працуе па колектывізацыі больш 500 чалавек актыву колгасьнікаў, *галоўным чынам, жанчын.*

Зразумела, што ёсьць у ЦЧО і адмоўныя факты, іх нельга забываць.

„Некаторыя ячэйкі да гэтага часу не перабудавалі сваёй працы.

Асобныя комуністы (Токараўскі раён) займаюцца самахвальствам і пераацэнкай сваіх сіл, сьлепа спадзяючыся ўзяць колгас з аднаго сходу“.

Такі гонар, самахвальства, жаданьне „ўзяць колгас з аднаго сходу“ ёсьць і ў асобных організацыях БССР.

Гэта пэўныя прыкметы „левых загібчыкаў“.

Усе брыгады, групы па колектывізацыі патрабуюць правільнага партыйнага кіраўніцтва.

Супроць „самацёку“, пасыўнасьці і супроць „левых“ загібаў, адміністраваньня, застрашваньня павінен быць накіраваны агонь.

Вялізарную ролю ў барацьбе за колектывізацыю адыгрывае друк. „Друк павінен паказаць найбольш слабыя вучасткі, ускрыць у тым ці іншым выпадку прычыны адставаньня і прарываў, паказаць узоры прымернай працы асобных абласьцей, раёнаў, колгасаў, аказаць дапамогу ў зьнішчэньні недахопаў, мобілізаваць масы на ліквідацыю прарываў, на яшчэ больш быстрае ажыцьцяўленьне задач колектывізацыі. Мы падкрэсьліваем, што пры ўсёй важнасьці своечасовай сыгналізацыі недахопаў і прарываў асаблівую ўвагу газэты павінны

зьвярнуць на паказ добрага ў падрыхтоўцы да севу, дзе іншыя раёны маглі-б вучыцца.

„Бліжэй да жыцьця. Больш увагі да таго, як рабочая і сялянская маса на справе будуе новае ў сваёй будзічнай рабоце". (Ленін) (Правда 12/II-31).

Друк у БССР вельмі мала зварочвае ўвагі на адшуканьне і паказ гэтых лепшых прыкладаў у змаганьні за колектывізацыю і ў падрыхтоўцы да сяўбы.

Мобілізацыя селькораў на гэтую справу, організацыя новых насьценных газэт і шматтыражак—вось асноўныя ўмовы выкананьня гэтых задач.

## VI. Старыя колгасы—на перадавыя позіцыі барацьбы за прыліў

*Падрыхтоўка колгасаў да сяўбы* мае вялікае значэньне. Аднаасобнік уважліва сочыць за работай колгасу. Бываюць выпадкі, што аднаасобнікі да пачатку сяўбы чакаюць—і калі колгас добра падрыхтуецца да сяўбы і добра пачне яе, дык аднаасобнікі пачынаюць таксама араць у адну баразну, а потым уступаюць у колгас.

Бягучы год адрозьніваецца ад папярэдніх масавым, актыўным удзелам старых колгасаў у барацьбе за колектывізацыю. Колгасы паказваюць прыклады добрай падрыхтоўкі да сяўбы і бяруць на буксір аднаасобнікаў.

Вось як рыхтуецца колгас імя „Энгельса".

*„Мы поўнасьцю выконваем дырэктывы партыі і ўраду аб пашырэньні пасеўнай плошчы, асабліва пад тэхнічнымі і кармавымі культурамі.*

Першая ачыстка насеньня ўжо зроблена. Ідзе паўторная ачыстка.

Насеньня хапае, за выключэньнем тых культур, якія мы сеем сёлета ўпяршыню.

*Насеньнем гародніны мы зможам забясьпечыць ня толькі свае патрэбы, але і ўсіх колгасаў Уваравіцкага раёну. Гэта адно з вялізарных дасягненьняў нашай колгаснай гаспадаркі, бо гародным насенна-водзтвам мы займаемся ўсяго толькі адзін год.* Шпаркім тэмпам у нас ідзе рамонт машын і інвэнтару. Працуюць кавальская, рымарная і калёсная майстэрні. Калёсная майстэрня абвясьціла сябе ўдарнай, абавязаўшыся перавыканаць плян вырабу перасовачнага інвэнтару.

250 коняй, якія мы маем, хопіць для правядзеньня веснавой сяўбы. *Броняваныя фуражныя фонды створаны. Скарыстоўваньне коняй у зімовы пэрыод узята пад суровы нагляд.*

Паляпшаючы дагляд коняй, разгортваючы соспабрніцтва паміж конюхамі, абавязваемся захаваць жывую цягавую сілу да вясны ў поўным парадку, недапускаючы, каб коні худзелі.

*Зараз колгасьнікі высоўваюць трэці сустрэчны плян, які перавышае заданьне райколгассаюзу і павялічвае высунутыя ў двух ранейшых сустрэчных плянах абавязкі па тэхнічных і кармавых культурах.*

Сельска-гаспадарчая арцель „Энгельс" абвяшчае сябе ўдарным колгасам. Агітуючы паказам, разгортваючы масавую работу, „Энгельс" бярэ на сябе абавязак дабіцца поўнага выкананьня пляну контрактацыі ў сельсавеце, колектывізаваць Лапіцкі сельсавет да вясны на 80%, а да восені на ўсе — 100%. Мы вылучаем тры спэцыяльныя вярбовачныя брыгады і даем кожнаму актывісту заданьне—уцягнуць

у колгасы ня менш 5-ці бядняцка-серадняцкіх гаспадарак". (Зьвязда, 15/II-31 г.).

Вось другі прыклад колгасу „Ленінскі прамень" (Ветрынскі раён).

Колгас „Ленінскі прамень" першым і лепш за ўсе колгасы раёну падрыхтаваўся да веснавой сяўбы.

Вытворчы плян колгасам складзены. *Поўнасьцю ачышчана і засыпана насеньне.* Колгасьнікі гэтым не абмежаваліся. *Ачышчана амаль усё насеньне індывідуальнага сэктару ў сельсавеце. Поўнасьцю засыпаны кармавыя і страхавыя фонды.*

*Праведены абмен простага насеньня на гатунковае.*

*Адрамантаваны ўвесь сельска-гаспадарчы інвэнтар, усе прылады і збруя падрыхтаваны да пачатку веснавых работ.*

*Усе коні пастаўлены ў належныя кармавыя ўмовы. Створана строгая чарговасьць карыстаньня коньмі з тым, каб яны маглі адпачываць. Корм выдаецца строга па норме.*

Земляўпарадкаваньне ў колгасе поўнасьцю праведзена. Ураджай разьмеркаваны.

Колгасьнікі „Ленінскага праменю" паказваюць таксама ўзоры барацьбы за ліквідацыю прарываў у ільназагатоўках. *Увесь лён даўно апрацаваны і зданы на загатоўчыя пункты.*

Колгас „Ленінскі прамень" узяў на буксір колгас „Чырвоны Сьцяг", які да гэтага часу яшчэ не апрацаваў свой лён, і забраў частку ўраджаю ільну колгасу „Чырвоны Сьцяг" для апрацоўкі яго сваімі сіламі. („Зьвязда", 28/II-31 г.).

Надта прыгодны прыклад скарыстаньня ўсіх унутраных магчымасьцяй у падрыхтоўцы да сяўбы падае колгас „Страна Саветаў", Канцеміроўскага раёну.

Гэты колгас зрабіў агляд падрыхтоўкі. Аднаасобнікі і суседзі-колгасьнікі дзівіліся на добрую падрыхтоўку інвэнтару, збруі і запрашалі: „Дзе ўзялі жалеза, дрэва, вугаль, вяроўкі — усе тыя дэфіцытныя тавары, якія ў іншых мясцох затрымліваюць падрыхтоўку. Як сумелі падрыхтавацца за цэлы месяц да выхаду ў поле?".

І вось як адказвалі ім колгасьнікі „Страны Саветаў":

„Падрыхтоўку пачалі ў студзені. Ня было ні вугалю, ні жалеза, ні дрэва, ні вяровак.

Зараз-жа парашылі не спадзявацца на атрыманьне з раёну. Кінуліся шукаць унутраныя рэсурсы.

На агульным сходзе *абралі брыгады, якім даручылі сабраць па дварох жалезны лом,* старыя восі, плугі, балты. Набралося шмат.

З вугалем было хужэй. Атрымалі нямнога антрацыту, дасталі на ж. д. шлак. Пасьля гэтага кузьніцу (4 чалавекі) паставілі на рамонт, даўшы ёй цьвёрдае заданьне—скончыць працу да 1 лютага.

Дошчак для скрынак напілілі самі. На рамонт інвэнтару выдзелілі шэсьць плотнікаў (па два на кожную брыгаду).

*Забясьпечанасьць вяроўкамі, бячоўкай, тарай -- заслуга жанчын.* У час падрыхтоўкі да сяўбы было два жаночых сходы. Некалькі выдзеленых колгасьніц абышлі двары, сабралі па 10-15 жмень канапель, перадалі ўсё сабранае ў брыгады, у брыгадах былі зьвіты вяроўкі і вожкі.

Такім-жа шляхам колгас забясьпечыў сябе тарай. *Колгасьніцы* пад кіраўніцтвам двух арганізатараў, выдзеленых агульным жаночым сходам, сабралі пяньку і наткалі 200 мэтр. парусіны для нарыхтоўкі мяшкоў. *Жанчыны,* у якіх ня было пяньκі, давалі клубкі пражы, іншыя гатовыя мяшкі.

*Жанчыны* нарыхтавалі 125 папон для коняй, нарыхтавалі 125 сумак-кармушак" („Соц. Землед." 4/III-31).

У Сьмілавіцкім раёне колгас „Авангард" абвясьціў сталінскі прызыў у колгас.

На заклік „Авангарду" першымі адгукнуліся аднаасобнікі в. Туры, за тым в. Чарніцы, Шаметаева. Сьмілавіцкі райком партыі падхапіў ініцыятыву колгасьнікаў і абвясьціў сталінскі прызыў у колгасы па ўсяму раёну.

Бюро Сьмілавіцкага райкому КП(б)Б, абмеркаваўшы пастанову агульнага сходу членаў колгасу „Авангард" і зварот новых колгасьнікаў з вёскі Туры, пастанавіла абвясьціць на раёне ў сувязі з наближэньнем гадавіны апублікаваньня артыкулу т. Сталіна сталінскі прызыў у колгасы.

Прыстасаваньне новага паходу за колектывізацыю да гадавіны вядомых пастаноў ЦК УсеКП(б) і артыкулаў т. Сталіна надта каштоўна.

Гэтыя артыкулы, якія падагульвалі вурокі зімы 1929/30 г., жывуць у памяці кожнага колгасьніка, кожнага выхадца з колгасу і аднаасобніка.

Усьведамленьне гэтых вурокаў, папярэджваньне новых загібаў — першачарговая ўмова для таго, каб новы прызыў быў, сапраўды, сталінскім.

Зараз у сталінскі прызыў уключылася больш 30 раёнаў. За дзьве дэкады сталінскага прызыву з 20 лютага па 10 сакавіка ў БССР організавана 378 новых колгасаў, у колгасы ўцягнута 9.554 новых бядняцка-серадняцкіх гаспадарак.

## VII. Увага новым колгасам

Вясеньні прыліў у колгасы працягваецца.

Новыя колгасы патрабуюць асаблівай увагі з боку ўсіх організацый. Нельга паўтараць старых памылак унутрыколгаснага будаўніцтва.

Пытаньне організацыі працы, разьмеркаваньня прыбыткаў, суадносін паміж батракамі, беднякамі і серадднякамі ў колгасе — усё гэта павінна быць правільна выврашана і ажыцьцёўлена. У новыя колгасы будзе імкнуцца пралезьці кулак. Кулак і падкулачнікі агітуюць супроць мобілізацыі сродкаў, насеньня, супроць абагульваньня сродкаў вытворчасьці і г. д.

Прапрацоўка і правядзеньне ў жыцьцё статуту арцелі, збор уступных узносаў, збор насеньня, збор на машыны і іншыя патрэбы колгасаў — усё гэта неадкладныя задачы ўсіх новых, як і старых колгасаў.

*Новыя колгасы адчуваюць патрэбу ў асаблівым палітычным і гаспадарчым кіраўніцтве.* У новыя колгасы трэба ў першую чаргу даваць вопытных кіраўнікоў з прамысловых, саўгасных рабочых, з выпрабаваных старых колгасьнікаў.

Саўгасы і старыя колгасы павінны ўзяць шэфства, узяць на буксір новыя колгасы.

Неабходна склікаць у раёнах курсы-нарады (прыкладна на 3-5 дзён) праўленьняў новых колгасаў, дзе з імі падрабязна і практычна прапрацаваць пытаньні пляну і рабочай програмы севу, організацыі працы, разьмеркаваньня ўраджаю, парадку вучоту працы, сыстэмы рахункаводзтва і г. д.

Добра з старых колгасаў у парадку таварыскай дапамогі пера-кінуць на 2-3 тыдні ў новыя колгасы лепшы актыў, каб яны памаглі ім сваім вопытам пераключыцца на разрашэньне гаспадарчых пытань-няў. Добра з новых колгасаў паслаць брыгадзіраў, членаў праўленьня ў старыя колгасы для вопыту.

У шмат якіх раёнах БССР на новыя колгасы зварочваецца мала ўвагі.

Напрыклад, „Зьвязда“ адзначае (гл. 15/III), што, як правіла, па-сеўныя пляны да нова-організаваных колгасаў амаль па ўсіх раёнах не даводзяцца.

Колгасцэнтр СССР прыняў настанову аб абмене вопытам старых колгасаў з новымі. Прывядзем яе ў скарочаным выглядзе:

„Рэспубліканскім, краёвым, абласным і раённым колгассаюзам *выдзеліць з уноў організаваных колгасаў 60.000 колгасьнікаў. Накіра-ваць гэтых колгасьнікаў брыгадамі ў 3-5 чал. у старыя лепшыя кол-гасы для таго, каб на працягу дэкаднага тэрміну азнаёміць іх з леп-шымі ўзорамі організацыі працы, прымяненьня зьдзельшчыны, устанаўленьня норм выпрацоўкі, ударніцтва, соцспаборніцтва, разь-меркаваньня прыбыткаў, вучоту працы, складаньня вытворчых пля-наў, організацыі брыгад, парадку ўходу за колектыўным жывёлаводз-твам, складаньня рабочых програм, падрыхтоўкі да ўборачнай кам-паніі і інш.* важнейшымі мерапрыемствамі і галінамі работ па колгас-най вытворчасьці.

Новымі колгасамі праўленьне КГЦ лічыць усе колгасы, якія узьніклі пасьля 1-ліпеня 1930 г.

У лік 60.000 выбіраюцца лепшыя адданыя, найбольш актыўныя работнікі з складу батракоў, беднякоў і лепшых серадьнякоў і жанчын, намячаемыя да кіраўніцтва ў новых колгасах рознымі галінамі колгас-най вытворчасьці — брыгадзіры, жывотнаводы, організатары працы, паляводы.

Колгассаюзы абавязаны адабраць лепшыя колгасы, у якія павін-ны быць накіраваны 60.000-кі. Усе выдзяляемыя колгасьнікі ў лік 60.000 павінны быць зацьверджаны агульнымі сходамі колгасаў. Новыя колгасьнікі, прыбыўшыя ў старыя колгасы для вывучэньня вопыту, павінны быць разьмеркаваны па асобных галінах працы. Да гэтых колгасьнікаў павінны быць прымацаваны лепшыя організатары кол-гаснай вытворчасьці старых колгасаў, якія павінны практычна пера-даць накоплены імі вопыт у організацыі колектыўнай гаспадаркі.

Па звароце ў свае колгасы колгасьнікі абавязаны зрабіць даклад на агульным сходзе колгасьнікаў з уцягненьнем сялян-аднаасобнікаў.“ („Правда“, 12/III-31 г.). Гэтую пастанову трэба тэрмінова правесьці ў жыцьцё.

Вясеньні прыліў у колгасы працягваецца. Каб ён быў сапраўды „сталінскім“, неабходна *самым шчыльным чынам злучаць барацьбу за тэмпы колектывізацыі з гаспадарча-організацыйным умацаваньнем новых колгасаў.*

Шмат якія організацыі, нават газэты, яшчэ не разумеюць усёй важнасьці гэтай задачы. Некаторыя таварышы лічаць, што досыць з'агітаваць сялян, прыняць устаў і кропка... „далей, да соцыялізму новыя колгасьнікі самі дойдуць“.

Гэта буйнейшая памылка.

Бязумоўна, падача заявы ў колгас гэта *важны, рашучы крок* се-ляніна (бедняка і, асабліва, серадняка) у бок соцыялістычнай формы гаспадаркі. Але гэта *толькі першы крок.* Ужо на другім і трэцім

кроку новыя колгасы, новыя колгасьнікі сустракаюць чарговыя задачы, чарговыя цяжкасьці.

Абагуленьне маемасьці, стварэньне насенных фондаў, уцягненьне новых колгасьнікаў у новыя формы працы, вясеньні сеў — усё гэта ня менш важныя крокі, ня менш цяжкія для колгасьніка, які толькі ўчора быў аднаасобнікам. Нярэдкі выпадкі, калі пасьля першага кроку ўперад, кроку ў колгас, аднаасобнік робіць два крокі назад, выходзіць з колгасу. Дрэннае кіраўніцтва ў колгасе асноўная прычына такіх выпадкаў. Вясна 1930 г. дала нам шмат такіх вурокаў. Вурокі забываць нельга.

*Трэба злучаць барацьбу за тэмпы з умацаваньнем колгасаў. Гэта два бокі адной і тэй-жа задачы,— колектывізацыі вёскі.*

## VIII. Кулак змагаецца—наступаць на кулака

Новае разгортваньне колектывізацыі вызывае новае супроціўленьне кулацтва. Кулак ужывае ўсе мэтоды барацьбы, пачынаючы ад „урастаньня“ ў колгас і канчаючы тэрорам (забойствамі, атручваньнем, падпаламі). Праяў абвастрэньня клясавага змаганьня на вёсцы шмат. Прывядзем толькі некалькі за апошні час. Вось як кулакі „ўрастаюць“ у соцыялізм праз колгас, пры дапамозе опортуністых. У Максевіцкай ячэйцы (Клімавіцкага раёну) „кіраўніцтва партячэйкі ў асобе сакратара Баршчэўскага зраслося з кулацтвам. Баршчэўскі і старшыня праўленьня колгасу жылі на кватэры ў кулака Асмалоўскага. Асмалоўскі перш за ўсё ўцёрся ў давер'е праўленьня колгасу, сельсавету і партячэйкі і лічыўся там „сваім“ чалавекам.

Кулак Асмалоўскі згуртаваў вакол сябе заможна-кулацкія элемэнты сельсавету і пачаў дзейнічаць. Сам Асмалоўскі зьяўляўся бухгальтарам колгасу, а бацька яго вартаўніком. Гэта давала магчымасьць кулацкім элемэнтам абкрадаць колгас, спэкуляваць колгаснай маемасьцю (украдзена 6 пудоў масла, пакрадзена сьвініна і г. д.).

Адміністрацыя колгасу: старшыня праўленьня Нікіцін і яго намесьнік Гапайдзін, бухгальтар Асмалоўскі маюць па дзьве каровы, зусім ня думаюць іх абагульваць і кормяць колгасным фуражом. Гэта ў той час, калі колгаснага статку карміць няма чым. У выніку— дзьве каровы прапалі, загінула шмат цялят і каля паўсотні парасят. У мінулую ўборачную кампанію колгасам ня ўбрана 40 гэкт. сенажаці.

У колгасе 5 проц. агульнага складу—кулакі і заможнікі. Беднаты ў колгасе 26 проц. Ёсьць некалькі батрацкіх сем'яў. Усю работу па доглядзе за жывёлай і наогул па гаспадарцы вядуць батракі і беднякі, фактычна яны служаць у кулакоў, якія кіруюць колгасам“. (Зьвязда, 2/III-31 г.).

Яшчэ лепш „будавалі соцыялізм“ кулакі Камарынскага раёну ў колгасе „Серп і Молат“.

Праўленьне колгасу: старшыня Краўчанка Ціхан—заможнік. Яго брат Краўчанка Хвядос—член праўленьня. Яго швагер Андрэевец— намесьнік старшыні. Яго зяць—Прыбыль—член праўленьня. Існавала такое нормаваньне працы, што за адну і тую-ж работу атрымлівалі па розных разрадах. Калі пэўную работу выконваў бядняк—вызначаўся меншы разрад, а калі кулак або заможнік, дык большы. Аб якасьці работы кулакоў гаворыць наступны факт. У выніку догляду Краўчанкі коні зрабіліся такімі худымі, што іх амаль нельга ўжо браць на работу.

У часе ўборкі ўраджаю ў першы-ж дзень убралі індывідуальны ўраджай жыта кулака Краўчанкі, дзядзькі старшыні праўленьня.

Колгасная беднята прымушана была ўбіраць жыта кулакам і заможнікам бяз усякай аплаты за працу. Колгасны інвэнтар і коні бяз усякай аплаты абслугоўвалі кулакоў і заможнікаў.

Для таго, каб колгасьнікі ня скардзіліся, што працуюць бяз грошай, рабілася так: да 4 гадзін дня ўбіралі жыта Краўчанкам, а з 4 гадзін працавалі на ўборцы колгаснага ячменю. Гэта давала магчымасьць запісваць працоўныя дні нібыта выключна за ўборку колгаснага ячменю.

Колгас таксама малаціў бяз усякай аплаты жыта Краўчанкам. За гэту работу колгасьнікам у табель заносілі дні за кошт колгасу. Цікава, што Краўчанкам запісвалі працоўныя дні за абмалот... іх уласнага жыта.

Разьмеркаваньне дэфіцытных тавараў праходзіла наступным чынам: „сьмятана"—кулакам і заможнікам, а беднякам і батракам—рэшта. Калі беднята запытала, чаму гэта так, дык атрымала такі адказ ад Краўчанкі Хвядоса:—Бачыце, калі мы даем заможнікам, дык упэўнены, што яны з колгасу ня выйдуць, бо ў іх шмат тут маемасьці, а ў бедняка ці батрака нічога няма, значыцца, ён можа ў любую хвіліну пакінуць колгас, таму і даваць бедняку ці батраку ня трэба.

У колгасе адкрыта гаварылася беднякам:

„Мы праз Вас пайшлі ў колгас, бо Вы-ж думалі нас выслаць—ня вышла!

Цяпер дакарайце самі сябе! Вынікі кулацкага гаспадараньня хутка сказаліся—большасьць беднякоў вышла з колгасу. Акрамя таго, пачаўся сыстэматычны нявыхад на работу і г. д.

Недалёка ад гэтага колгасу (у 5 кілёмэтрах) у в. Кардоўка існуе колгас імя Карла Маркса. Кулак Ветчанка Мікола кіруе колгасам. Цікава, што кіраўніка Казлоўскага колгасу, кулака Ветчанка Міколу, адказныя работнікі раёну рэкомэндавалі і, у ленінскія дні на агульным сходзе, урачыста прынялі ў партыю.

Зробленая ў апошнія дні рэвізія абодвух колгасаў выявіла вялізарную колькасьць злачынстваў кулацкага кіраўніцтва гэтых колгасаў. Вінаватыя арыштаваны („Зьвязда" 3/III-1931 г.).

У Капыльскім раёне. „Група беднякоў і серадднякоў парашыла аб'яднацца ў колгас. Заможныя сяляне гэтай вёскі, якімі кіруе вопытная рука кулака, заявілі: добра, мы таксама ўсе пойдзем у колгас. Але нас большасьць, а Вас менш і мы Вас, організатараў, выкінем з колгасу голенькімі". Паміж тым раённае кіраўніцтва (у лютым г/г.) налічвала ў гэтым раёне ня больш ня менш як толькі аднаго кулака.

У Барысаўскім раёне 80% раскулачаных аказаліся ў колгасах.

Зусім ня дзіўна, што ў выніку опортуністычнага згодніцтва, у выніку наступленьня кулацтва ня толькі серадняк, але і бядняк палохаецца ісьці ў колгас. На сходзе ў вёсцы „Туры" былі запытаньні:

„А што, як не пайсьці ў колгас, дык гэтага, ці як яго там, штрафаваць будзе, ці што?

— А яшчэ казалі, што вайна будзе хутка, газэты так пішуць. Так што, калі колгасьнік, дык палякі ўсыплюць.

...Хто казаў?—Людзі казалі ў Смалявічах, на кірмашы. Хто сабе і пасьмяяўся, а я дык веры і дала, бо газэт ня чытаю, няпісьменная".

„Я на сёнешні дзень выкажуся", гаварыў Каленік на тым-жа сходзе: „Трусіць наш бядняк ісьці ў колгас. Вось мой бацька, тут-жа ён сядзіць. Хай, вось, ён скажа. Бегае ды енчыць... „я галадаю, ды

я галадаю". А як у колгас ісьці, дык не. А так бегае ды плача... Я ўжо сазнаў і ўступаю ў колгас". (Зьвязда" 28/II-31 г).

„Група сялян в. Аношкі па сваім уласным пачынаньні напісала заяву аб жаданьні арганізаваць колгасы. Пад заявай падпісаліся ў форме *круга,* так што немагчыма ўстанавіць, хто першы падпісаў заяву, бо... *круг,* каб перадаць заяву сакрэтна ад кулакоў і іх агентаў, даручылі зрабіць гэта ўначы на кватэру сакратара парт'ячэйкі. З сакратара парт'ячэйкі перадаўшы заяву ўзяў абавязацельства не агалашаць яго прозьвішча. Колгас арганізаваўся. І гэта ля самай мяжы. (Капыльскі раён).

Апошні факт яскрава паказвае імкненьне беднякоў і сераднякоў у колгасы. *Кулацтва і яго агенты—опортуністы галоўная перашкода на іх шляху.*

Нарэшце, прывядзем толькі два факты кулацкага тэрору: У Капыльскім раёне нядаўна „Выязная сэсія Вярхоўнага суду разглядзела справу аб зьверскім забойстве кулакамі Зайковічамі Ануфрыем і Алесем актывіста-колгасьніка колгасу „Хваля Рэволюцыі" (Брачкаўскі сельсавет)—Залужнага Алеся".

У Мсьціслаўскім раёне: кулакі „прабуюць угаварыць колгасьніка Басава ўкрасьці і зьнішчыць усе паперы праўленьня колгасу, асабліва вучот працы, каб немагчыма было правесьці разьмеркаваньне ўраджаю. Басаў катэгорычна адмовіўся зрабіць гэта. Тады кулакі парашылі перайсьці да адкрытага тэрору".

Організатар колгасу „1 мая" т. Карпенка быў забіты.

„23-га лютага ў Сушанскім с/с кулак Патоцкі двума стрэламі з нагану цяжка параніў старшыню сельсавету, члена партыі, т. Сапегу (Вульскі раён)".

Усіх такіх фактаў шмат, усе яны сьведчаць аб тым, што пры дапамозе опортуністых, кулак дзе-ні-дзе прарывае фронт і пераходзіць у наступленьне. Яны вучаць, што супроць кулака і опортуніста, які нясе яго сьцяг, трэба накіраваць галоўны агонь, што разгортваньне колектывізацыі немагчыма бяз жорсткай клясавай барацьбы, без рашучага наступу на кулака і яго ліквідацыі мэтодам колектывізацыі. [1])

## X. За правільнае бальшавіцкае кіраўніцтва

Разгортваньне масавага руху патрабуе правільнага кіраўніцтва з боку партыі, пасіленьня і палепшаньня яго.

Практыка колгаснага руху на кожным кроку пацьвярджае гэта.

Вышэй мы высьветлілі поўную магчымасьць выкананьня програмы колектывіацыі, вызначанай на гэты год.

Мы высьветлілі, што ўмовы і магчымасьці колектывізацыі ў гэтым годзе значна лепшыя, чым у папярэднія гады.

„Але дапушчальны выпадкі, калі магчымасьці для перамогі маюцца, а партыя ня бачыць гэтых магчымасьцяй ці ня можа іх правільна скарыстоўваць, у выніку чаго замест перамогі можа атрымацца паражэньне.

І вось усё тое-ж пытаньне: ці змагла партыя правільна скарыстоўваць *магчымасьці і перавагі,* якія прадастаўляюцца нам савецкім

[1]) „Асноўным мэтодам ажыцьцяўленьня ліквідацыі кулацтва як клясы зьяўляецца колектывізацыі. Усе астатнія меры павінны быць прыстасаваны да асноўнага мэтоду. Усё, што супярэчыць гэтаму мэтоду, ці паслабляе яго значэньне, павінна быць адкінута". (Сталін — „Адказы Сьвярдлоўцам").

ладам; ці ўсё яна рабіла для таго, *кабператварыць гэтыя магчымасьці ў сапраўднасьць* і забясьпечыць, такім чынам, нашаму будаўніцтву максымум поспехаў"? (Сталін).

Дынаміка колгаснага руху, разгортваньне сеці МТС і саўгасаў, падрыхтоўка да севу—усе гэтыя посьпехі зьяўляюцца адказам на пастаўленыя пытаньні.

Але пры разглядзе гэтых-жа дасягненьняў, мы бачым і недахопы і прарывы на асобных вучастках. Мы бачым, што *ўсе магчымасьці* намі яшчэ не скарыстоўваюцца, што максымуму посьпехаў мы яшчэ не дасягнулі.

„Вясна 1931 г.—рашучы этап у змаганьне за абсолютную перавагу соцыялістычнага сэктару ў сельскай гаспадарцы".

Вясна 1931 г. ня можа ня выклікаць новага абвастрэньня клясавага змаганьня. Наступленьне колгасаў нясе гібель кулацтву, і кулацтва шалёна супраціўляецца. Агітацыя супроць колгасу і спробы пранікнуць у колгас, спэкуляцыя на цяжкасьцях у забясьпечаньні машынамі, кармамі, насеньнем, падпалы, забойствы, запалохваньне („прыдуць белапалякі—усіх колгасьнікаў перавешаюць")—усё ўжываецца кулацтвам. Рашучы адпор падкулачніку, кулацкаму агенту ў партыі (правым і „левым" опортуністам), наступленьне на кулака разаблачэньне яго тактыкі, ізоляцыя яго ад бядняцка-серадняцкіх мас, работа сярод батрацтва і бядняцтва—вось неабходныя і важнейшыя ўмовы разгортваньня колектывізацыі і падрыхтоўкі да вясеньняй сяўбы.

Як мы ўжо паказвалі ў шэрагу фактаў, кулак не заўсёды выступае з абрэзам, атрутай, падпалам; часта, нават у большасьці выпадкаў, ён імкнецца скарыстаць асобныя вучасткі нашага будаўніцтва, паасобныя зьвеньні апарату, нават партыйнага.

Мы маем рацыю, калі завем опортуністых агентамі кулакоў ў партыі, але ў асобных выпадках кулак, падкулачнік *уласнай пэрсонай* пралазяць у колгас, у шэрагі партыі.

У Касьцюковіцкім раёне „выяўлена, што партыйныя білеты апынуліся ў руках яўных кулакоў. Так, на чале Бялынкавіцкай ячэйкі стаяў сакратар—былы бандыт—Якушоў Раман. Рад кулацкіх элемэнтаў, якія лічыліся партыйцамі гэтай ячэйкі, уступіўшы ў колгас, ня толькі не працавалі там і не абагульвалі сваёй маемасьці, а экспёатавалі паасобных колгасьнікаў на рабоце ва ўласных гаспадарках, праводзілі шкодніцкую работ ў колгасе.

Сялецкаўская ячэйка высунула на кіруючую работу старшынёй праўленьня колгасу кулака, які меў 25 гэкт. зямлі.

За апошні час выяўлена ў складзе партыйнай організацыі каля 20 чужакоў. Частка з іх былыя бандыты (Глушакоў П., Патапенка, Сідарэнка), астатнія (Максіменка А., Самусенка, Арэхаў, Марчанка, Хомчанка, Шэўчанка і рад інш.) аказаліся яўна кулацкімі элемэнтамі і махровымі правымі опотуністымі (Зьвязда 11/III-1931 г.).

У Чэрвенскім раёне „У колгасе „Комунар" (Хутарскі сельсавет) опортуністычнае кіраўніцтва на чале з Буднікам і Міцкевічам, пры падтрыманьні асобных раённых работнікаў, разбурае гаспадарку, дэзорганізуе работу па падрыхтоўцы да веснавой сяўбы. У катастрофічным становішчы знаходзіцца колгасны статак.

У колгас „Комунар" з дапамогай Міцкевіча прыняты моцны кулак Шыманок, які мае 30 гэкт. зямлі, 4 коняй, 9 кароў. Шыманок, увайшоўшы ў колгас, разбазарыў сваю маемасьць" (Зьвязда, 10/III-31 г.).

У Копыльскім раёне, у якім адбыўся вядомы процэс над 167 сялянамі, у студзені месяцы г/г. раённымі ўстановамі лічыўся ў раёне толькі адзін кулак. Гэты-ж раён у 1929/30 г. быў адным з першых у „левых" загібах. У лістападзе 1929 г. у ім было „колектывізавана" 93,5% гаспадарак.

Ішлі „налева" прышлі—направа! Гэта не адзіночны выпадак. Яшчэ ў лютым месяцы звыш 20 раёнаў БССР не знайшлі ў сябе ніводнага кулака.

А зараз у Сеньненскім раёне выкрыта ў колгасах звыш 100 кулакоў. У Барысаўскім раёне—80% раскулачаных аказаліся ў колгасах. У шэрагу іншых раёнаў пры чыстцы колгасаў знаходзяць у іх каля 50-60 кулакоў.

Чым як не праявай правага опортунізму можна тлумачыць такое зьявішча, калі частка вясковых комуністых, якія маюць сваю гаспадарку, яшчэ ня ўступаюць у колгасы.

Гэтыя комуністыя даюць сваім прыкладам мацнейшую зброю кулацтву ў агітацыі супроць колгасаў. Яны павялічваюць хістаньне серадняцтва.

У Касьцюковіцкім раёне з 258 членаў партыі толькі 43 чалавекі зьяўляюцца колгасьнікамі.

У Копыльскім раёне таксама ня ўсе комуністы, што ўвесь час працуюць на вёсцы, зьяўляюцца членамі колгасу, а сельсаветчыкі знаходзяцца ў колгасах на 20—25%.

Прыведзеныя прыклады яскрава сьведчаць аб тым, якую небясьпеку ў справе колектывізацыі прадстаўляе правы опортунізм і прымірэнцтва да яго.

Аднак, нельга забываць, што амаль заўсёды правы ўхіл, „самацёчныя настроі" ідуць побач з „левымі" заскокамі, з адміністраваньнем, парушэньнем прынцыпу добраахвотнасьці.

Дзе-ні-дзе ўноў праяўляюцца думкі і спробы зрабіць раскулачваньне падставай колектывізацыі.

Нічым іншым, як лявацкай фразэолёгіяй нельга назваць і тое, калі асобныя таварышы *супроцьстаўляюць* цяжкасьці рэконструкцыйнага пэрыоду перашкодам, шкодніцтву і супраціўленьню клясавага ворага і, нават, лічаць апошнія *галоўнай* крыніцай цяжкасцяй.

Вось што гаварыў т. Сталін на XVI зьезьдзе аб характары нашых цяжкасьцяй.

„Раней усяго неабходна ўлічыць, што цяперашнія цяжкасьці зьяўляюцца цяжкасьцямі *рэконструкцыйнага* пэрыоду", калі ў адрозьніваньне ад адбудоўчага пэрыоду перад намі стаіць складаная задача перабудовы ўсёй тэхнічнай базы народнай гаспадаркі. Другія абставіны якія трэба мець на ўвазе: „рэконструкцыя народнай гаспадаркі не абмяжоўваецца ў нас перабудовай тэхнічнай базы, а наадварот патрабуе разам з тым перабудовы соцыяльна-экономічных адносін. Я маю тут на ўвазе, галоўным чынам, сельскую гаспадарку... Асаблівасьць сельскай гаспадаркі састаіць у нас у тым, што ў ёй усё яшчэ пераважае дробная сялянская гаспадарка, што дробная гаспадарка пазбаўлена магчымасьці ўжыць новую тэхніку, што з прычыны гэтага, перабудова тэхнічнай базы сельскай гаспадаркі *немагчыма* без адначасовай перабудовы соцыяльна-экономічнага ўкладу, без аб'яднаньня дробных гаспадарак у буйныя колектыўныя гаспадаркі, без выкарчоўваньня карэньняў капіталізму ў сельскай гаспадарцы".

Трэцяя акалічнасьць—„Наша работа па соцыялістычнай рэконструкцыі народнай гаспадаркі, якая (работа) рве экономічныя сувязі

капіталізму і апракідвае ўгару дном усе сілы старога сьвету, ня можа ня выклікаць адчайнага супраціўленьня з боку гэтых сіл"...

„Трэба мець на ўвазе, у чацвертых, тую акалічнасьць, што супраціўленьне аджываючых кляс нашай краіны адбываецца не ізолявана ад знадворнага сьвету, а сустракае падтрыманьне з боку капіталістычнага абкружэньня" (Сталін). І далей:

„Нашы цяжкасьці зьяўляюцца... цяжкасьцямі *росту*, цяжкасьцямі *ўздыму*, цяжкасьцямі *прасоўваньня ўперад*".

Яны „*самі ўключаюць у сябе магчымасьці іх перамаганьня*, яны *самі даюць нам базу для іх перамаганьня*.

З гэтага вынікае, па-першае, што нашы цяжкасьці зьяўляюцца... цяжкасьцямі клясавай барацьбы... па-другое, што цяжкасьці гэтыя ўскладняюцца шалёным супраціўленьнем аджываючых кляс нашай краіны, падтрымліваньнем гэтых кляс з надворку, наяўнасьцю бюрократычных элемэнтаў у нашых уласных установах, наяўнасьцю няўпэўненасьці і коснасьці ў некаторых праслойках нашай партыі". (Сталін, XVI зьезд, падкрэсьлена Сталіным).

*Напрыклад*, некаторыя раёны (Чырвона-Слабодзкі, Мазырскі, Рагачэўскі, Сьвіслацкі і інш.) да 15 сакавіка выканалі толькі ад 6 да 10% *усяго пляну* ільназагатовак. Ці-ж мы ня маем тут амаль усіх момантаў, якія тармозяць наступленьне.

З другога боку, лепшыя раёны выканалі большую частку пляну (Лёзьнянскі — 99%, Дрысенскі — 72,3%, Высачанскі — 70,7%). Як яны гэтага дасягнулі? Раёны адказваюць — мобілізацыяй мас, разгортваньнем соцспаборніцтва, арганізацыяй чырвоных абозаў і наступам на кулака, бо гэты наступ і магчымы толькі пры адпаведнай мобілізацыі актыўнасьці колгасных і бядняцка-серадняцкіх мас.

Нельга адрываць барацьбу з кулаком ад задачы мобілізацыі мас, альбо падмяняць апошнюю задачу, задачай апаратнай барацьбы, адміністрацыйных захадаў.

„Левыя" загібы мінулага году мелі, менавіта, такую падставу. Гаворачы аб гэтых загібах т. Сталін папярэджвае супроць няправільнага разуменьня сутнасьці бальшавіцкага наступленьня:

„Некаторыя таварышы думаюць, што галоўнае ў наступленьні соцыялізму састаўляюць рэпрэсіі, а калі рэпрэсіі не нарастаюць, дык няма і наступленьня.

Ці правідлова гэта? Зразумела, няправільна!

*Рэпрэсіі зьяўляюцца неабходным элемэнтам наступленьня, але элемэнтам дапаможным, а не галоўным.* Галоўнае ў наступленьні соцыялізму пры нашых сучасных умовах састаіць у *пасіленьні тэмпу разьвіцьця нашай прамысловасьці, у пасіленьні тэмпу разьвіцьця саўгасаў і* колгасаў, у ўзмацненьні тэмпу экономічнага выцясьненьня капіталістычных элемэнтаў гораду і вёскі, у мобілізацыі мас вакол соцыялістычнага будаўніцтва, у мобілізацыі мас супроць капіталізму. Вы можаце арыштаваць і выслаць дзесяткі і сотні тысяч кулакоў, але калі Вы, адначасова з гэтым, ня зробіце ўсяго неабходнага для таго, каб паскорыць будаўніцтва новых форм гаспадаркі — замяніць новымі формамі гаспадаркі старыя, капіталістычныя формы, падарваць і ліквідаваць вытворчыя крыніцы экономічнага панаваньня і разьвіцьця капіталістычных элемэнтаў вёскі, кулацтва ўсё роўна адродзіцца і будзе расьці.

Другія думаюць, што наступленьне соцыялізму зьяўляецца агульным прасоўваньнем уперад, без адпаведнай падрыхтоўкі, без перагрупоўкі сіл у ходзе наступленьня, без замацаваньня заваяваных позіцый.

Ня было і ня можа быць пасьпяховага наступленьня без перагрупоўкі сіл у ходзе самага наступленьня *(без замацаваньня заваяваных позіцый,* без скарыстаньня рэзэрваў для разьвіцьця посьпеху і давядзеньня да канца наступленьня). Пры агульным прасоўваньні, г. зн. без нагляду гэтых умоў, наступленьне павінна нямінуча выдахнуцца і праваліцца. Агульнае прасоўваньне ўперад ёсьць сьмерць для наступленьня. Аб гэтым гаворыць багаты вопыт нашай грамадзянскай вайны“ (Сталін).

Такім чынам, соцыялістычны наступ у сельскай гаспадарцы ўключае ў сябе індустрыялізацыю, як сваю базу, пасіленьне тэмпаў колектывізацыі і будаўніцтва саўгасаў, — выцісканьне капіталістычных элемэнтаў, *як неадрыўную частку, як другі бок наступленьня,* перагрупоўку сіл і замацаваньне захопленай позіцыі. *Усе гэтыя бакі неадрыўны адзін ад аднаго, усе яны складаюць адзін ланцуг.*

Калі гаварыць аб наступленьні конкрэтна, дык на тым ці іншым этапе, у тых ці іншых умовах, трэба *ўмець знаходзіць чарговае, галоўнае зьвяно,* ухапіўшыся за якое можна пацягнуць увесь ланцуг.

У прымяненьні да нашых задач у галіне с.-г. увосень 1930 г. такім галоўным зьвяном зьяўлялася пытаньне разьмеркаваньня ўраджаю ў колгасах. Аб гэтым не адзін раз напамінала газэта „Правда“.

У ўмовах Беларусі, зараз, калі 74 раёны імкнуцца паменшыць пасеўныя пляны, калі ў шмат якіх організацыях пануюць опортуністычныя настроі, *першачарговай задачай зьяўляецца барацьба супроць опортуністых.*

Пры той засьмечанасьці колгасаў кулацкімі элемэнтамі, аб якой мы гаварылі, зразумела, што немагчыма было гаспадарчае і палітычнае ўмацаваньне колгасаў. Трэба было ў першую чаргу *ачысьціць колгасы ад кулакоў.* Але той, хто застанавіўся-б толькі на гэтым, зрабіў-бы памылку.

Чарговай задачай, чарговым зьвяном пасьля гэтага,—зьяўляецца *ўмацаваньне колгасаў і лепшая падрыхтоўка да вясны.*

Умець знайсьці гэтае чарговае зьвяно — вялікая задача, яна патрабуе бальшавіцкай пільнасьці і разгорнутай самакрытыкі.

„Для правільнага кіраўніцтва партыі неабходна, акрамя ўсяго іншага, каб лінія партыі была правільна, *каб масы разумелі правільнасьць партыйнай лініі і падтрымлівалі яе актыўна, каб партыя не абмежавалася выпрацоўкай генэральнай лініі, а кіравала з дня ў дзень правядзеньнем яе ў жыцьцё, каб партыя вяла рашучую барацьбу з ухіламі ад генэральнай лініі і прымірэнцтвам з імі, каб у барацьбе з ухіламі партыя кавала адзінства сваіх радоў і жалезную дысцыпліну*“ (Сталін).

Каб знайсьці галоўнае зьвяно, трэба высьветліць усе ўмовы работы, усе асаблівасьці ў суадносінах клясавых сіл, нацыянальнага складу, моцнасьці і ўплыву кулацтва, настроі мас, становішча колгасаў, саўгасаў, МТС, асаблівасьці гаспадаркі раёну і г. д. У большасьці выпадкаў найбольш „вузкае“ месца, найбольш адстаючы вучастак і зьяўляецца такім зьвяном, за якое ў першую чаргу трэба ўхапіцца, у першую чаргу яго падцягнуць. Але як падцягнуць? Якімі сродкамі? Напрыклад, раёны, якія адстаюць ў колектывізацыі, як правіла, дрэнна вядуць масавую, растлумачальную работу, альбо вядуць яе наогул у цэлых вёсках, толькі праз агульныя сходы і агульныя разважаньні аб перавагах колектывізацыі.

*Цэнтр масавай работы па колектывізацыі трэба ў сучасны момант перанесьці да асобнага двара.* Там трэба вывучыць прычыны,

якія тармозяць колектывізацыю ў даным вучастку, і зьнішчыць іх. Дробныя характэрныя для данай вёскі, пасёлку прычыны граюць агромную тармазячую ролю. Зачастую, грамадную ролю грае рад нявясных для сялянства практычных пытаньняў. Напрыклад, аб разьмеркаваньні ўраджаю, аб карыстаньні азімымі пасевамі, аб абагульваньні маемасьці, забясьпечаньні непрацаздольных і г. д. І калі мы гаворым аб галоўным зьвяне, дык трэба заўсёды памятаць, што гэта толькі *адно зьвяно*, што *яно зьвязана са ўсім ланцугом*, нельга рабіць той вынік, што можна спыніць альбо паменшыць работу на іншых вучастках, у іншых зьвеньнях.

*Каб правільна кіраваць, трэба ведаць становішча на ўсіх вучастках, ведаць посьпехі і прарывы і адпаведна гэтаму пераразьмяркоўваць сілы, адпаведна гэтаму накіраваць галоўны напор на слабы вучастак.*

Адзін таварыш падае такі малюнак з жыцьця Смалявіцкага раёну: „Райком толькі нядаўна напоўнены брыгадзірамі, *зараз зусім апусьцеў*. Апошнім з памяшканьня райкому вышаў сакратар. Ён замкнуў дзьверы, занёс ключы вартаўніку, захутаўся ў кажух і на розвальнях паехаў у сельсавет“ („Зьвязда“, 28/II-31 г.).

Зразумела, добра, калі кіраўнікі раёну самі непасрэдна вядуць работу, непасрэдна зьвязваюцца з масамі, але адсюль не вынікае, што можна заставацца бяз штабу, без кіраўніцтва.

Можа ў Смалявіцкім раёне райком ня ўвесь час колгаснага паходу стаіць закрытым, але трэба папярэдзіць і супроць такіх выпадкаў.

Без цэнтралізаванага кіраўніцтва агульнага наступленьня ня можа быць.

Выключнае палітычнае значэньне мае новы лёзунг, што *„цяпер асноўнай і галоўнай апорай у вёсцы зьяўляецца колгаснае сялянства“.*

„Бядняк і серадняк-аднаасобнік, які дапамагае кулаку змагацца з колгасамі і падрываць колгаснае будаўніцтва, ня можа быць названы саюзьнікам, а тым больш апорай рабочай клясы—ён на справе саюзьнік кулака. Толькі той бядняк і серадняк-аднаасобнік застаецца саюзьнікам рабочай клясы, хто разам з рабочай клясай дапамагае будаваць колгасы, хто падтрымлівае колгасны рух і дапамагае весьці рашучую барацьбу з кулацтвам. Для таго, каб зрабіцца сапраўднай і моцнай апорай савецкай улады, перад бедняком і серадняком-аднаасобнікам адзіны шлях — шлях дапамогі колгасам, а потым і ўступленьне ў колгас“ (Пастанова VI зьезду Саветаў СССР).

Гэты новы лёзунг у адносінах да колгасьнікаў і бядняцка-серадняцкага сялянства можа паслужыць, пры яго няправільным разуменьні, падставай для новых правых і „левых“ ухілаў. Правыя будуць альбо адмаўляцца ад яго альбо спадзявацца на самацёк, бо „колгасьнікі моцная апора“, бо пытаньне „за ці супроць колгасу“ ўжо „вырашана пераважнай большасьцю сялянства ў карысьць колгасу“, таму і ня трэба ні аб чым клапаціцца.

„Левыя“ з гэтага лёзунгу зробяць процілеглы вынік: калі серадняк ці бядняк ня ідзе ў колгас, дык ён ня толькі не саюзьнік, ня толькі не апора, але вораг, памоцнік кулака, значыць бі яго, раскулачвай![1])

[1]) Газ. „Праўда“ за 22/III адзначае ўжо праявы абодвых ухілаў у сувязі з новым лёзунгам: правыя — за самацёк, а „левыя“ ставяць: „За ці супроць Савецкай ўлады? Пойдзеш супроць—раскулачым!“ (Алатырскі раён, Чувашск. вобл.).

Ёсьць выпадкі калі работнікі падзяляюць аркуш паперы на дзьве часткі: адна палова—„за колгас-супроць кулака“ і другая палова -„супроць колгасу—за кулака“. З такім аркушам ходзяць па дварох і пагражаюць не жадаючым уступіць у колгас раскулачваньнем. (Бугульмінскі, Гумутскі раёны Татрэспублікі).

Бязумоўна, кулацтва зробіць спробу скарыстаць і па-свойму растлумачыць гэты лёзунг для адштурхоўваньня аднаасобнікаў ад пролетарыяту, бо „Вы, моў, цяпер не саюзьнікі, Вас, моў, цяпер раскулачваць будуць!“ Супроць гэтай кулацкай агітацыі, супроць новых загібаў у сувязі з гэтым лёзунгам, трэба паставіць правільнае тлумачэньне яго, пашырыць і палепшыць работу сярод сялянства.

„Раней усяго неабходна прысьці на дапамогу бедняку і серадняку-аднаасобнікам у справе найбольш хуткай ліквідацыі іх хістаньняў наконт уступленьня на колгасны шлях. Формула „за ці супроць колгасу“ ні ў якім разе не прадуглеждвае спадзяваньня на самацёк. Гэта формула таксама ні ў якім разе не дапушчае ні малейшага парушэньня прынцыпу добраахвотнасьці ўваходу ў колгас... З самага пачатку трэба цьвёрда ўразумець, што пастаноўка пытаньня „за ці супроць колгасу“ накладвае ў першую чаргу на партыйныя організацыі выключна адказную і трудную задачу — дапамагчы шматмільённай бядняцка-серадняцкай масе аднаасобнікаў ў карацейшы тэрмін упэўніцца ў перавагах колектыўнай гаспадаркі перад аднаасобнай, згуртаваць яе з колгаснай, організаваць яе для практычнай дапамогі колгасам, а потым і ўступленьне ў колгасы“ (Правда).

Вышэй мы падрабязна гаварылі аб мэтодах масавай работы, асабліва аб удзеле ў ёй колгасьнікаў. Напомнім яшчэ раз, што „сяляне-агітатары зьяўляюцца надта добрымі агітатарамі колгаснага руху, бо яны знойдуць такія аргуманты ў карысьць колгасаў, зразумелыя для астатняй масы сялян, аб якіх мы, кваліфікаваныя бальшавікі, ня можам нават і марыць“ (Сталін).

Гаворачы аб партыйным кіраўніцтве ў вёсцы, нельга не закрануць пытаньня аб росьце партыі, гэты рост адстае ад росту колектывізацыі і не адпавядае патрабаваньням у кіраўніцтве.

На 1/I-1931 г. ў БССР на кожныя 10.000 працоўнага насельніцтва ў вёсцы прыпадае 63 комуністы. Уся вясковая парторганізацыя на 1/I-31 г. 12.648 членаў і кандыдатаў партыі. Шмат колгасаў зусім ня маюць партыйных ячэек. Недастатковы рост вясковых парторганізацый тлумачыцца слабай увагай да гэтага пытаньня. Прыклад: у раёнах Брагінскім, Ветрынскім, Дрысенскім, Журавіцкім, Чырвонапольскім, Нараўлянскім, Полацкім, Сьвіслацкім, Чарэйскім і Чачэрскім за 4 кварталы ня прынята ў партыю ніводнага с.-г. рабочага і батрака. Неабходна пасіліць работу па ўцягненьні ў партыю рабочых і колгасьнікаў, бо база для росту значна павялічылася ў выніку будаўніцтва саўгасаў, МТС, колектывізацыі і г. д. Трэба папярэдзіць скажэньні ў гэтай галіне. Напрыклад, у Копыльскім раёне „ў вясковай ячэйцы (в. Бабоўны) у ленінскія дні было прынята 5 чал. без рэкомэндацый. На сходзе былі дапушчаны да галасаваньня і беспартыйныя „з выпадку вялікай кампаніі“. Потым аказалася, што прынятых нельга дапускаць да партыі і на гарматны стрэл“. („Зьвязда“, 6/III-31 г.).

На гэтым скончым разгляд програмы колектывізацыі трэцяга году пяцігодкі і тых задач, якія трэба вырашыць, каб гэтую програму выканаць.

Асьвятляючы шлях практыкі ленінскай тэорыяй, разгортваючы самакрытыку і на хаду выпраўляючы памылкі, мы нашы магчымасьці цалкам ператворым у сапраўднасьць.

---

Л. Рудзіцкі.

# Саветы і соцыялістачнае наступленьне.

Вялізарныя задачы, якія стаяць перад нашай краінай на даным этапе, патрабуюць асаблівага ўзмацненьня ролі саветаў, тых органаў пролетарскае дзяржавы, праз якія, па словах т. Сталіна, „праходзяць усе і ўсялякія мерапрыемствы па ўзмацненьню дыктатуры і будаўніцтву соцыялізму".

Рабочая кляса БССР у шчыльным брацкім саюзе з пролетарыятам усіх савецкіх рэспублік пад кіраўніцтвам КП(б)Б дасягнула вялікіх посьпехаў ва ўсіх галінах соцыялістычнага будаўніцтва. Возьмем для прыкладу некалькі асноўных паказчыкаў і фактаў, адзначаных у пастановах студзеньскага пленуму ЦК КП(б)Б.

Валавая продукцыя прамысловасьці БССР павялічылася за два гады пяцігодкі на 150%, супроць намячэньняў пляцігадовага пляну на 87%. Роля соцыялістычнага сэктару па пасеўных плошчах павялічылася з 5,5% у пачатку 1929-30 г. да 20% у канцы году. Значна ўзрасла ўдзельная вага саўгасаў і колгасаў у валавой і таварнай продукцыі сельскае гаспадаркі: да 1-га студзеня 1931 г. мы мелі 15% бядняцка-серадняцкіх гаспадарак, якія аб'яднаны ў колгасы; гэтыя лічбы перавышаюць проектаваньні на апошні год пяцігадовага пляну па БССР.

Рост прамысловасьці і разьвіцьцё сельскае гаспадаркі значна ўзмацняюць колькаснае павялічэньне працоўных БССР, дапамагаюць палепшаньню іх матэрыяльнага дабрабыту і культурнага абслугоўваньня. Аб гэтых нячуваных тэмпах, магчымых толькі ў умовах Савецка Саюзу, сьведчаць наступныя лічбы:

Лік асоб наёмнай працы па БССР павялічваецца на 1931 г. да 461,7 тысяч чалавек супроць 358,1 тысяч чалавек у 1930 годзе, што складае 32,7% росту. Фонд соцыяльнага страхаваньня рабочых і служачых павінен быць павялічан з 29,3 мільёнаў руб. у 1930 годзе да 44,9 мільёнаў руб. у 1931 г., што складае 53,3% росту. На народную асьвету і падрыхтоўку новых кадраў вызначаецца па рэспубліканскаму бюджэту 128 мільёнаў руб., а на ахову здароўя працоўных— 30 мільёнаў руб.

Посьпехі першых двух гадоў пяцігодкі забясьпечваюць магчымасьць далейшага ўздыму нашага соцыялістычнага будаўніцтва. Пленум ЦК КП(б)Б у пастанове аб контрольных лічбах народнай гаспадаркі на 1931 г. намеціў рост валавой продукцыі прамысловасьці ў суме 434 мільёны руб., а капітальных укладаньняў у аграмаджаны сэктар народнай гаспадаркі бяз сродкаў насельніцтва ў 320 мільёнаў руб. супроць 220 мільёнаў руб. у 1930 г. да канца трэцяга году пяці-

годкі процант колектывізаваных бядняцка-серадняцкіх гаспадарак павінен дасягнуць 45% агульнай наяўнасьці сялянскіх гаспадарак.

Зусім зразумелым зьяўляецца тое, што гэты плян пераможнага наступленьня соцыялізму па ўсяму фронту патрабуе карэннага пераломy ў працы асноўных звеньняў пролетарскай дыктатуры, патрабуе перабудовы і палепшаньня ўсіх галін дзейнасьці саветаў. Правыя опортуністы і „левакі" розных колераў распаўсюджвалі і распаўсюджваюць усякія тэорыі, якія фактычна вядуць да аслабленьня дзяржавы пролетарыяту.

Чаго варта, напрыклад, тэорыя т. Бухарына, якую ён у свой час выставіў у „славутых" „Нататках экономіста", разважаючы аб тым, што „мы занадта ўсё перацэнтралізавалі". Чаго варта тэорыя ліквідацыі сельскіх саветаў у рэконструкцыйны пэрыод, апологеты якой у пацьверджаньне сваіх палажэньняў нават спасылаліся на тыя творы Маркса, Энгельса і Леніна, дзе гаворыцца аб адміраньні дзяржавы.

Бязьлітасная крытыка гэтых тэорый, далейшае выкрыцьцё іх сапраўднага сэнсу павінна працягвацца, бо ў умовах абвастрэньня клясавай барацьбы кожнае адхіленьне ад Маркса-Ленінскага вучэньня аб дзяржаве пролетарыяту фактычна вядзе да абязброеньня рабочай клясы ў барацьбе за соцыялізм.

Вельмі характарна тое, што разважаньні т. Бухарына ў „Нататках экономіста" аб тым, што „мы занадта ўсё перацэнтралізавалі" зьяўляецца працягам яго старой тэорыі, супроць якой у свой час выступаў т. Ленін. Тады ў 1918 г., ідучы на чале выступленьняў так званых „левых" комуністаў, т. Бухарын таксама нападаў на партыю і т. Леніна, як „парушыцеляў" прынцыпаў савецкай дэмократыі. Калі ў умовах абвостранай клясавай барацьбы пролетарыят на чале з партыяй напружвалі сілы, каб узмацніць усе зьвеньні нашай маладой дзяржавы, каб устанавіць цьвёрдую дысцыпліну сярод працоўных, т. Бухарын „зьлева" крытыкаваў гэтыя мерапрыемствы, разважаючы аб „бюрократычнасьці" політыкі партыі і т. Леніна.

Гэтай знадворнай „левай" крытыкай т. Бухарын ужо ў тыя часы даказаў опортуністычнасьць сваіх поглядаў. „Бухарын ня ўбачыў таго, казаў аб ім т. Ленін, што патрэбна было бачыць... Ён пісаў аб тым, што ўжо ажыцьцёўлена ў савецкіх організацыях, але ўмоўчаў аб тым, што датычыцца *вучоту, контролю, дысцыпліны*" (падкрэсьлена мною—Л. Р)[1]).

У часы рэконструкцыйнага пэрыоду, зьяўляючыся ідэолёгам правага ўхілу, т. Бухарын ужо па-другому поваду выцягваў з свайго арсэналу аружжа барацьбы з пролетарскай цэнтралізацыяй. Тады ў ранейшых выступленьнях гэтай зброяй „абараняліся" інтарэсы савецкай дэмократыі; у апошніх-жа творах гэта тэорыя служыла падмацаваньнем для ідэй правага опортунізму, які зьяўляецца галоўнай небясьпекай на даным этапе соцыялістычнага будаўніцтва. „Распусьціць вожжы тавараззвароту" заклікаў у апошнія гады т. Бухарын, а для гэтага неабходна паслабіць рэгулюючую ролю нашай сыстэмы ў адносінах да кулака, нэпмана, размагнічыць пролетарскую цэнтралізаванасьць дзяржавы дыктатуры рабочай клясы. Вось як старое віно льлецца ў новыя мяхі, вось як старыя „лявацкія" тэорыі становяцца зброяй правага опортунізму, які выступае супроць генэраль-

[1]) Ленін, т. XV, ст. 224.

най лініі партыі і ня верыць у моц рабочай клясы, вядучай разгорнутае наступленьне на капіталістычныя элемэнты па ўсяму фронту.

У сваім конспэкце брошуры „Аб дыктатуры пролетарыяту", надрукаваным у 3-м Ленінскім зборніку, т. Ленін заставіў нам некалькі геніяльных тэзісаў, якія і сёньня поўнасьцю могуць быць накіраваны супроць розных права-„лявацкіх" гора-тэорэтыкаў.

„Асноўная крыніца, пісаў Ленін, неразуменьня дыктатуры пролетарыяту „соцыялістамі" гэта недавядзеньне імі да канца ідэі клясавай барацьбы.

Дыктатура пролетарыяту ёсьць *працяг* клясавай барацьбы пролетарыяту ў *новых* формах. У гэтым гвозд, гэтага не разумеюць"[1]).

Усім нам добра вядома, што Ленін называў нашу пролетарскую дзяржаву *полу-дзяржавай*, ён падкрэсьліваў яе ня зусім дзяржаўны характар. Гэта палажэньне Леніна азначае, што праз дыктатуру пролетарыяту ажыцьцяўляецца вялізарнейшая справа зьнішчэньня ўсіх кляс сучаснай грамады, а такім чынам і рабочае клясы і працоўнага сялянства; праз дзяржаву пролетарыяту ажыцьцяўляецца ператварэньне рабочых і сялян у работнікаў комуністычнай грамады.

Вось гэты процэс—процэс ператварэньня старых грамадзкіх суадносін у новыя, праходзячы ва ўмовах *абвостранай клясавай барацьбы*, об'ектыўна зьнішчае і тыя ўмовы, дзякуючы якім існуе дзяржава і яе органы. „Чым дэмократычней дзяржава, пісаў Ленін, якая састаіць з узброеных рабочых і зьяўляецца „ужо не дзяржавай ва ўласным сэнсе слова", тым хутчэй пачынае адміраць *усякая* дзяржава"[2]) (падрэсьлена Леніным).

Але з гэтых агульна вядомых Ленінскіх выказваньняў некаторыя ахопленыя „лявацкай" ліхаманкай людзі рабілі вывад, што ўжо на даным этапе можна паставіць пытаньне аб адміраньні нізавых звеньняў нашае сыстэмы, паставіць крыж над задачай узмацненьня кіруючай ролі саветаў. Гэтыя „ура-тэорэтыкі" чамусьці пакінулі бяз усякай увагі другое выказваньне Леніна. „Соцыялізм ёсьць зьнішчэньне кляс", пісаў ён... „але адразу зьнішчыць клясы нельга... клясы засталіся і застануцца на працягу эпохі дыктатуры пролетарыяту. Дыктатура будзе непатрэбна, калі зьнікнуць клясы. Яны ня зьнікнуць без дыктатуры пролетарыяту".[3]).

Такім чынам, зусім бясспрэчным зьяўляецца той факт, што гэтыя так званыя „левакі" блытаюць у пытаньні дыялектыкі дзяржавы дыктатуры пролетарыяту ў пераходны пэрыод. Яны выкарыстоўваюць літару марксызму супроць духу марксызму. Выстаўляючы сваю тэорыю, яны адкідаюць у бок асноўны закон марксавай дыялектыкі, аб якім Ленін казаў, што ён зьяўляецца душою дыялектыкі — закон адзінства супроцьлегласьцяй, закон разьвіцьця ў процілегласьцях.

І сапраўды, жыцьцё на кожным кроку паказвае сутнасьць гэтага закону. Мы бачым, з аднаго боку, магутныя соцыялістычныя фабрыкі, заводы, электрастанцыі, а з другога — яшчэ існуюць саматужныя майстэрні дробных уласьнікаў; з аднаго боку — саўгасы і колгасы, якія ідуць па шляху соцыялізму, а з другога — кулацкія гаспадаркі, уласьнікі якіх часта каламі і абрэзамі хочуць захаваць свае сродкі эксплёатацыі батрацтва і беднаты.

---

1) 3-ці Ленінскі зборнік, ст. 500.
2) Ленін, т. XIV, ч. 2, стар. 380.
3) Ленін, т. XVI, стар. 353.

Якраз гэты этап меў на ўвазе т. Ленін, калі ў сваіх нататках „Аб дыктатуры пролетарыяту“ падкрэсьліваў, што „супраціўленьне эксплёататараў пачынаецца да іх зьвяржэньня і *абвастраецца* пасьля“... што тут мы будзем мець „асобую (вышэйшую) абвостранасьць клясавай барацьбы... новыя формы супраціўленьня, адпавядаючыя капіталізму і яго вышэйшай сталыі (загаворы+саботаж+узьдзейнічаньне на дробную буржуазію і г. д. і г. д.)“ [1])

Так пісаў т. Ленін, і толькі людзі, якія, заплюшчыўшы вочы глядзяць на нашу рачаіснасьць, ня бачаць таго, што яго геніяльны прагноз пацьвердзіўся цалкам. Толькі опортуністы розных гатункаў і колераў імкнуцца „отболтаться“ (Ленін), калі яны жаляцца на перацэнтралізаванасьць нашага дзяржаўнага апарату і распаўсюджваюць усялякія тэорыі і тэорыйкі накшталт закранутай намі тэорыі ліквідацыі сельскіх саветаў.

Гэтыя людзі ня хочуць зразумець адказьнейшай ролі асноўных зьвеньняў нашае дзяржавы ў вялізарным будаўніцтве соцыялізму. Да прадстаўнікоў гэтай опортуністычнай плыні трэба аднесьці і тых, хто на практыцы змазвае, скажае значэньне карэннага пералому ў дзейнасьці саветаў.

Нашыя дзяржаўныя органы павінны ўзмацніць сваё актыўнае ўзьдейнічаньне на экономіку; *нашыя саветы, якія аб'ядноўваюць мільёны працоўных, павінны павысіць сваю творчую ролю і ўзмацніць наступ на клясавых ворагаў.*

І калі правыя опортуністы будуць працягваць стары ланцуг разважаньняў магчыма пад іншай падлівай, а „левакі“, забягаючы наперад, высунуць яшчэ якое-небудзь „откровение“ па пытаньню аб адміраньні дзяржавы пролетарыяту, мы накіруем супроць іх адну вытрымку з дакладу т. Сталіна на XVI партыйным зьезьдзе. Гэтая вытрымка, па нашай думцы, ня ў брыво, а ў вока пападзе тым, хто стане на пунтк гледжаньня розных права-„лявацкіх“ тэорытычных разважаньняў і практычных дзеяньняў.

„Мы за адміраньне дзяржавы, казаў т. Сталін, і мы разам з тым стаім за ўзмацненьне дыктатуры пролетарыяту, прадстаўляючай самую моцную і самую магутную ўладу з усіх існуючых да гэтых часоў дзяржаўных улад. Вышэйшае разьвіцьцё дзяржаўнай улады ў мэтах падрыхтоўкі ўмоў для адміраньня дзяржаўнай улады, вось марксыцкая формула. Гэта „супярэчна“? Так, „супярэчна“. Але супярэчнасьць гэта жыцьцёвая і яна цалкам адбівае марксаву дыялектыку... *Хто не зразумеў гэтай своеасаблівасьці і „супярэчнасьці“ нашага пераходнага часу, хто не зразумеў гэтай дыялектыкі гістарычных процэсаў, той загінуў для марксызму. Бяда ўсіх нашых ухілістаў складаецца з таго, што яны не разумеюць і ня хочуць зразумець марксавай дыялектыкі.“* [2]) (курсіў мой — Л. Р.)

Вось да чаго зводзіцца сапраўдны сэнс опортуністычных праяў, якія адхіляюць задачы ўзмацненьня ролі саветаў. Носьбіты гэтых праяў не разумеюць таго, што ўзмацненьне сыстэмы нашай дзяржавы зусім не супярэчыць таму зьявішчу, што зьвеньні дыктатуры пачынаюць зьмяняцца. Словам, мы наглядаем два супроцьлеглых процэсы старое яшчэ існуе, але адначасова яно ўжо пачынае адміраць; новае ўжо нараджаецца *і ў схватках барацьбы са старым яно ідзе да поўнай перамогі.*

[1]) III Ленінскі зборнік, стар. 501.
[2]) Сталін. Даклад на XVI партзьезьдзе, стар. 111, 112.

* * *

У нядаўна выдадзеным XIV Ленінскім зборніку, зьмешчан сшытак т. Леніна з матар'яламі на тэму „Марксызм і дзяржава". Аналізуючы творы Маркса—Энгельса па пытаньню аб паняцьці „дэмократыя", т. Ленін дае наступную формулу:

„Дыялектыка (ход) разьвіцьця такава: ад абсолютызму да дэмократыі буржуазнай; ад буржуазнай дэмократыі да пролетарскай; ад пролетарскай да ніякай". У другім месцы, яшчэ раз зьвяртаючыся да гэтага пытаньня, ён піша: „поўная дэмократыя раўняецца ніякай дэмократыі. Гэта не парадокс, але ісьціна".[1])

Мы прывялі гэтыя геніяльныя па свайму зьместу думкі Леніна таму, што яны цалкам адпавядаюць тэй лініі разьвіцьця, па якой ідзе наша дэмократыя. Яшчэ да Кастрычнікавай рэволюцыі Ленін намеціў шляхі разьвіцьця нашай савецкай дэмократыі. Пасьля ўтварэньня дзяржавы рабочае клясы ён неаднокраць зьвяртаўся да растлумачэньня сутнасьці *пролетарскай* дэмократыі, ён дзесяткі разоў напамінаў, што праз яе ўзмацненьне і пашырэньне ажыцьцяўляецца справа пабудовы соцыялізму. Ён казаў, што ў нашай краіне „ўпяршыню дэмократыя служыць тут для мас, для працоўных, пакінуўшы быць дэмократыяй для багатых... упяршыню народныя масы вырашаюць у маштабе для сотні мільёнаў людзей задачу ажыцьцявіць дыктатуру пролетараў... задачу, без вырашэньня якой *ня можа быць* і гутаркі наконт соцыялізму" [2]) (падкрэсьлена Леніным.)

Пасьпяховае выкананьне пяцігадовага пляну, якое забясьпечыла наш вялізарны рост па ўсіх галінах народнай гаспадаркі, якое ўжо дало нам канчатковую перавагу ў прамысловасьці, „бо соцыялістычны сэктар трымае зараз у руках рычагі ўсёй народнай гаспадаркі" (Сталін)— не павінна паслабіць нашу ўвагу значэньню саветаў.

*„Ня можа быць і гутаркі наконт соцыялізму"* (Ленін) без узмацненьня дыктатуры пролетарыяту; а гэтае ўзмацненьне немагчыма без палепшаньня працы саветаў.

„Мы ўжо ўступілі ў пэрыод соцыялізму, казаў т. Сталін,... але да зьнішчэньня клясавай розьніцы яшчэ далёка".

Ліквідуючы кулацтва як клясу на базе суцэльнай колектывізацыі, выкарчоўваючы карэньні капіталізму, мы перайшлі ў наступленьне па ўсяму фронту. Клясавая барацьба працягваецца; ворагі савецкай улады— кулакі, нэпманы, шкоднікі розных колераў, адчуваючы сваю пагібель, імкнуцца затрымаць нашае соцыялістычнае будаўніцтва. Яны пераходзяць у контр-атаку, і, цікава адзначыць, што гэты націск клясавых ворагаў, якраз вельмі часта накіраваны супроць нізавых саветаў.

Тав. Кагановіч у сваёй прамове на першым Усесаюзным зьезьдзе марксыстаў-дзяржаўнікаў прыводзіў шмат фактаў, якія пацьвярджаюць жаданьне кулацкіх элемэнтаў пралезьці ў сельскія саветы, а калі гэта аказваецца для іх немагчымым, організуюцца антысавецкія выступленьні пад лёзунгамі: „дайце выбарчае права, дамо хлеб", „прэч колгасы і саветы" і інш. Кулакі і розныя „быўшыя" людзі і людзішкі— чыны паліцыі, жандармэрыі і г. д. усімі сродкамі імкнуцца атрымаць права голасу ў нашым палітычным жыцьці. Яны выкарыстоўваюць розныя спосабы, пачынаючы ад адкрытых выступленьняў за абраньне моцных, „паважаных" на вёсцы гаспадароў у склад сельскіх саветаў,

---

[1]) XIV Ленінскі зборнік, стар. 255, 267.
[2]) Ленін т. XV, стар. 382.

і канчаючы падпайваньнем падкулачнікаў, зрывамі выбарчых сходаў, самараскулачваньнем на час перавыбарчай кампаніі і інш.

Усё гэта робіцца толькі дзеля таго, каб ня быць „пазбаўленцам“ і такім чынам захаваць свой кулацкі ўплыў на працу саветаў. Праз *свой-жа савет* кулак заўсёды зможа пашырыць *свае* эканомічныя магчымасьці, зможа ажыцьцяўляць *свае* эксплёататарскія мэты.

Хто ня хоча зразумець таго, што працэс ліквідацыі кулацтва як клясы на базе суцэльнай колектывізацыі павінен праходзіць аднача- сова з уцягненьнем шырокіх бядняцка-серадняцкіх мас у савецкае будаўніцтва, што эканомічнае наступленьне, якое зараз разгортваецца пад кіраўніцтвам комуністычнай партыі, павінна быць шчыльна зьвязана з шырачэзным разгортваньнем нашай пролетарскай дэмократыі. Хто гэта нежаданьне зразумець сутнасьць *новага этапу* нашай савецкай дэмократыі запладняе опортуністычнай практыкай — той фактычна іграе на руку клясаваму ворагу.

Як мы ўжо адзначалі, кулак вядзе актыўную барацьбу за склад сельскага савету, ён карыстаецца рознастайнымі прыёмамі. І толькі там кулак дасягае часовага посьпеху, дзе маюцца найгоршыя праявы опортунізму: „надзеі на самацёк, слабая падрыхтоўка да перавыбарнай кампаніі, няўменьне організаваць навакол перавыбараў шырокія масы працоўных, незразуменьне таго, што асноўны палітычны сэнс камнаніі— гэта ўзьняць ролю саветаў у справе правядзеньня генэральнай лініі партыі“.[1])

У эпоху разгорнутага соцыялістычнага наступленьня трэба вывучаць формы дзеяньня клясавага ворага; гэта неабходна асабліва і таму, што антысавецкія выступленьні часта носяць замаскаваную форму, пры дапамозе якой адурачваюцца тыя, хто ня бачыць абвастрэньня клясавай барацьбы, хто глядзіць на нашу рачаіснасьць праз акуляры правага опортунізму.

У час праходжаньня апошняй перавыбарчай кампаніі 1930-31 году мы мелі шмат выступленьняў кулацтва і яго агентуры супроць палітыкі партыі і савецкай улады. Гэта наглядалася побач з надзвычай узросшай актыўнасьцю батрацтва і бядняцка-серадняцкіх мас, якія давалі рашучы адпор вылазкам клясавага ворага.

Ніжэй мы прывядзем даныя аб формах клясавай барацьбы за склад сельскіх саветаў, паводле матэрыялаў Інформацыйнага аддзелу ЦВК БССР. Усе гэтыя факты гавораць самі за сябе: кулак ня хоча „мірна ўрастаць у соцыялізм“ паводле рэцэпту правых опортуністаў; ён не шкадуе ніякіх сродкаў, ён аказвае шалёнае супраціўленьне — толькі-б захаваць сваю гаспадарку, сваю эксплёататарскую моц.

Куды накіраваны галоўным чынам варожыя выступленьні кулака? Якая галіна дзейнасьці саветаў яго найбольш турбуе? Праз разгортваньне савецкай дэмократыі шырокія масы беднаты і сераднякоў усё больш ахопліваюцца колгасным будаўніцтвам.

*Сельскі савет, як актыўны праваднік эканомічнай палітыкі партыі, становіцца вельмі небясьпечным для кулака,* і таму зусім зразумела, у чым сэнс яго выступленьняў.

*Факты.* У адным з выбарчых вучасткаў Копыльскага раёну заможныя вымагалі, каб з наказу быў выкрэсьлены разьдзел аб колектывізацыі. З такімі-ж прапановамі выступалі яны і ў Вузьдзенскім раёне. Асабліва актыўна выступала кулацтва ў Коханаўскім раёне, дзе

[1]) М. Канаплін. „Становішча на фронце тэорыі дзяржавы і права ў БССР“. Бальшавік Беларусі, № 10-12, стар. 93.

імі нават склікаліся спэцыяльныя сходы для абгаварэньня сваіх кандыдатур. Амаль супроць кожнай кандыдатуры, якая выстаўлялася колгасьнікамі і беднатой, кулакі давалі адвод наступнага зьместу: „кандыдатура не падыходзіць таму, што ў ранейшай працы ён (кандыдат) даводзіў цьвёрдае заданьне да серадняцкага двара“. У Сіманаўскім сельсавеце кандыдат, выстаўлены заможнымі, заявіў на сходзе: „Мяне партыя ня любіць таму, што я, калі-б быў членам сельскага савету, не дазволіў-бы правесьці нарыхтоўкі і самаабкладаньне“. У Пераваліцкім сельсавеце заможны Гіронак выступаў супроць кандыдатур партячэйкі і беднаты, як праваднікоў ліквідацыі кулацтва як клясы на базе суцэльнай колектывізацыі: „Ува ўсём гэтым, казаў ён, вінаваты іх бальшавіцкі актыў — члены сельсавету, а таму трэба ведаць каго выбіраць“.

Організаванасьць беднаты і серадняцкіх мас прымусіла кулакоў пайсьці ў час перавыбараў на іншыя больш хітрыя манэўры.

У Сіманаўскім сельсавеце Коханаўскага раёну кулацтва імкнулася ў час перавыбарчых сходаў правесьці падлік галасоў праз сваіх давераных людзей „счетчиков“, каб шляхам штучнага павялічэньня колькасьці галасоў у савет прайшлі кулацкія кандыдатуры, а бедната была-б такім чынам правалена. У гэтым-жа сельсавеце кулакі і заможныя карысталіся і другой тактыкай. Улічваючы сваю слабасьць, яны прыходзілі на сходы раней усіх выбаршчыкаў, нават раней вызначанага часу і вымагалі адчыненьня сходу, каб да прыходу беднаты і сераднякоў правесьці ў сельсавет свае кандыдатуры.

Калі-ж гэтыя фокусы і хітрыкі высьвятляліся, і кулацтва атрымлівала рашучы адпор з боку колгасьнікаў і бядняцка-серадняцкіх мас, яно проста ішло на спробы зрываць выбарчыя сходы.

У час перавыбарчай кампаніі не абыйшлося і без паасобных выпадкаў выступленьня антысавецкай інтэлігенцыі. Асноўныя масы настаўніцтва ўдзельнічалі ў перавыбарах пад лёзунгамі партыі, яны актыўна абаранялі інтарэсы беднаты і дапамагалі разгортваньню пролетарскай дэмократыі.

Так, напрыклад, у Коханаўскім і Сьвіслацкім раёнах настаўнікі організавалі ўдарныя брыгады для лепшага правядзеньня перавыбараў; для гэтай-жа мэты аб'явіла сябе мобілізаванай настаўніцкая конфэрэнцыя Беразьнянскага раёну.

Аднак, сустракалася і іншае. У Блускім сельсавеце Пухавіцкага раёну настаўнік Ермак выступіў супроць кандыдатур беднаты. У Гарэліцкім сельсавеце другі „культурнік“ Дэраш імкнуўся працягнуць у склад сельскага савету былога ўрадніка, пазбаўленага выбарчых праў. „Рэкорд“ пабіў у Няхлюдаўскім сельсавеце Талочынскага раёну настаўнік Літвінаў. Ён падтрымліваў цесную сувязь з кулацтвам, імкнуўся організаваць зрыў кандыдатур беднаты, для чаго нават павесіў у школе лёзунг наступнага зьместу: „*усе* сяляне і сялянкі на перавыбары народнага Няхлюдаўскага сельсавету“. Пад „народам“ гэты настаўнік меў на ўвазе кулацтва і антысавецкі элемэнт.

Неабходна падкрэсьліць, што ўсе гэтыя контр-рэволюцыйныя вылазкі заўсёды атрымлівалі рашучы адпор з боку асноўнай масы савецкага настаўніцтва.

Не змаглі абыйсьці сваім „сьвятым“ удзелам перавыбарчую кампанію і „айцы духоўныя“: іх антысавецкая дзейнасьць таксама знайшла праяву.

У Пухавіцкім раёне поп і ксёндз праводзілі спэцыяльныя групавыя нарады веруючых па пытаньнях перавыбараў саветаў, мусіць

нешта накшталт сваеасаблівай „консультацыі“ па савецкаму выбарчаму праву. У Тургавіцкім сельсавеце Юравіцкага раёну ў дзень скліканьня выбарчага сходу на вёску зьявіўся поп дзеля служэньня малебства ў пуставаўшай да гэтага часу царкве. Гэта нечаканая „благодать“ была выклікана імкненьнем адцягнуць ад удзелу ў выбарах беднату і серадьнякоў дзеля таго, каб заможныя, зьявіўшыся на сход, змаглі правесьці ў склад савету кулацкія кандыдатуры.

Мы прывялі адну групу манэўраў клясавага ворага ў час апошняй перавыбарчай кампаніі. Калі зрабіць рэзюмэ гэтым формам клясавай барацьбы атрымаецца, прыкладна, гэткая схэма:

1) Выступленьне супроць колектывізацыі.
2) Організацыя спэцыяльных кулацкіх сходаў.
3) Спробы ашуканства ў час падлікаў галасоў.
4) Зрыў выбарчых сходаў.
5) Скарыстаньне контр-рэволюцыйнай інтэлігенцыі, падкулачнікаў і духавенства.

Гэтыя формы клясавай барацьбы бязумоўна не зьяўляюцца вычарпальнымі. Разьюшанае кулацтва часам пераходзіць да непасрэднага адчыненага тэрору супроць нашага нізавога савецкага актыву. Гэткія факты адбыліся і ў апошнюю перавыбарчую кампанію.

Напрыклад, у Багушэўскім раёне кулакі організавалі напад на старшыню Стралішчанскага сельсавету—актывістку т. Абліцову і цяжка паранілі яе нажамі. На вёсцы Баруск Аліхоўскага сельсавету кулакі забілі актывіста колгасьніка т. Гаркуша. У Багушэўскім сельсавеце Бабруйскага раёну кулакі разам з былым старшынёй гэтага савету, зьнятым з працы за скрыўленьне клясавай лініі, напалі на старшыню сельсавету т. Іофэ і паранілі яго нажамі. У Самахвалавіцкім раёне ў час паседжаньня пленаму сельсавету новага складу праз вакно з абрэзу паранены член прэзыдыуму сельсавету. Аднак, кулакоў гэта не задаволіла. Яны організавалі напад на сакратара савету. Калі ён зьвяртаўся з пленуму, зрэзалі яго нажамі і пакінулі запіску наступнага зьместу: „страляць Вас—шкада кулі, мы лепш Вас па аднаму перадушым“.

Здаецца гэтых фактаў зусім дастаткова, каб зразумець чаго варта тэорыя правых аб „затуханьні“ клясавай барацьбы на даным этапе. Але і ў часе гэтай перавыбарчай кампаніі сустракаліся факты антыпартыйных выступленьняў і праваопортуністычнай практыкі.

Так, у Пішчалкаўскім сельсавеце комсамолец Салтановіч заявіў: „Навошта падзяляць сялян на беднякоў і серадьнякоў. Кулакоў у нас зараз на вёсцы няма. Навошта нам тут так крычаць аб клясавай барацьбе. Клясавая барацьба на вёсцы была толькі тады, калі былі кулакі, а зараз мы ўсіх кулакоў ліквідавалі“.

Гэткай-жа ўстаноўкі ў сваёй працы мусіць трымаўся Азарыцкі райвыканком, кіраўніцтва якога па пытаньню аб клясавай барацьбе ў час перавыбараў констатавала, што „яна ў гэту кампанію ў раёне не наглядалася“. Але як здарылася, што пад носам у Азарыцкага райвыканкому якраз у гэту кампанію ў саветы пралезла больш дзесятка заможнікаў, мусіць лепш вядома мясцоваму кулацтву.

У заключэньне тэй зводкі фактаў, якая намі прыведзена, трэба адзначыць, што тэорыям правых кулацтва аддае вялікую ўвагу. Яно імкнецца шырока популярызаваць іх ідэі, як „абаронцаў сялянства“. Вось прыклад.

У вёсцы Рэчкі, Сіманаўскага сельсавету, Коханаўскага раёну кулак Момант казаў: „Рыкава, які стаяў за сялян, з паста старшыні Саўнаркому зьнялі, а замянілі Молатавым, які будзе больш ціснуць“.

У сьвеце гэтай клясавай праўды клясавага ворага, які пад словам „сяляне“ хоча захаваць свой сапраўдны кулацкі твар, трэба напомніць думку нашага правадыра Леніна:

„...Можна і патрэбна паўтараць:
Мы слышим звуки одобренья
Не в сладком рокоте хвалы,
а в диких криках озлобленья.

Што буржуазія нас так дзіка ненавідзіць, гэта адно з відавочных паясьненьняў тэй ісьціны, што мы *правідлова* паказваем народу шляхі і сродкі для зьвяржэньня панаваньня буржуазіі“.[1])

* * *

„Мы ўжо ўступілі ў пэрыод соцыялізму“, але клясавая барацьба яшчэ працягваецца. Побач з вялізарнейшымі дасягненьнямі ў соцыялістычным будаўніцтве, якія зьяўляюцца вынікам героічнага энтузіязму рабочае клясы і перадавых мас працоўнага сялянства, мы не заўсёды можам організаваць, ахапіць гэту актыўнасьць працоўных. „У нас нярэдка думаюць, што кіраваць—гэта значыць падпісваць паперы. Гэта сумна, але гэта факт“ (з прамовы т. Сталіна на конфэрэнцыі работнікаў прамысловасьці).

Далейшае разгортваньне нашага соцыялістычнага наступленьня патрабуе таго, каб саветы гораду і вёскі па новаму перабудавалі сваю работу. Уся іх дзейнасьць павінна быць прасякнута генэральнай лініяй партыі. Новыя формы працы — соцыялістычнае спаборніцтва і ўдарніцтва павінны забясьпечыць ажыцьцяўленьне саветамі тэмпаў нашага будаўніцтва.

*„Саветы тварам да вытворчасьці, да колгаснага будаўніцтва“*.

Выканаць гэты лёзунг у штодзённай практычнай дзейнасьці саветаў азначае на справе падняць іх ролю ў правядзеньні Ленінскай політыкі партыі. Опортуністы розных колераў і прымірэнцы павінны бязьлітасна вычышчацца з кіруючых зьвеньняў саветаў. „У пэрыод разгорнутага соцыялістычнага наступленьня партыя асабліва ня можа мірыцца з права-опортуністычнай практыкай у кіраўніцтве савецкімі органамі, якая (практыка) ня толькі не забясьпечвае прынятых бальшавіцкіх тэмпаў будаўніцтва і пасьлядоўнай барацьбы з бюрократызмам на аснове разгорнутай пролетарскай самакрытыкі, але на справе азначае саботаваньне, а часамі і просты зрыў важнейшых дырэктыў партыі. Таму ў цяперашніх умовах ня можа быць месца правым-опортуністам і бяспрынцыпным прымірэнцтвам у кіруючых органах саветаў“ (з пастановы сьнежанскага пленаму ЦК УсеКП(б).

Толькі праз узмацненьне саветаў вытрыманымі бальшавіцкімі кадрамі, праз шырокае ўцягненьне савецкага актыву ў барацьбу з цяжкасьцямі нашага соцыялістычнага росту, мы яшчэ лепш організуем мільёны працоўных гораду і вёскі, навокал комуністычнай партыі, якая праз савецкую сыстэму—гэту „нябачную яшчэ ў гісторыі сілу“ (Ленін) вядзе нас да канчатковай перамогі соцыялізму.

---

[1]) Ленін, т. XIV, ч. II, стар. 221.

**М. Югаў**

# Вялікадзяржаўная контрабанда пад сьцягам беларускага нацыяналізму

*(Канчатак)* *)

Але скуль зьявіліся гэтыя злоўжываньні фразамі аб народнасьці ў „працах“ заходня-русаў? Бязумоўна, што нельга тлумачыць яго тэй рысай дэмократызму ў расійскім чорнасоценстве, аб якім упамінаў Ленін. Дэмократызм быў унізе, у тых масах, якія паддаваліся на агітацыю рэакцыйных палітыкаў ці чорнасоценных організацый, але яго ў паміне ня было ў літаратараў і палітыкаў прыгоньніцтва.

Гэта словаўжываньне, агульнае для ўсяго чорнасоценскага крыла славянафільства, у такой-жа меры гавораць яб „народным“ характары партыі ці руху ці ідэолёгіі, як зварот цара да народу аб народным характары рускага царызму, і як пахвальныя водзывы рускіх прыгоньнікаў аб добрых, простых норавах селяніна, не закранутага ўплывам рынку і рынычных адносін гавораць аб антыэксплёататарскай сутнасьці рускіх бараў. Фразы аб „народнасьці“, „народзе“, „народных інтарэсах“ ня толькі ўжываліся рэакцыйнымі славянафіламі, але нават былі ўведзены ў афіцыйную „триединую“ формулу прыгоньнікаў.

Чым далей у незварачальнае мінулае ўходзіла старая патрыярхальная Русь, з яе тыпам незакранутага і несапсаванага „цывілізацыяй“ мужыка, так дасканала ахарактарызаванага Леніным у яго артыкуле аб Толстым, тым больш было падстаў для фэўдальна-барскіх уздохаў аб народзе, „народнасьці“, мужыку...

Трэба або быць зусім невыабражальным блытанікам або прыкідацца зусім наіўным прастачком, каб паддацца на вудачку гэтай афіцыйнай славеснасьці і казённую тэрмінолёгію прымаць, як довад народніцкага, мужыцкага характару дзейнасьці Каяловічаў, Пабеданосцавых, Саблераў. Але ў Беларусі была і прыватная падстава для больш сур'ёзнага злоўжываньня і самім паняцьцем народнасьці, як была і больш сур'ёзная падстава для тэй дэмагогічнай гульні, на якую вымушан быў пускацца царызм у вострыя для сябе моманты ў гісторыі так званага Заходняга краю. Гэтыя прыватныя рысы вынікалі з таго змаганьня, якое разыгралася сьледам за далучэньнем Беларусі да Расіі. Наплыў расійскага чыноўніцтва, раскраданьне зямель беларускіх сялян, раздача гэтых зямель, як і самых сялян, вялікарускім вяльможам, змаганьне з полёнізаваным беларускім шляхецтвам, змаганьне з буйным польскім

*) Гл. Бальшавік Беларусі, № 1—2 за 1931 г.

і полёнізаваным землеўладаньнем, якое поўнасьцю захавала за сабой землі і даходы, але страціла, аднак, політычную ўладу і ў іншыя моманты прабавала зноў яе набыць, — усё гэта стварала надзвычай складаны пераплёт міжклясавых адносін і надзвычай напружаную абстаноўку, пры якой дэмагогія рабілася рэгулярна адным з аргумантаў у політыцы царызму.

Заходня-русізм і зьявіўся ідэолёгам тых служылых груп — грамадзянскіх і духоўных чыноўнікаў, якія раней за ўсіх сутыкаліся з тымі кіруючымі пластамі буйнога землеўладаньня, польскага ў першую чаргу, якія змагаліся за захаваньне ня толькі даходаў, але і ўлады. Гэтыя служылыя элемэнты, якія зьяўляліся агентамі рускага прыгоньніцкага царызму і, у канчатковым рахунку, агентамі вялікарускага буйнога землеўладаньня, вымушаны былі тут у змаганьні з польскім буйным землеўладаньнем апэляваць да народу, вымушаны былі палохаць польскага пана, які не хацеў прымірыцца з думкаю аб падпарадкаваньні рускаму царызму, народнымі паўстаньнямі, народнаю помстаю, рухам прыгнечаных мас. Тое, што тут соцыяльны пераплёт ускладніўся яшчэ і складанымі нацыянальнымі адносінамі, надавала соцыяльнай дэмагогіі больш блытаны характар і рабіла ў прыватнасьці аднэй з прылад яе, прыладаю часамі досыць востраю, рэлігію, вярней, праваслаўную царкву.

Іменна таму, што і царызм і буйное рускае землеўладаньне ў краі баяліся гульні на соцыяльных інтарэсах, баяліся нацкаваць сялянства супроць памешчыка наогул, — іменна таму аддаецца такая вялікая ўвага праваслаўю, як апарату ўзьдзейства на шырокія сялянскія масы. Падтрыманьне праваслаўя тут адзначала адну з форм змаганьня з польскім землеўладаньнем і процістаўленьня яму сялянскай масы не па лініі соцыяльных адносін, а па лініі рэлігійнай. Вось чаму царкоўная організацыя ў Заходнім краі, як, між іншым, усюды і заўсёды ў колёніях становіцца значна больш простай прыладай політыкі таго або іншага генэрал-губарнатара, чым у Цэнтральнай Расіі, вось чаму яна тут больш непарэдна выконвае політычнае заданьне прыгоньніцкага царызму.

Дваранская Расія ня раз пасьля далучэньня Беларусі і падзелу Польшчы прабавала абаперціся на польскае і полёнізавана-беларускае землеўладаньне, пры тэй, зразумела, умове, што апошнае прызнае політычнае верхавенства буйнога рускага землеўладаньня. І толькі тады, калі польска-беларускае землеўладаньне прабавала процістаўіць сябе ў якасьці *дзяржаўна-незалежнай* сілы, прыгоньніцкі царызм і прыгоньніцкае землеўладаньне вялі з ім змаганьне.

Пасьля паўстаньня 1830-31 г. г. рускія прыгоньнікі не маглі адважыцца нават на тое, каб папалохаць польскіх памешчыкаў сялянскай вольнасьцю. Баяліся ўдарыць па польскім землеўладаньні, каб не атрымаўся ўдар па землеўладаньні наогул. Тады і прышлося зьвярнуцца да абыходных сродкаў: ударыць па каталіцтве і вуніяцтве, г. зн. па каналах, што зьвязвалі сялянскія масы з польскім (і апалячаным) землеўладаньнем. У гэтай сувязі і трэба разглядаць ліквідацыю вуніі ў 1839 г. Гучную і „слаўную“ справу злучэньня заходня-рускіх вуніятаў з праваслаўем прыходзіцца разглядаць выключна з гэтага пункту гледжаньня, выключна, як спробу перарэзаць ніткі царкоўнай сувязі, якія служылі падпарадкаваньню сялянскай масы варожым царызму польска-беларускім памешчыкам, як спробу перахваціць у свае рукі сваяасаблівыя прывадныя пасы.

Як мала ўсе гэтыя царкоўныя супярэчнасьці мелі на ўвазе мужыка, дасканала паказвае наступная цытата:

„Уласна кажучы, народ, у відзе масы вуніяцкага сялянскага насельніцтва Беларусі і Літвы, нічога ня ведаў аб задуманай і зробленай зьмене веры, пакуль ня ўбачыў гэтай зьмены навочна ў форме зьмененай абраднасьці набажэнства і знадворнага выгляду сваіх пастыраў. Злучэньне было іерархічнае, царкоўнае, справа духавенства, а не ўсенароднае. Усе духодныя як вышэйшыя, так і ніжэйшыя, якія ў 1833—1839 годзе далі падпіску аб гатоўнасьці далучыцца да праваслаўя з часу абнародваньня ўказу аб злучэньні, якое пасьледвала, прызнаваліся ўжо належачымі да праваслаўнай царквы разам з сваімі паствамі.

Прэасьвяшчэнны Іосіф не прызнаваў патрэбным і выгодным дзейнічаць асобна на далучэньне прыхажан. Быцьцё ў споведзі і ў сьв. прычасьця ў далучаных пастыраў служыла, па думцы Іосіфа, выстарчальным довадам далучэньня саміх прыхажан з праваслаўнай царквой. Гэта зусім супадала з тагочасным зусім бяспраўным становішчам прыгонных сялян і з асобным поглядам вуніяцка-каталіцкай царквы і самога Іосіфа,—што ў справе веры паства павінна ісьці за сваімі пастырамі". (Г. Я. Киприанович. Жизнь Иосифа Семашкі, митрополита литовского и виленского. Вильно 1893 г., 149-150 стр.).

Але справа заключалася ня толькі ў тым, што Іосіф Семашка— напомнім, што іменна яго Цьвікевіч прызнае сапраўдным бацькам „западно-руссизма"—лічыў народ быдлам, якое пойдзе куды яго павядуць пастыры. Справа яшчэ і ў тым, што мітрапаліт добра разумеў, што самі пастыры павінны быць нікім іншым, як духоўнымі прыказчыкамі і чыноўнікамі памешчыка і цара. Тое, што некалі даволі адкрыта выказваў шэф жандараў, прэзыдэнт Акадэміі Навук і обэр-прокурор сьвяцейшага сыноду амаль што адначасова—граф Д. А. Толстой:—„Я гляджу на духавенства ня больш ня менш, як на сілу, якая павінна знаходзіцца ў падпарадкаваньні ўраду і якую разумны ўрад можа намастацкі скарыстоўваць для сваіх мэт",[1]) тое зьяўлялася і бясспрэчнай ісьцінай для сьвятога айца „западно-руссизма"—Іосіфа Семашкі.

Наколькі добра зазумеў існасьць сваёй паліцэйска-ахраньніцкай ролі гэты самы Семашка паказываюць яго паводзіны ў перадрэформенны пэрыод. Вось як іх апісвае ўжо цытаваны намі яго біёграф: „Іосіф прадпісаў духавенству сваёй эпархіі ўсяк спрыяць начальству ў гэтай добрай справе (рэскрыпце Алекс. II да ген.-губ. Назімава—М. Ю.), якая патрабавала вялікай паступовасьці і асьцярожнасьці, ахоўваць свае паствы ад надарэчных чутак, што расьсейваюцца злачынцамі, *папярэджваючы аб гэтым паліцыю і памешчыкаў* (падкрэсьлена мною), унушаць таксама пасомым цішыню і пакорлівасьць памешчыкам і начальству... да гэтага Іосіф дадаў, што на сьвяшчэньнікаў, якія ня выканалі свайго абавязку ў гэтых адносінах, будуць накладзены спагнаньні і яны будуць адхілены ад месца"(Киприанович. Жизнь Иосифа Семашкі, митрополита литовского и виленского. Вильно 1898 г., 256 стр.).

Цяжка больш адкрыта і ясна паказаць чыста чыноўніцкі характар ўсёй дзейнасьці „духоўных" правадыроў, паказаць, што ўсё царкоўнае змаганьне ня мела ніякіх адносін да змаганьня народных мас.

Гэта не азначае, вядома, што, напрыклад, у царкоўнае змаганьне ня ўцягваліся тыя ці іншыя групы сялян, або што ў тым ці іншым

[1]) Гл. Феоктистов за кулисами литературы и политики, изд. „Прибой" Лен. 1929 г. 169 стр.

выпадку змаганьне сялян не прыкрывалася і змаганьнем рэлігійным. Але гэтыя выпадковыя адхіленьні нікольki не зьмяняюць таго асноўнага факту, што па сутнасьці ўсё гэта змаганьне ляжала на зусім іншай восі — на восі сутычак польска-беларускага земляўладаньня з вялікарасійскім.

І калі Семашка, разам з вядомым прыгоньнікам, маскоўскім мітрапалітам Філарэтам, змагаўся за злучэньне вуніятаў з праваслаўем, дык ён раней за ўсё фактычна змагаўся за тое, каб духавенства, якое раней служыла буйному польскаму земляўладаньню, паставіць на службу царызму і праз яго буйному вялікарускаму земляўладаньню.

Але мы наглядаем яшчэ адну цікавую рысу ў гісторыі гэтага пэрыоду, якую варта адзначыць. Разбураючы спробы дзяржаўнага адлучэньня Польшчы і Беларусі, прыгоньніцкі расійскі царызм разбураў ня толькі варожыя замахі сваіх нацыянальных (польска-беларускае буйное земляўладаньне) і клясавых (польская і беларуская буржуазія і дробная буржуазія) ворагаў, але выконваў пасвойму, па-прыгоньніцку задачу, якая высоўвалася буржуазным разьвіцьцём — задачу ўсё больш моцнай консолідацыі ўсіх часьцей імпэрыі. Таму Мураўёў, напрыклад, у сваёй палітыцы мог апірацца ня толькі на Каткова і Мілюціна, але і нават на Кавеліна. І імена таму, калі над задачай уціхаміраньня „Заходняга Краю“ пачала выпіраць палітыка форсаванай і гвалтоўнай русыфікацыі краю, якая ня спынялася перад надзвычай крутымі мерамі ў адносінах буйнога польскага земляўладаньня, калі адным словам, паліцэйска-бюрократычныя меркаваньні як быццам адарваліся і зрабіліся незалежнымі ў адносінах да прыгоньніцка-дваранскіх мотываў, мы і наглядаем і Пецярбурзе рэзкае ўзмацненьне опозыцыі супроць Мураўёва. Досыць пералічыць галоўнейшых праціўнікаў Мураўёва — графы Шувалавы, князь Даўгарукаў, князь Сувораў, барон Лівэн, Валуеў і г. д. — каб убачыць, што мы маем тут справу з своеасаблівай рэакцыяй фэўдальнага магнацтва. Гэтыя колы былі за бязумоўнае падпарадкаваньне польскага дваранства расійскаму, але былі бязумоўна супроць ушчымленьня інтарэсаў і правоў дваранства. Гэтыя колы социяльна былі настолькі моцныя, што звалілі Мураўёва і прымусілі адмовіцца ад яго палітыкі, як толькі была зьнішчана небясьпека парушэньня дзяржаўнага адзінства імпэрыі.

„Западно-руссизм“ выступаў звычайна на сцэну ў якасьці больш ці менш сур'ёзнай палітычнай сілы, як мы ўжо адзначалі, іменна ў такія „крытычныя“ гады. У гэты час вузкія дваранска-прыгоньніцкія інтарэсы адыходзілі на другі плян, станавіліся, так сказаць, цэхавымі параўнальна з інтарэсам захаваньня дзяржаўнай (г. зн. тэй-жа дваранска-прыгоньніцкай) тэрыторыяльнай і палітычнай цэласьці. Іменна тады і маглі праявіцца самастойныя рысачкі ў ідэолёгіі і дзейнасьці таго беларускага мяшчанства, якое ва ўсякі іншы пэрыод зьяўлялася бясслоўнай сілай і прыладаю прыгоньніцтва. Гэтыя самастойныя своеасаблівыя рысачкі нікольki, мы павінны гэта зноў і зноў паўтараць для тых, каго-б магла спакусіць Цьвікевіцкая блытаніна, не зьмянялі *клясавай*, грамадзкай характарыстыкі „западно-руссизма“.

Гэтыя своеасаблівыя рысачкі, як і своеасаблівы склад „западноруссов“ зьяўляліся зусім неабходным для прыгоньніцтва сродкам улаўленьня мас.

Найбольш выгадным, з усіх пунктаў гледжаньня, праваднікоm і агентам такой палітыкі павінна было зьявіцца якраз беларускае духавенства, гэта, паводле цікавага выразу Цьвікевіча, асноўная група інтэлігенцыі краю.

Амаль ня зьвязана непасрэдна са слабым у краі вялікарускім земляўладаньнем, і зьяўляўшаеся ў той-жа час агентам выканаўчага органу буйнога рускага землеўладаньня — царызму, духавенства, мяшчанская інтэлігенцыя ў краі наогул, якое ў звычайны час папярэджвала, паводле выразу цыркуляра Семашкі, поліцыю і памешчыкаў (бяз розьніцы нацыянальнасьцяй) аб хваляваньнях, смутах і настроях сялянскіх мас (таксама бяз розьніцы нацыянальнасьцяй) духавенства (рускай орыентацыі) у вострыя моманты павінна было тонка разьбірацца ў нацыянальнасьцях.

І не выпадкова ідэолёгам, тэорэтыкам і галоўнейшым політычным дзеячом заходня-русізму, зьяўляўся раней за ўсё чыноўнік духоўнага ведамства, не выпадкова ўсе тыя вучоныя людзі, якія абаранялі заходня-русізм, былі выхаванцамі духоўных акадэмій. Каяловіч таксама быў профэсарам духоўнай акадэміі. Яго політычная фізіяномія лепш за ўсё будзе зразумела сучаснаму чытачу і з таго, што для яго соцыялізм — гэта рух, які разьвіваецца пад уплывам дзьвёх галоўных сіл, якія, па яго думцы, кіруюць лёсамі заходняй Эўропы, — протэстантызму і езуіцкага лацінства (гл. „История русского самосознания" стар. 63-64). Для яго парадкі заходня-эўропейскага *лібэралізму* гэта толькі брэдні (там-жа, 176), самаўладзтва для яго — гэта галоўная сіла, якая стварае расійскую дзяржаву, якая аб'яднае ўсе народы ў адзінае політычнае цэлае. Яго адносіны да самаўладзтва добра паказвае наступная цытата:

> „Мы ня раз паказвалі, як нашы гісторыкі стараліся хутчэй прарвацца праз нямецкі туман нашых старажытнасьцяй да таго цэнтру цяжару нашай гісторыі, — маскоўскаму адзінаўладзтву, у якім ясна ўжо бачна цэльнасьць і карысьць разьвіцьця нашага жыцьця" (там-жа, стар. 255).

Для яго прыгоньніцтва гэта продукт заходня-эўропейскіх асьветных ідэй і ўзмацненьне пятроўскіх рэформ, і ўсваеньне нашай інтэлігенцыяй ідэалу шляхетнага чалавека вядзе непасрэдна, па думцы Каяловіча, да ўзмацненьня прыгоньніцтва. [1]) Маларосія і Беларусь для яго — гэта старыя рускія вобласьці (гл. 137, 384-387, 1 разьд. XIX аб фэдэрацыйнай тэорыі ў „Истории русского самосознания"). „Політыч-

---

[1]) Мы ня можам адмовіць сабе ў прыемнасьці падаць некалькі цытат, якія ярка паказваюць усё мракобесьсе гэтага „народніка" і аднаго з ідэёвых папярэднікаў (паводле Цьвікевіча) беларускага культурнага адраджэнчаскага гуху.

„У сапраўднасьці вызваленьне сянян з зямлёю ёсьць зварот да пачаткаў старажытнага рускага жыцьця і ёсьць бясспрэчнае адмаўленьне культурных заходня-эўропейскіх пачаткаў, усвоеных намі, а што датычыць паняволеньня сялян, дык яно знаходзіцца ў непараўнальна большай сувязі з гэтымі заходня-эўропейскімі пачаткамі, чым з рускімі патрэбнасьцямі". (М. О. Каяловіч „История русского смосознания по историческим памятникам и научным сочинениям." СПБ 1884, 327 стара
ческим памятникам и научным сочинениям." СПБ 1884, 327 стара

У новыя часы тыя-ж заходня-эўропейскія пачаткі жыць.).я паступова ўзмацнялі паняволеньне і давялі да такой крайнасьці, з якой ўжо нельгац было жыць колькі-небудзь здаровым жыцьцём.

„Салаўёў няправільна вылажыў гісторыю паняволеньня і ня даў ні аднаго намёку на чужаземнае паходжаньне яго; але гісторыю разьвіцьця прыгоньніцтва ён вылажыў правільна і даў такую масу фактаў, якія наказваюць нязвычайныя намаганьні ператварыць чалавека ў скаціну і прадставіў іх у такой цеснай сувязі з разьвіцьцём у нас заходня-эўропейскай цывілізацыі, што усякі чытач бачыць ясна гэту сувязь — сувязь рабскага іга рускага народу з заходня-эўропейскай асьвечанасьцю рускай інтэлігенцыі" (328).

„Прыгоньніцтва ў нас сыстэматычна ўзмацнялася з узмацненьнем пятроўскіх рэформ і з усваеньнем нашай інтэлігенцыяй заходня-эўропейскага ідэалу шляхетнага чалавека" (379).

ная самастойнасьць Заходняй Расіі — агалашае Каяловіч — немагчыма, яшчэ больш немагчыма, калі можна так сказаць, пры польскай цывілізацыі"... Значыцца, гэта тэорыя можа мець значэньне толькі, як тэорыі злонамераная, нездарма яе „выказваюць і цяпер некаторыя палякі Заходняй Расіі" (Чтение по истории Западной России, стар. 17). Але ён ня вельмі непакоіцца аб усякіх незалежніцкіх тэорыях у адносінах Беларусі, „падазроных крайнасьцяй у абсягу соцыяльных і політычных пытаньняў яна ня можа мець, яна такая бедная, што ня можа дапускаць праздных тэорый, адцягненых мар, ёй патрэбен разьлік толькі штодзенных істотна неабходных пытаньняў, дый і беларускае племя так блізка да вялікарускага, што ніякі сэпаратызм ня можа ў ім мець сілу... Карэнныя рускія пачаткі ва векі вечныя будуць злучаць заходнюю і ўсходнюю Расію" (стар. 19 „Чтения"). І для яго славянафільская тэорыя, як гэта зусім натуральна чакаць, гэта толькі тэорыя, дзе „знаходзілі сабе прытульнае месца асаблівасьці маларускага і беларускага жыцьця" (стар. 281 „История русского самосознания"). І гэтага чалавека Цьвікевіч ператварае ледзь не ў фэдэраліста-га, ён нават адважваецца цытаваць тое месца, дзе Каяловіч гаворыць аб немагчымасьці для Беларусі жыць самастойным жыцьцём ад Расіі, забываючы пры гэтым толькі дадаць, што Каяловіч лічыць такога роду погляды злонамеранымі, больш таго — выкідаючы гэта места і цытуючы, не адзначаючы нават пропускі.

Які сапраўдны клясавы сэнс мела тэорыя Каяловіча аб польскіх панах, лепш за ўсё паказваюць яго адносіны да раздачы Екацярынай II вялікай колькасьці сялян і вялікай колькасьці конфіскаваных польскіх зямель у рукі буйных рускіх памешчыкаў. „Такім чынам, — гаворыць нарэшце Каяловіч — адначасова з рускім кіраваньнем клаўся моцны пачатак стварэньню рускіх грамадзкіх сіл" (стар. 316 „Чтение по истории")[1]). Каяловіч лічыць факт укараненьня *рускага* памешчыка замест *польскага* станоўчым і ня раз падкрэсьлівае гэта. І вось гэты самы Каяловіч абарачаецца аўтарам фактычна ў аднаго з ідэёвых папярэднікаў беларускага нацыянальна-культурнага адраджэньня. Якраз з такой самай ідэалізацыяй мы сустракаемся і пры ацэнцы Сапунова, правага акцябрыстага-сталыпінца, члена трэцячэрвеньскай Дзяржаўнай Думы,

---

[1]) Ужо з саромліва схаваных Цьвікевічам у зноску даных Жуковіча чытач даведаўся, што зямля пераходзіла з рук буйнога польскага пана ў рукі *рускага* пана (чыноўніка і памешчыка). Гэты вынік зьяўляўся, зразумела, не выпадковым рэзультатам вольнай гульні экономічных сіл на зямельным рынку, а вынікам сьвядомага падтрыманьня і апекі ўраду ў адносінах да буйных пакупцоў. „Западно-руссы", як і Мураўёў, рашуча падтрымлівалі гэту політыку, і Каяловіч тут не разыходзіўся з політыкай і думкай свайго політычнага прыяцеля корэспондэнта — М. Н. Каткова. Вось што пісаў апошні ў лісьце да аднаго з кіруючых міністраў:

„Умаляю вас зьвярнуць асаблівую ўвагу на пытаньне аб прынцыпе хутчэйшых мер адносна земляўладаньня ў заходніх і паўднёва-заходніх губэрнях. Трэба сьпяшацца, пакуль справа гарачая. Тамашнія памешчыкі разахвоціліся і самі гатовы прадаваць зямлю; трэба, каб нашы капіталы зараз-жа пацягнулі туды. Памешчыкі цяпер аддаюць жыдам у доўгатэрміновую арэнду свае землі; трэба ўсяк старацца папярэдзіць гэта і зрабіць для іх больш выгодным продаж. Інакш заарэндаваныя землі цяжка будзе скупіць. Памешчыкі, замешаныя ў мецяжы, павінны быць прымушаны да продажу, гэта самая законная і справядлівая з усіх магчымых экспропрыяцый. Ці нельга ўзбудзіць пытаньне аб абвяшчэньні патомсьцьвенага дваранства асабістым, патомкавым грамадзянам і нават купцам, якія набудуць такую-ж колькасьць зямлі ў тых краёх, зразумела, пры пэўных умовах". (Письмо М. Н. Каткова П. А. Валуеву от 16 сент. 1864 г. Русский Исторический Архив т. I. Прага, 1929 г., 292 стр.).

Каяловіч гэтыя погляды, якія пры пэўных усільлях Цьвікевіч залічыць у разрад „мужыцкіх" і „дэмократычных" — поўнасьцю падзяляў.

які прайшоў ад зьезду земляўласьнікаў. Ён ператвараецца ў руках Цьвікевіча ў аднаго з ідэёвых папярэднікаў незалежнай самастойнай Беларусі:

> „Сапуноў... заклікаў Беларусь да самавызначэньня, да нацыянальнае самасьвядомасьці, да новае адроджанае будучыны, якая знаходзіцца ў руках саміх беларусаў". І хаця ён папярэджвае, што гэта „самавызначэньне" Беларусі ніяк не азначае сэпаратызму, але ўсякаму (! М. Ю.) зразрмела, што ў даным выпадку Сапуноў, „як страус" хаваўся ад праўды за звычайную форму". („Западноруссизм" 330-331 стар.).

Гэта гаворыцца аб тым самым Сапунове, які пісаў пахвальныя артыкулі аб Мураўёве-вешацелі і дзяржаўным доме Раманавых, які ва ўзнагароду за свае высоканавуковыя „сэпарацысцкія" працы "удостоился монаршего пожалования 500 руб."[1])

Усё гэта дазваляе Цьвікевічу зрабіць той вывад, што „западноруссизм" зьяўляўся ідэолёгіяй дробнага земляўладаньня, ідэолёгіяй дробнай буржуазіі. Усё гэта дазваляе Цьвікевічу рабіць такое заключэньне быццам і „западно-руссизм" зьяўляецца рухам культурнага нацыянальнага адраджэньня Беларусі, або ва ўсякім выпадку ад яго выходзяць вытокі гэтага руху. Сэнс усёй гэтай работы ня вельмі складаны і зводзіцца ўласна да таго, што сапраўднае вызваленьне беларускага народу, росквіт беларускай культуры, стварэньне самастойнай Беларусі, — усё гэта не знаходзіцца ані ў якай сувязі ні з Кастрычніцкай рэволюцыі, ні з гістарычным рухам пролетарыяту, ні са змаганьнем перадавой партыі чалавецтва — бальшавікамі, — усё гэта для Цьвікевіча толькі ўскладняючыя ўмовы, перашкодзіўшыя чорнасоценным Сапуновым прывесьці беларускі народ да адроджанае будучыні.

Мэтод аўтара ў яго рабоце па ачышчэньні і абяленьні расійскіх прыгоньнікаў і зьвядзеньні іх да беларускага знамянальніка наогул на дзіва просты: ён бярэ любога беларуса „рускай культуры", у якога праяўляецца хаця-б чыста этнографічная цікавасьць да краю, да краявых „асаблівасьцяй", да беларускай „народнасьці" і беларускага „дыялекту", падхапляе ўсякую заўвагу ў абарону мужыка (а гэтай справай, напрыклад, у Дзяржаўнай Думе асабліва ахвотна займаліся ня толькі ўсякія біскупы Еўлогіі, але і буйнейшыя рускія земляўласьнікі, конкурэнты польскіх, графы Бобрынскія, якія выступілі і супроць чужых паноў), адкідае ўсякія іншыя акалічнасьці, хаць-б іменна яны адыгрывалі пэўную ролю ў характарыстыцы данае плыні ці асобы, а потым з-за цікавасьці да беларускасьці, незалежна ад формаваўшых гэтую цікавасьць мотываў, робіць вывад, вось дзе зараджаецца і разьвіваецца беларуская нацыянальная ідэя, вось адкуль ідзе пачатак беларускай культуры. „Для адражэньня беларускае культуры было тады ўсё роўна, хто-б і з якіх меркаваньняў яе ні падтрымліваў-бы, абы толькі яна магла разьвівацца" (217). Усё выходзіць вельмі зручна. Цьвікевіч піша, напрыклад, што беларусафілы рускай культуры (зразумела, што тэрмін „беларусафіл" дастасоўна да беларусаў ня зусім дакладны), тыя, якія канчалі расійскія унівэрсытэты, пісалі і думалі па-расійску, але адчувалі па-беларуску, хацелі адарваць Бе-

---

[1]) „Калі-б усе больш выдатныя мясцовасьці Заходняга краю прадставілі для азнаямленьня са сваім мінулым зборнікі гістарычнага матар'ялу, падобныя разабранаму намі („Витебская Старина"), дык у рускай гістарычнай літаратуры зьявіліся-б правільныя і невычарпальныя сродкі для таго, каб выхоўваць у рускай грамадзкай сьвядомасьці правільнае разуменьне лёсу і значэньня адвечных рускіх абласьцей, некалі падпарадкаваных польскаму" — так — зусім првільна ацэньвала працу Сапунова адна газэта. Гл. брошуру Стукаліча „А. П. Сапунов".

ларусь ад Расіі *для Беларусі* (падкрэсьлена аўтарам), і на наступнай-жа старонцы Цьвікевіч вымушаны пісаць аб гэтых беларусах „расійскай культуры“, якія хацелі адарваць Беларусь ад Расіі для Беларусі, аб Шпілеўскім і Насовічу, што „іх лібэралізм і любоў да Беларусі павінны былі перамагчы толькі гіпноз вялікай імпэрыі і фэтыш праваслаўя — і тады яны траплялі непасрэдна на беларускі шлях“ („Западно-руссизм“, 55 стар.). Аказваецца, такім чынам, што гэтым беларусафілам, якія абаранялі ледзь не нацыянальную незалежнасьць, трэба было раней адмовіцца ад маласьці — толькі(!) ад гіпнозу імпэрыі і фэтышу праваслаўя, г. зн. толькі ад рэакцыйна-фэўдальнай формулы незабыўнага графа Уварава.

Перайшоўшы да разгляду заходня-рускага руху пасьля рэволюцыі 1905 г. аўтар прымушаны зноў заняцца адпаведнамі падчысткамі клясавага характару папярэднікаў і носьбітаў адвечнай нацыянальнай ідэі. Пасьля рэволюцыі 1905 г. прыгоньніцкае рускае земляўладаньне, адчуваючы сваю асуджанасьць, прабуе выратаваць сябе, ня спыняючыся пред крайнамі мерамі. Яно адважваецца на буржуазную (прадыктаваную, напомнім, I зьездам аб'яднанага дваранства) аграрную політыку, з аднаго боку, з другога боку — яно штурхаецца да крайняй нацыяналістычнай політыкі, сэнс якой заключаецца ў тым, каб выкінуць сялянскім масам землі памешчыкаў якой хочаш нацыянальнасьці, выключаючы вялікарасійскую (і зросшыхся з ёй або русыфікаваных груп іншых нацыянальнасьцяй). Аўтар ня можа, зразумела, разглядаць „западно-руссизм“ пасьля рэволюцыі 1905 г., калі ўжо аформіўся нацыянал-дэмократычны і лібэральна-нацыяналістычны струмень у Беларусі, калі беларуская інтэлігенцыя, цесна зьвязаная з буржуазнымі элемэнтамі вёскі, ясна формулявала з свайго пункту погляду задачы культурна-нацыянальнай работы ў краіне, і таму ён павінен прыйсьці да таго вываду, што „заходня-русізм зьвязаўся *ў гэты пэрыод* з рэакцыяй“ (стар. 329). Пасьля рэволюцыі 1905 г. „западно-руссизм“ непасрэдна вырадзіўся ў чысьцейшы пагромны рух: ня толькі і, можа, нястолькі ідэолёгічнае чорнасоценства характарызуе цяпер „западно-руссизм“, колькі непасрэдна практыка тых чорнасоценных груп, якія так добра вядомы насельніцтву Беларусі. Пакінуць чытача адзін на адзін з такім „западно-руссизмом“, які прадстаўляў-бы Замыслоўскі і такі „ідэолёг“, як няўдалы дэпутат Меншчыны — Шмідт — проста немагчыма. Немагчыма і адмовіцца ад яго — зьнікне-ж пераемнасьць адвечнай беларускай нацыянальнай ідэі. Вось чаму перад Цьвікевічам стаіць задача зараз, з аднаго боку, адлучыць ад „западно-руссизма“ тое яго лібэральнае крыло, да якога можна весьці ніткі і ранейшых народалюбівых „западно-руссов“ і тых наступных „западно-руссов“, якія пазьней прышлі да беларускага нацыянальнага руху. Так ён ўслужліва заяўляе, што быў „западно-руссизм“ ня толькі Замыслоўскага, Сазаневіча, Бывалькевіча (усё гэта крайня-правыя дэпутаты сталыпінскай Дзяржаўнай Думы), але і больш „левае“, лібэральнае (гл. 307, 325 стар.) і нават „дэмократычнага тыпу“ (327) крыло ў „западно-руссизме“. З другога боку, перад ім стіць задача паказаць, як беларуская нацыянальная ідэя мае сваёй клясавай базай па-ранейшаму сілы, якія могуць знайсьці спачуваньне ў савецкага чытача і органаў савецкай улады. Цьвікевіч прарабляе невялікую работу, сутнасьць якой заключаецца ў тым, каб зрабіць апорай „западно-руссизма“ кулакоў, фэрмэраў, зрабіць іх соцыяльнай базай тэй політыкі, якую вёў царызм, вылучыць з агульнай сялянскай масы, і наадварот — усю гэту сялянскую масу зрабіць носьбітам беларускай нацыянальнай ідэі, якую абаранялі,

як мы бачылі, „западно-руссы“ ў мінулым да рэволюцыі 1905 г. і якую цяпер абараняюць ня толькі беларускія адраджэнцы, але і тое левае крыло „западно-руссов“, старанным вывучэньнем якога займаецца Цьвікевіч. Такім чынам, гэта падвойная работа — работа па зусім штучным расьсячэньні „западно-руссизма“ на два струмяні, з аднаго боку, з другога — работа па таксама зусім штучным вылучэньні групы кулакоў з агульнай масы вёскі, — кулакоў, якія зьяўляліся базай сталыпінскай політыкі, — гэта работа становіцца неабходнай папярэдняй умовай для выкананьня тых політычных мэт, якія паставіў перад сабой аўтар. Вось што ён гаворыць:

> „Цяпер на Беларусі вырастаў стан, які быў і нацыянальна і політычна блізкі да Расіі. Веравызнаньне яго было праваслаўнае і ў гэтым адным ён мог карыстацца давер'ем ураду; затым ён ня быў польскім, значыць, не варожым нацыянальна расійскім дзяржаўным імкненьням; урэшце, што самае галоўнае, ён быў сутна-буржуазным і, значыцца, не станавіў ніякай небясьпекі ў сэнсе рэволюцыйнасьці... Са ўсіх бакоў гэты „пан вёскі“ ў сялянскай вопратцы, сялянскі аграры-фэрмэр падыходзіў да мэт і заданьняў расійскай політыкі на Беларусі“. („Западно-руссизм“ 295 ст.)

У аднэй гэтай невялікай цытаце награмоджана такая куча ўсякіх непаразуменьняў, выяўляецца такое выключнае невуцтва, натыкаешся на такое зьдзіўляючае перадзёргваньне зусім ясных рэчаў, што ня ведаеш, чаго тут больш наіўнасьці ці нагласьці, ці наіўнасьці політычнай нагласьці ці нагласьці невуцкае наіўнасьці? Не гаворачы ўжо аб тым, што аўтар з выключнай лёгкасьцю ператварае аграрыя-фэрмэра ў пана вёскі, аўтар гэтага аграрыя-фэрмэра абарачае ня больш ня менш, як у соцыяльную базу дваранскай політыкі Сталыпіна. Аўтар прадпалагае, такім чынам, кулацкае перараджэньне соцыяльнай базы самаўладзтва і гэта шчасьліва дапамагае яму ўнікнуць усякіх разважаньняў аб кулаку пасьля рэволюцыі 1917 г., бо ясна, раз кулак зьяўляўся тэй асноўнай соцыяльнай сілай, на якую апіраўся царызм, раз царызм і клясавыя сілы, на якія ён апіраўся, разгромлены, дык, вядома, усякага роду тыпова-буржуазныя, сапраўды кулацкія партыі і групы, у тым ліку партыі і групы, зьвязаныя з беларускім адраджэнцтвам, ня маюць ніякага дачыненьня да кулака. Аўтар спакойна далей ўсіх фэрмэраў чамусьці залічае па праваслаўным ведамсьцьве, робіць іх усіх соцыяльна і політычна блізкімі прыгоньніцкаму царызму і, такім чынам, зьнімае з парадку дня пытаньне аб сялянскай рэволюцыі супроць прыгону. Гэта не перашкаджае яму пасьля ўсяго гэтага, аднак, гаварыць аб „дробна-буржуазных“ імкненьнях „западно-руссов“ (стар. 305).

Цяжка сабе ўявіць большую блытаніну, але гэтая блытаніна, паўтараем, мае зусім пэўны політычны сэнс і гэты сэнс лепш за ўсё выяўляецца ў штучных спробах вылучыць лібэральны і нават дэмократычны струмень у „западно-руссизме“. Гэты „дэмократычны“ „западно-руссизм“ аўтар бачыць у вышаўшым з нетраў прыгоньніцкай організацыі, кіраваным такімі карэннымі чорнасоценцамі, як Замыслоўскі, Сазановіч, Бывалькевіч і інш.—так званым „беларускім грамадзтве“ ў Вільні. Можна сабе ўявіць, што гэта за дэмократызм, калі ў працягу трох рашаючых год, з 1905 па 1908 г.г., кіраўнікі гэтага грамадзтва знаходзілі магчымым мірнае сужыцьцё ў аднэй організацыі з панамі Замыслоўскімі. Такім чынам, мы сутыкаемся з тэй-жа самай ідэалізацыяй чорнасоценства, якая праводзіцца па дзьвёх лініях. З ад-

нага боку, тыпова прыгоньніцкія організацыі, гэтыя свайго роду маленькія „грамадзтвы 10 сьнежня“ ў руках расійскага дваранства, правыя організацыі, якія вымушаны былі зварачацца пад уплывам масавых рабочых і сялянскіх рухаў у большых разьмерах чым раней да соцыяльнай дэмагогіі,—аўтар разглядае як політычную організацыю буржуазнай верхавіны вёскі; з другога боку, ператвараючы прыгоннарэакцыйны „западно-руссизм“ у ідэолёгію заможных сялян, Цьвікевіч расчышчае глебу для ідэалізацыі беларускага адраджэньня. „Наогул трэба сказаць, што ідэя культурна-нацыянальнага адраджэньня Беларусі ў той пэрыод, галоўным чынам, асядала ў клясе бяднейшага сялянства. Беларуская нацыянальная ідэолёгія ва ўмовах старога царскага рэжыму сама па сабе была ўжо рэволюцыйным дэструкцыйным зьявішчам. А гэта азначала, што калі беларускі нацыянальны рух накіроўваўся ў вёску, дык ён павінен быў накіроўвацца і здабываць сабе прыхільнікаў не сярод верных царызму кулакоў і заможных сялян, а сярод бядняцкіх і серадняцкіх яе пластоў. Кулацкія элемэнты вёскі павінны былі быць ахоплены і, як мы паказалі вышэй, сапраўды ахапляліся заходня-русамі“ (стар. 308-309).

Такім чынам, царызм ператвораны ў сялянскую монархію, чорнасоценства зрабілася партыяй буржуазных элемэнтаў вёскі і тады, зусім натуральна, што беларускі нацыянальны рух мог абаперціся толькі на сялянскую беднату. Калі яшчэ да гэтага дадаць, што, як само сабою зразумела, буржуазная верхавіна вёскі павінна была быць, па думцы Цьвікевіча, або рускай або русыфікаванай, калі дадаць, што капіталізм, па думцы Цьвікевіча, які далучаецца да думкі Струвэ, заўсёды гаварыў толькі на расійскай мове (гл. 337),—дык мы маем перад сабой паўтарэньне тэй-жа самай концэпцыі аўтара, якая чырвонай ніткай праходзіць праз усю кнігу і сутнасьць якой зводзіцца да таго, каб падпарадкаваць адзіную нацыянальную ідэю, носьбітам якой павінна зьявіцца беларуская інтэлігенцыя наогул, падпарадкаваць адзінаму нацыянальнаму фронту, на чале якога якраз таксама павінны стаць людзі, якія стаялі на чале беларускага адраджэньня, г. зн. тая-ж самая інтэлігенцыя—каб гэтым рэчам падпарадкаваць увесь гістарычны процэс Беларусі, да таго зьвесьці сэнс усёй яе гісторыі. Такім чынам, політычны сэнс усёй гэтай работы зводзіцца да прызнаньня таго, што беларуская нацыянальная ідэя можа знайсьці сваіх носьбітаў і ідэёвых папярэднікаў у асяродзішчы тэй часткі беларускай інтэлігенцыі, якой зьяўлялася простая служэбная сіла ў руках царызму, якое тут выконвала задачу русыфікацыі.

Але як аўтар ні спрактыкаваны ў лоўкасьці рук (аб лоўкасьці разуму гаварыць ня прыходзіцца—кніга абсолютна няпісьменная)—але проста і бяз лішніх слоў весьці ідэёвую пераемнасьць беларускай нацыянальнай ідэі ад „западно-руссизма“, ён можа. Ён ня можа, побач з размалёўваньнем сваіх герояў, ня прызнаць, што Гаворскі ўсё-ж нізкі і прадажны чалавек, што Каяловіч ўсё-ж служыў вялікадзяржаўнаму ваенна-фэўдальнаму расійскаму імпэрыялізму, ня можа ня прызнаць, што проста і непасрэдна „западно-руссизм“ зьяўляўся дапаможнай ідэйкай у руках царызму. Тут патрэбна невялікая прэвэнтыўная падчыстка. Аказваецца, што ў „западно руссизме““ жылі дзьве душы—адна мясцовая беларуская, другая—агульнарасійская, адна прызнавала староўчы прынцып фэдэрацыі, другая ў гэтым прынцыпе бачыла свайго заядлага ворага.

„Боязнь Польшчы“ была самай характэрнай адзнакай усіх „западно-руссов“ наогул. Адных яна прыводзіла ў лягер рэнэгатаў і за-

цятых русыфікатараў Беларусі, іншых, якія адважваліся глянуць на справу больш спакойна, — набліжала да прызнаньня нацыянальнай ідэі“ (стар. 14).

„Сапуноў, Стукаліч, Раманаў, Нікіфароўскі і рэшта іншых дасьледчыкаў беларускай гісторыі, археолёгіі і этнографіі хоць і аддавалі шмат свае энэргіі барацьбе з полёнізмам і хоць даводзілі патрэбу яднаньня Беларусі з Расіяй, аднак, сутнасьць іхняй дзейнасьці ахвяроўвалася перш за ўсё для самой Беларусі. Аналіз гэтай дзейнасьці не пакідае ніякага сумненьня ў тым, што ў іхняй „западно-русской“ сьвядомасьці, у іхняй псыхолёгіі жылі дзьве істоты: адна мясцовая — беларуская і другая — агульнарасійская“ (стар. 318).

Той, што здолеў перамагчы токі другой душы, хто здолеў адмовіцца ці вызваліцца ад гіпнозу імпэрыі ці фэтышу праваслаўя, той прыходзіў да нацыянальнага руху, і „ёсьць падстава лічыць — такі вывад аўтара — што абедзьве гэтыя групы (беларускай інтэлігенцыі польскай і рускай культуры — М. Ю.) прыходзілі да сваіх нацыянальных пераконаньняў самастойным шляхам, незалежна адна ад аднэй“. У другім месцы аўтар выказваецца яшчэ больш ярка і адкрыта: „Западно-руссизм“ перарастае ў нацыянальны рух“. Уся бяда толькі ў тым, што „западно-руссы“ спыніліся на поўдарозе, але яны абудзілі інтарэс да Беларусі, далі штуршок нацыянальным інтарэсам у асяродзішчы беларускай моладзі, і, побач з беларускай інтэлігенцыяй польскай культуры і нават у большай меры, яны могуць лічыцца піонэрамі беларускай нацыянальнай ідэі.

„Але частка іх, — ня трэба лічыць, што зусім малая, — песьціла ў сваім сумленьні лепшае насеньне народнічай эпохі, складала глухую, а часам і актыўную, опозыцыю паліцэйскай дзяржаве,—задумваючыся над істотнымі пытаньнямі свайго мясцовага жыцьця, зьяўлялася тымі кадрамі, на якіх вырастаў беларускі нацыянальна-рэволюцыйны рух канца XIX ст.“ (стар. 271).

Які-ж агульны вывад аўтара? Якая-ж з гэтых дзьвёх душ ўсё-ж перамагла? Чым-жа, у канчатковым рахунку, аказаўся „западно руссизм“?

Мы прымушаны прасіць прабачэньня ў чытача, але лічым неабходным ўсё-ж зьвярнуцца да цытат. Няхай Цьвікевіч гаворыць сам за сябе:

„Западно-русский“ патрыятызм быў патрыятызмам мясцовым „усходняй орыентацыі“, і калі на хвілю гэтая *тэорытычная па сутнасьці* орыентацыя адымалася — ён рабіўся нічым іншым, як тым-жа сэпаратызмам“ (270 стар. падкрэсьлена мною—М. Ю.)

„З другога боку, Каяловіч, Сапуноў і Раманаў ніколі не казалі, што беларускай культуры, як сумы гістарычнай спадчыны, што захавалася ў сучасным, няма. Наадварот, яны ўсьцяж даводзілі, што такая культура ёсьць... „Западно-руссы“ — ніколі не казалі, што Беларусь *не павінна* (падкрэсьлена аўтарам) быць самастойнай, яны ласьне даводзіді, што яна з розных прычын ня можа быць гэткай“ (стар. 322).

„....у радох „западно-руссов“ усё больш узрастала прыхільнасьць да беларушчыны і вельмі часта за казённым тэрмінам „Западного“ або „Северо-Западного Края“ ў іх працах хавалася назва „Беларусь“. Стары паліцэйскі рэжым часта вытвараў падобную мімікрыю“ (289).

Цяжка назваць гэты вывад інакш, як палітычным апраўданьнем „западно-руссизма“, як узьвядзеньнем гэтай колёнізатарскай ідэолёгіі на п'едэстал нацыянальна-вызваленчых тэорый.

Сам аўтар ня раз проста салідарызуецца з „западно-руссизмом“[1]). Аўтар расцэньвае ўсю іх дзейнасьць як дзейнасьць, накіраваную да вырашэньня нацыянальных і соцыяльных проблем беларускага народу і недарма новы курс, зьвязаны з імем генэрал-губарнатара Патапава, які зьмяніў Мураўёва, аўтар расцэньвае так: „забыць аб Беларусі, забыць і замаўчаць прабелы яе нацыянальнага і соцыяльнага жыцьця ў тым ліку дражлівую і небясьпечную з пункту погляду паміж клясавага супакою аб польска-расійскіх і беларускіх адносінах“ (181). Стары, мураўёўскі курс, падтрыманы „западно-руссами“, знаходзіць тут сабе апраўданьне — там памяталі хоць-бы, што ёсьць Беларусь, беларускі народ. Але самым выдатным, квінт-эсэнцыяй усяго зьяўляецца канец кнігі. Ён настолькі яркі і адкрыты, што бадай ня мае патрэбы ў комэнтарах.

> „Разам са старой імпэрыяй разбурыўся і „западно-русский“ лягер. Частка „западно-русскіх“ культурных працаўнікоў, клясавая прырода якіх аказалася слабейшай за вывады лёгікі, якім інтарэсы маладой беларускай культуры былі важней за стары быт, — перайшлі рубікон і аддалі свае сілы служэньню новаму жыцьцю. Тыя-ж, кулацка-праваслаўная істота якіх аказалася мацейшай за новыя ідэі, якія ў душы сваёй захавалі „цэль вялікай недзялімай Расіі“, тыя і для сучаснай творчай соцыялістычнай эпохі зьберагл свой „западно-русский камень“ (стар. 337).

Сам Цьвікевіч адносіцца да ліку тых, чыя клясавая прырода аказалася „слабейшай“, чым вывады лёгікі, правільней, да ліку тых і такіх ворагаў, лёгіка клясавай прыроды якіх патрабавала ад іх „сяброўскага“ маскаваньня, маскаваньня пад людзей, якія быццам аддаюць свае сілы служэньню новаму жыцьцю.

Якім-бы ня дрэнным было маскаваньне, у прыватнасьці, як-бы павярхоўна і слаба не затушаваны былі клясава-варожыя ідэі ў „западно-руссизме“, кніга гэта магла быць надрукавана *нашым* выдавецтвам, магла часткова — паасобнымі артыкуламі — друкавацца ў *нашым* журнале „Полымя“, магла акадэмічна абмяркоўвацца ў *нашых* вышэйшых навуковых установах.

І Цьвікевіч мог свабодна праводзіць у сваёй кнізе такія гістарычныя характарыстыкі і ацэнкі, да якіх не апускаліся і буржуазна-лібэральныя рускія гісторыкі, ён мог пісаць, што „рэскрыпт 13 мая — пасьля стрэлу Каракозава — быў выразам крутога павароту расійскай політыкі ў бок рэакцыі, — павароту, — які быў выкліканы ўздымам рэволюцыйных настрояў у імпэрыі пасьля скасаваньня прыгоннага быту і вымогамі расійскага дваранства да ўраду палажыць канец гэтаму ўздыму“ (80 стар.), мог пісаць пра *лібэральнае* кіраваньне Аляксандра II у пэрыод 1855-1861 г. г., мог зводзіць усю сутнасьць польскага паўстаньня да пытаньня аб уладаньні Беларусьсю, „аб якім ішла спрэчка паміж Расіяй і Польшчай“ (152). „У цэнтры ўвагі польскага паўстаньня — так сьцьвярджае Цьвікевіч—стала, зразумела, Беларусь, „Заходня-расійскі край“, на валаданьне якім заявіла свае правы паўстаўшая Польшча“ (151).

---

[1]) Супроць „западно-руссов“ аўтар нечакана выстаўляе наступны аргумант: „абшчыны“, як пэўнай формы землякарыстаньня на Беларусі ніколі ня было; тут спрадвеку былі разьвіты індывідуальныя, падворныя формы сялянскага землякарыстаньня, так што ня было жаднай прычыны распаўсюджваць на Беларусь гэту спэцыфічна вялікарускую адзнаку“ (Западно-руссизм“ 226). Не патрэбна фізычнай сілы розуму, каб зразумець, што гэты аргумант паданы не для абвяржэньня абшчыннай тэорыі Каяловіча, а ў абарону хутарской практыкі Прышчэпава.

Мы мелі тут справу не з палітычным і культурным невуцтвам, правільней, ня толькі з невуцтвам, але і з невуцтвам клясава-варожа накіраваным. Лепшым довадам гэтага зьяўляюцца два прыклады з кнігі Цьвікевіча. Першы прыклад, гэта — адносіны Цьвікевіча да расійскай радыкальнай публіцыстыкі 60-х гадоў, да рэволюцыйна-дэмократычнага струменю ў гісторыі грамадзкай мысьлі. Зусім няма патрэбы адмаўляць об'ектыўна буржуазна-дэмократычны зьмест вучэньня і дзейнасьці буйнейшых прадстаўнікоў расійскага асьветніцтва, каб захаваць права і абавязак і ў пролетарскіх рэволюцыянэраў ганарыцца такімі імёнамі, як Бакунін, Дабралюбаў, Пісараў і асабліва Чарнышэўскі.

Ідэолёгі антыпрыгоньніцкай рэволюцыі, гэтыя людзі, здолелі заняць настолькі рэзкую пасьлядоўную і рэволюцыйную позіцыю ва ўсіх асноўных пытаньнях тагочаснага рускага жыцьця, што на іх творах яшчэ доўга вучыліся рэволюцыйныя пакаленьні Расіі.

У прыватнасьці, расійская публіцыстыка здолела заняць правільную позіцыю іх і ў нацыянальным пытаньні. Усім вядомы адносіны Герцэна, Бакуніна, Чарнышэўскага да прыгнечанай Польшчы. Герцэн прызнаваў і за Украінай права на самавызначэньне. „Разьвяжам ім рукі, язык — пісаў ён яшчэ ў 1859 г. — і тады няхай яны скажуць сваё слова"; Дабралюбаў прызнаў за украінцамі права „гаварыць сваёй мовай аб прадметах сваіх патрэб, імкненьняў і ўспамінаў"; „Современник" вітаў выданьне „Основы", Шэўчанкі, Марка-Ваўчка і апошняя ў 1861 г. надрукавала там свой роман; Бакунін у сваёй брошуры „Народное дело" пісаў: „Хочам, каб Польшчы, Літве, Украіне, фінам і латышам прыбалтыцкім, а таксама і Каўкаскаму краю была вернута поўная свабода і права распарадзіцца сабой і жыць па сваёй волі, бяз усякай з нашага боку ўмяшальнасьці, простага ці ўскоснага".

Прызнаньне права прыгнечаных нацый на самавызначэньне, выступленьне на баку прыгнечаных нацыянальнасьцяй супроць расійскага царызму зьяўляецца агульным для ўсёй рэволюцыйна-дэмократычнай літаратуры 60-х г. г., і програма рабочых членаў партыі „Народнай воли" толькі працягвала гэту традыцыю, калі пісала: „Народы, гвалтам далучаныя да Рускага царства, вольны адлучыцца ці застацца ў агульнарускім саюзе".

Як-жа адносіцца да гэтага, крайня-левага, рэволюцыйна-дэмократычнага крыла буржуазнай грамадзкасьці той самы Цьвікевіч, які ідэалізаваў Гаворскіх, Каяловічаў, Сапуновых. Ён услужліва паведамляе, што „Современник" гіранічна сьмяяўся з украінскай газэты (447), ён лічыць, што „пагардлівы і гіранічны стасунак да беларушчыны быў характэрны для расійскае літаратуры" (320), ён піша быццам „расійская буржуазна-дэмократычная думка рэдка выступала на абарону прыгнечаных народаў" (333).

А вось і другі прыклад. Аўтар кнігі піша: „Урад глядзеў на гэту эволюцыю, як на... мацнейшае аб'яднаньне каралеўства з агульным дзяржаўным організмам", і ў зносцы да гэтага месца дадае: „Найбольш упарта і пасьлядоўна праводзіла прынцып экономічнага „wcielenia" (укараненьня) Польшчы ў склад Расіі Р. Люксэмбург, у сувязі з чым яна абвяшчала палітычную незалежнасьць Польшчы „ўтопіяй" (249). Такім чынам, аўтар, які ўмудрыўся Каяловіча выявіць амаль соцыялістам, выяўляе „чырвоную Ружу" амаль чорнасоценкай. Цяжка назваць гэта інакш, чым літаратурным хуліганствам. Застаецца толькі дадаць, што гэтыя літаратурныя норавы зьяўляюцца няўхільным састаўным элемэнтам усёй ідэолёгіі Цьвікевіча.

Само сабою зразумела, каму выгодна такога роду ідэолёгія і хто ў ёй мае патрэбу. Гэта кніга зьяўляецца простым палітычным апраўданьнем мінулага самога Цьвікевіча, так і той даволі шматлікай групы беларускай інтэлігенцыі, якая да рэволюцыі, ня маючы нічога агульнага з беларускім нацыянальным рухам і вельмі часта стоячы ў баку ад усякіх прогрэсыўных рухаў, а часам і змагаючыся з імі, пасьля рэволюцыі, далучыліся да нацыянальнага руху, жадаючы яго пераважна скарыстаць, як адну з форм змаганьня з пролетарскай дыктатурай.

Цьвікевіч яшчэ ў часе рэволюцыі 1917 г., яшчэ ў *ліпені*, калі цэнтрабежныя сілы нацыянальных рухаў выявіліся ўжо вельмі моцна, абараняў тыпова вялікадзяржаўнымі аргумантамі вялікаросаў, „адзіную і непадзельную“ Расію, выступаў як расійскі, а зусім не як беларускі кадэт.

Мы дазволім напомніць гэтаму быццам-бы ура-нацыяналісту, які так заядла перасьцерагаў супроць тых, хто захоўвае зараз „заходнярускі камень“, адну з яго прамоў у 1917 г.:

„Расійская дзяржава, праўда, будавалася захватамі, заваяваньнямі. Але гэты процэс ішоў так доўга, што народы прывыклі ўжо жыць у блізкіх адносінах адны з другімі. Сэпаратыстычныя тэндэнцыі ў іх надта слабыя. Украінства—гэта рэволюцыйны ўзрыў. Але яно з часам схлыне, бо малых дзяржаў цяпер быць ня можа. „Русск. вед.“ пісалі і аб беларускім сэпаратызьме, але ўсё гэта няпраўда: мы толькі хочам лепш упарадкаваць сваё жыцьцё. Нам патрэбна аўтономія, як гаспадарскае самакіраваньне, крыху законадаўскае. Тады ўсё будзе добра. Хто хоча, каб Расія была моцнаю, павінен прызнаць патрэбу тэрыторыяльна-гаспадарскай аўтономіі... Беларускай Рады быць ня можа, бо мы занадта бедны сіламі. З Украінай нас раўняць ня можна. Што-ж нам трэба рабіць. Не захопліваць законадаўчых функцый, а ўзяцца за організаваньне мас. Інакай мы сапсуем усю справу“. (прамова Цьвікевіча на зьезьдзе дэлегатаў ад беларускіх, партыйных і грамадзкіх організацый у Менску на пасяджэньні 9 ліпеня. „Вольная Беларусь“ № 10 1917 г. ад 30 ліпеня),

І гэты суб‘ект, які стаяў за культурна-гаспадарчую аўтономію Беларусі, выходзячы з інтарэсаў моцнасьці і сілы Расіі, зараз шчэгаляе ў адзеньні абаронцы і прадстаўніка беларускай нацыянальнай ідэі. Гэта не выпадкова. Не выпадкова Цьвікевіч, які ў ліпені 1917 г. на беларускім нацыянальным зьезьдзе пярэчыў супроць палітычнай аўтономіі, абараняў тыпова кадэцкі проект краявой аўтономіі, проект, які кадэты парашылі выкінуць масам, не чакаючы нават Устаноўчага Сойму. Не выпадкова іменна ён выступае з кнігай, якая імкнецца пературыць у роданачальнікаў беларускага нацыянальнага руху заўзятых русыфікатараў. Гэта кніга зьявілася простай палітычнай прыладай у руках усякіх такіх Карскіх, Дурнаво, Некрашэвічаў, якія ў змаганьні з савецкай уладай гатовы прызнаць і прыняць якія хочаш нацыянал-адраджэнчыя концэпцыі, маючы зусім пэўную задачу павярнуць нацыянальную форму культуры супроць соцыялістычнага яе зьместу. І якраз таксама не выпадкова, што тыя былыя нацыянал-дэмократы, якія ў другі час павінны былі-б адкінуць усю гэту тэорыю, якая прабуе парадніць нацыянал-дэмократычны рух з расійскім царызмам, якія павінны былі-б адкінуць гэтыя антынацыянальныя і антыдэмократычныя концэпцыі, — зараз ня толькі не пярэчыць супроць гэтых концэпцый, але спрыяюць іх пашырэньню.

Тыя буйнейшыя соцыяльныя зрухі, той гіганцкі процэс рэконструкцыі ўсёй вёскі, які зараз адбываецца, адкідаюць і ранейшых

расійскіх і беларускіх кадэтаў і акцябрыстаў і беларускіх нацыянал-дэмократаў да аднэй сілы, якая зьяўляецца адзінай сур'ёзнай клясавай сілай унутры краіны, на якую могуць абаперціся ворагі пролетарыяту. Той факт, што кулацтва — ня тое мнімае кулацтва, сконструяванае Цьвікевічам, а тое рэальнае сапраўднае кулацтва, якое вядзе шалёнае змаганьне за захаваньне ў сябе зямельных лішкаў і сродкаў вытворчасьці, якое падпальвае колгасы і саўгасы, зьяўляецца адзіна сур'ёзнай клясавай апорай і тых і другіх — гэты факт знайшоў сваё адлюстраваньне ў практычным і палітычным зрошчваньні і буржуазна-нацыяналістычных беларускіх груп, у мінулым цесна зьвязаных з царызмам, і нацыянал-дэмократычных груп, якія ў мінулым зьяўляліся праціўнікамі царызму. І практычная работа ў пасьлякастрычніцкі пэрыод знайшла спробу свайго ідэолёгічнага выяўленьня ў нацыянал-фашысцкай рабоце Цьвікевіча, сэнс якой заключаецца ў тым, каб вывесьці роўнасьць крыніц беларускага нацыянальнага руху як ад „западно-руссов“, так і ад тэй групы беларускай буржуазнай інтэлігенцыі, якую Цьвікевіч залічае па часьці полёнафільства. У мінулым абедзьве гэтыя групы—русыфікатарская і полёнафільская—рэдка паміж сабою змагаліся. У сучасным яны поўнасьцю солідарны ў змаганьні са сваім галоўным ворагам — пролетарскай рэволюцыяй. І тая, і другая поўнасьцю зышліся на тактыцы, у свой час аткрыта і краснамоўна формуляванай тым-жа самым Цьвікевічам:

„Калі думала беларуская эміграцыя — нельга ажыцьцявіць „незалежную Беларусь“ сёньня, дык гэта не азначае, што яе нельга будзе ажыцьцявіць заўтра. Калі нельга будзе правесьці сваёй програмы лобавым ударам, дык трэба будзе праводзіць яе стараной, важна, каб правільным быў прынцып. Калі прынцып справядлівы, дык усё іншае зьяўляецца толькі пытаньнем часу, пытаньнем дасьціпнай тактыкі і напружаньня змаганьня. А дзеля гэтай мэты трэба быць толькі цярплівым, разумна спакойным і ўпартым“ (артыкул ў № 4 „Полымя“ за 1926 г.).

Кніга Цьвікевіча і зьяўляецца спробай дастасаваньня гэтай тактыкі на гістарычным фронце. Гэта ня лобавы ўдар ворага, то абыходны манэўр. Гэта сьвядомая, праднамеранае, ідэолёгічнае шкодніцтва. Толькі так яе і трэба расцэньваць.

С. Рычкоў

# Трэці ўдарны зьезд настаўніцтва БССР

Адбыўшыйся ў другой палове лютага г/г. ў Менску III-ці Ўсебеларускі настаўніцкі зьезд мае вялікае палітычнае значэньне і зьяўляецца аднэй з яркіх старонак у жыцьці, рабоце настаўніцкіх мас Савецкай Беларусі. Гэта быў ударны зьезд, прызваны да яшчэ большага ўцягненьня асноўнай настаўніцкай масы да ўдзелу ў вырашэньні адказьнейшых і складанейшых задач рэконструкцыйнага пэрыоду, задач трэцяга рашаючага году пяцігодкі. Гэта быў зьезд прызваны ў яшчэ большай ступені мобілізаваць асноўныя настаўніцкія масы вакол свайго правадыра—Комуністычнай партыі, на барацьбу за генэральную лінію партыі, на барацьбу з опортунізмам ў тэорыі і практыцы. Зьезд падвёў вынікі работы асноўнай настаўніцкай масы па ўдзелу ў вырашэньні задач ленінскай нацыянальнай політыкі і вызначыў конкрэтныя шляхі далейшага змаганьня савецкага настаўніцтва БССР пад кіраўніцтвам КП(б)Б за ленінскую нацыянальную політыку.

У задачу III-га Ўсебеларускага настаўніцкага зьезду ўваходзіла пры дапамозе бальшавіцкай самакрытыкі са ўсёй рашучасьцю ўскрыць усе правалы, прарывы на паасобных вучастках культурнага будаўніцтва, нацыянальнага па форме, пролетарскага, соцыялістычнага па зьмесьце, будаўніцтва, якое мае вялізарнейшыя посьпехі. У задачу зьезду ўваходзіла ня толькі рашуча ўскрыць недахопы, правалы ў культбудаўніцтве, але і знайсьці прычыны іх, вызначыць конкрэтныя шляхі іх хутчэйшай ліквідацыі, шляхі дапамогі партыйным і савецкім організацыям па ўцягненьні ў справу культурнага будаўніцтва ўсё новых і новых слаёў пролетарскіх і працоўных мас, па стварэньні яшчэ большай арміі культармейцаў з рабочых, колгасьнікаў, беднаты, лепшай часткі серадлякоў. У задачу зьезду ўваходзіла яшчэ больш мобілізаваць увагу ўсёй пролетарска-савецкай грамадзкасьці, усёй масы савецкага настаўніцтва на баявых задачах культурнай рэволюцыі, задачах ўсеагульнага навучаньня, ліквідацыі няпісьменнасьці, політэхнізацыі асьветы, падрыхтоўкі кадраў.

III зьезд распачаў сваю работу ў адказьнейшы момант рэконструкцыйнага пэрыоду—у пачатку, у першым квартале 3-га рашаючага году пяцігодкі, у момант шырока разгорнутага соцыялістычнага наступленьня па ўсяму фронту, абвостранай клясавай барацьбы, у момант, калі пад кіраўніцтвам КП(б)Б і яе ленінскага ЦК пролетарыят БССР разам з сваёй асноўнай, галоўнай апорай на вёсцы з колгасным сялянствам, разам з беднатой і серадлякамі аднаасобнікамі, якія дапамагаюць колгаснаму будаўніцтву, прыступіў да завяршэньня пабудовы соцыялістычнай экономікі нашай краіны, з вялікімі посьпехамі вырашае

свой лёзунг „пяцігодку ў чатыры гады“, у момант узросшай небясьпекі нападу на СССР сусьветнай буржуазіі,—усё гэта і вызначыла задачы зьезду.

III зьезд ня быў выключна настаўніцкім зьездам. На гэтым зьезьдзе паміма настаўнікаў-ударнікаў прысутнічалі і прымалі самы актыўны ўдзел ва ўсёй рабоце зьезду ўдарнікі-рабочыя, ударнікі-колгасьнікі, абраныя на агульных сходах рабочых, колгасьнікаў, Да яно інакш і не магло быць. Нельга ўявіць сабе савецкае настаўніцтва, якое ня было-б у сваёй рабоце шчыльна зьвязана з пролетарскімі, працоўнымі масамі, якое-б лічыла справу ўсеагульнага навучаньня, ліквідацыі няпісьменнасьці, політэхнізацыі асьветы, падрыхтоўкі кадраў справай выключна настаўніцтва (толькі опортуністыя так лічаць), якое-б, асабліва за апошні час, не працавала-б над тым, каб яшчэ шчыльней зьвязацца з пролетарскімі, працоўнымі масамі. Савецкае настаўніцтва, гэта значыць асноўная маса ўсяго настаўніцтва БССР, зьвязала свой лёс з пролетарыятам, стаіць на пролетарскім шляху, поплеч з пролетарыятам рука аб руку з ім і, пад яго кіраўніцтвам, працуе над вырашэньнем задач соцыялістычнага будаўніцтва, змагаецца з клясавым ворагам. На трэцім зьезьдзе гэта было яшчэ раз падкрэсьлена, яшчэ раз паказана, што савецкае настаўніцтва знаходзіцца на пэўным шляху.

З якім-жа балянсам прышло настаўніцтва БССР да свайго III-га Ўсебеларускага зьезду? Якія процэсы, зрухі адбыліся ў настаўніцкай масе з часу II да III зьезду (з 1926 г. па 1931 г.). Вырасла ў два разы армія настаўнікаў БССР. Калі ў сваіх радох да II Усебеларускага зьезду настаўнікаў БССР налічвала каля 9.000 чалавек, да III-га зьезду налічваецца ўжо каля 20.000. Аб чым кажа гэты рост? Аб тым, што за мінулыя $4^1/_2$ гады мы зьяўляемся сьведкамі нябачных тэмпаў разгортваньня школьнага будаўніцтва. Павялічэньне ліку настаўнікаў сьведчыць аб вялізарным павялічэньні ахопу навучаньнем дзяцей працоўных мас. Увядзеньне ўсеагульнага навучаньня—якое з посьпехам праводзіцца ў нашай краіне—факт нашага культурнага ўзросту, нашых перамог у штурмаваньні цьвярдынь цемры, гэтай праклятай спадчыны мінулага. Толькі ў умовах пролетарскай дзяржавы, у ўмовах дыктатуры пролетарыяту магчымы такі бурны ўздым культурнага будаўніцтва. З экономічна і культурна адсталай у часы царызму краіны, воляю пролетарыяту і ўсіх працоўных мас, БССРператварылася ў перадавы форпост СССР, ператвараецца пад кіраўніцтвам КП(б)Б ў краіну індустрыяльна-колгасную.

Адначасова з ростам колькаснага складу настаўніцтва палепшылася і яго якасьць. На 1-е студзеня 1931 году ў 15 раёнах партыйна-комсамольская праслойка настаўніцтва складае ад 20 да 35%. За гэтыя гады ўвесь час ішоў процэс прытоку новага складу настаўніцтва, якое скончыла савецкія пэдагогічныя навучальныя ўстановы. Значна ўзрасла праслойка настаўнікаў, выхадцаў з пролетарскага, батрацка-бядняцкага асяродзьдзя, пры адначасовым рэзкім зьмяншэньні праслойкі настаўніцтва з соцыяльна-чуждага, клясава-варожага асяродку (дзеці абшарнікаў, папоў, гандляроў, кулакоў і г. д.). Абвастрэньне клясавай барацьбы паглыбіла політычную дыфэрэнцыяцыю ў шэрагах настаўніцтва. Да III зьезду ярка выкрышталізаваліся два процілеглыя полюсы. Адзін полюс—гэта асноўная маса настаўніцтва, гэта савецкае настаўніцтва, настаўніцтва, якое пад кіраўніцтвам комуністычнай партыі актыўна працуе ня толькі ў свайго варштату, у школе, у культустанове, але і ў грамадзкай рабоце. Гэтая асноўная маса настаўніцтва героічна змагалася і змагаецца за ўсеабуч і ліквідацыю няпісьменнасьці, сум-

ленна і аддана працавала і працуе ў правядзеньні вясновай пасеўнай кампаніі, колектывізацыі, дала рашучы адпор агентам польскага фашызму беларускім контр-рэволюцыйным нац.-дэмократам і за сваю вялізарную работу атрымала ад Ураду БССР вышэйшую адзнаку работы, ордэн працоўнага чырвонага сьцягу. Асобныя лепшыя прадстаўнікі гэтай часткі настаўніцтва зрабіліся ахвярай кулацкіх тэрорыстычных актаў у першую бальшавіцкую вясну. Клясавы вораг ведаў, у каго і за што ён страляе, каго б'е, каму робіць помсту. У асобе гэтых перадавікоў ён адчуваў наступленьне на яго дыктатуры пролетарыяту. Другі полюс—гэта невялічкая частка настаўніцтва, якое выпадкова трапіла, прымазалася ў шэрагі савецкага настаўніцтва. Гэта чужакі ў настаўніцкіх шэрагах, клясавы вораг, альбо яго агентура. Інакш, як шкодніцкай гэтую частку настаўніцтва назваць нельга. Гэта тая частка настаўніцтва, на якую абапіраліся ў сваёй контр-рэволюцыйнай дзейнасьці беларускія нацыянал-дэмократы, адкуль яны чэрпалі сваіх староньнікаў. З гэтага лягеру кулакі вербавалі сваіх абаронцаў. З гэтага лягеру былі чутны галасы супроць індустрыялізацыі краіны, колектывізацыі сельскай гаспадаркі, супроць соцыялістычнага наступленьня, супроць дыктатуры пролетарыяту. З гэтага смраднага і бруднага месца ўзрастаюць кветкі махровага антысэмітызму, вялікадзяржаўнага шовінізму, шкодніцтва і г. д. Зусім зразумела, чаму зьезд ня мог прайсьці міма пытаньняў політычнай дыфэрэнцыяцыі ў шэрагах настаўніцтва, чаму ён даваў прыклады таго, як клясавы вораг і яго агентура рабіла і робяць свае контр-рэволюцыйныя вылазкі, чаму ён падрабязна застанаўліваўся на пытаньні барацьбы са шкоднікамі ў настаўніцкіх шэрагах, чаму ён у сваіх прапановах падкрэсьліў неабходнасьць хутчэй вызваліцца ад шкоднікаў у сваіх шэрагах.

III зьезд асаблівую ўвагу ўдзяліў нацыянальнаму пытаньню. Чырвонай стужкай на зьездзе праз усе даклады і спрэчкі па іх праходзіла нацыянальнае пытаньне. Зьезд з вялікім задавальненьнем адзначыў, што вялізарныя посьпехі соцыялістычнага будаўніцтва ў БССР зьяўляюцца вынікам ленінскага вырашэньня нацыянальнага пытаньня комуністычнай партыяй бальшавікоў Беларусі. Пасьлядоўнае ажыцьцяўленьне і кіраўніцтва нацыянальнай політыкай КП(б)Б забясьпечылі росквіт культурнага будаўніцтва БССР нацыянальнага па форме, соцыялістычнага па свайму зьместу. На III зьезьдзе прысутнічалі настаўнікі, прадстаўнікі братэрскіх нацыянальных савецкіх рэспублік, аўтономных вобласьцяй (Украіны, Башкірыі, Мардовіі і інш.), якія ў сваіх выступленьнях фактамі, лічбамі паказвалі, як растуць, мацнеюць братэрскія савецкія рэспублікі, як пад кіраўніцтвам комуністычнай партыі пасьпяхова зьліквідавана праклятая спадчына мінулага—нацыянальная рознь, як узрастае нябачнымі тэмпамі культурны ўзровень, матэрыяльны дабрабыт прыгнечаных пры царызьме рабочых, працоўных розных нацыянальнасьцяй, як пасьпяхова ў гэтых рэспубліках, абласьцях будуюцца новыя фабрыкі, заводы, колгасы, саўгасы, як моцна сувязь рабочых працоўных мас усіх нацыянальнасьцяй Савецкага Саюзу. На зьезьдзе было прадстаўлена больш 15 розных нацыянальнасьцяй. Ня гледзячы на тое, што выступленьні былі на розных мовах (беларускай, яўрэйскай, польскай, нямецкай, расійскай, украінскай, мардоўскай і інш.) зьезд добра зразумеў кожнага выступаючага таварыша, бо ўсе выступаючыя казалі на аднэй клясавай мове—мове дыктатуры пролетарыяту, на мове перамог і будуючагася соцыялізму. „Яшчэ больш згуртаваць свае шэрагі вакол выпрабаванага кіраўніка комуністычнай партыі, з яшчэ большым уздымам

удзельнічаць разам з пролетарыятам і пад яго кіраўніцтвам у разгортваньні соцыялістычнага наступу, праводзіць выразную клясавую лінію ў сваёй рабоце, пільна сачыць за клясавымі ворагамі, моцна біць па ўсіх яго вылазках, пайсьці ў паход за марксыцка-ленінскай тэорыяй, рашуча змагаючыся з рознага колеру буржуазнымі тэорыямі на ідэолёгічным фронце, моцна трымаць сьцяг ленінізму, мобілізуючыся на барацьбу за генэральную лінію партыі"—такім быў агульны характар выступленьняў, такава была адзіная мова зразумелая для ўсіх дэлегатаў зьезду. І калі асноўная маса настаўніцтва на спробы контр-рэволюцыйных беларускіх нацыянал-дэмократаў прыцягнуць яе на свой бок адказвала рашучым адпорам у час шкодніцкай дзейнасьці Некрашэвічаў, Лёсікаў, Ластоўскіх і К-о, на самым зьезьдзе беларускі контр-рэволюцыйным нацдэмократызм атрымаў яшчэ больш руйнуючы адпор. З усёй яскравасьцю былі ўскрыты соцыяльныя карэньні нацыянал-дэмократызму, поўнасьцю сарвана маска, за якою хаваўся контр-рэволюцыйны твар Ластоўскіх, Некрашэвічаў, Лёсікаў, Баліцкіх, Ігнатоўскіх і „іжэ з імі". Бязьмежнае абурэньне ахоплівала кожнага дэлегата зьезду, калі прыводзіліся тыя ці іншыя агідныя, контр-рэволюцыйныя дзеяньня нацыянал-дэмократаў. „Контр-рэволюцыйныя нацдэмы меркавалі нас зрабіць сваёй агентурай, але памыліліся лёкаі фашызму, нацыянал-фашызму. Ганьбім дапаможнікаў інтэрвэнтаў, патрабуем самага суровага пакараньня ўсёй чорнай зграі здраднікаў, лёкаяў буржуазіі. У адказ на іх проіскі абвяшчаем сябе мобілізаванымі на работу бальшавіцкімі тэмпамі за выкананьне пяцігодкі ў чатыры гады"—такі быў голас зьезду. Зьезд прыняў пастанову „лічыць несумяшчальным пропаганду нацдэмаўскіх поглядаў з прабываньнем у шэрагах саюзу, на рабоце ў навучальных установах". Мобілізуючы сябе і ўсё савецкае настаўніцтва на бязьлітасную барацьбу з беларускім нацыянал-дэмократызмам, зьезд сконцэнтраваў агонь па вялікадзяржаўным шовінізьме, як найбольш небясьпечным у даны пэрыод. „Працягваць і пасіляць барацьбу з праявамі вялікадзяржаўнага шовінізму, добіцца поўнага выкананьня пастаноў комуністычнай партыі аб беларусізацыі і па нацыянальнаму пытаньню наогул"—была аднагалосная думка ўсяго зьезду. Зьезд быў зьездам інтэрнацыянальнай солідарнасьці. Савецкае настаўніцтва 16 розных нацыянальнасьцяй—была адзіная сям'я. Зьезд з вялікай зацікаўленасьцю заслухаў прамовы былых паслоў у польскі сойм т. т. Рак-Міхайлоўскага, Бурсевіча, якія намалявалі жудасны малюнак соцыяльнага і нацыянальнага прыгнечаньня рабочых і працоўных мас Заходняй Беларусі, Заходняй Украіны, разгулу фашысцкага тэрору, пагромаў, зьдзекаў, гвалтаў польскага імпэрыялізму, які разам з міравым імпэрыялізмам падрыхтоўвае напад на СССР. Зьезд рашуча протэставаў супроць пагромаў, крывавых жудасных пытак, якімі польскі фашызм думае задушыць разгортваючыйся рэволюцыйны рух у Заходняй Беларусі і Заходняй Украіне. Праз галавы польскага фашызму савецкае настаўніцтва БССР у асобе свайго III Зьезду зьвярнулася з адозвай да таго настаўніцтва Заходняй Беларусі, Заходняй Украіны, якое ідзе пад сьцягам братэрскіх комуністычных партый разам з пролетарыя—там па шляху пралетарскай рэволюцыі. Зьезд узяў на сябе абавязацельства палепшыць справу інтэрнацыянальнай сувязі, яшчэ шчыльней зьвязацца з перадавой часткай настаўніцтва капіталістычных краін, дапамагчы ім лепш азнаёміцца з вялізарным соцыялістычным ростам Савецкага Саюзу і БССР, як аднэй з яго непадзельнай часткі, дапамагчы ім гэтым самым у барацьбе з агульным клясавым ворагам,—міравой буржуазіяй.

Асноўным актуальнейшым на зьезьдзе было пытаньне аб задачах настаўніцтва ў рэконструкцыйны пэрыод. Наша краіна ўступіла ў пэрыод соцыялізму. У ёй адбываюцца вялізарныя соцыяльна-экономічныя зрухі. Пытаньне „хто-каго“ вырашана ў прамысловасьці на карысьць соцыялізму. У нашай краіне завяршаецца пабудова фундаманту соцыялістычнай экономікі. Цэнтральнай фігурай, асноўнай і галоўнай апорай пролетарыяту на весцы зьяўляецца колгасьнік. Кулак моцна пабіт, мы дабіваем кулака. Дабіваем яго разгортваньнем соцыялістычнай рэконструкцыі сельскай гаспадаркі, суцэльнай колектывізацыяй. Шырока разгорнутае соцыялістычнае наступленьне па ўсяму фронту абвострыла клясавую барацьбу. У прадсьмертных сударагах клясавы вораг кулацкім абрэзам, шкодніцкім падручнікам, рубіншчынай, Лёсікамі, Некрашэвічамі, Рамзінымі, Громанамі, Суханавымі і іжэ з імі—спрабуе затрымаць пераможны рух соцыялізму. Уздымам творчага энтузіязму, рэволюцыйнымі формамі і мэтодамі адказвае пролетарыят на заклік сваёй партыі—перамагаючы цяжкасьці, змагацца за выкананьне і перавыкананьне прамфінплянаў, за поўнае ажыцьцяўленьне лёзунгу „выканаць пяцігоку ў чатыры гады“. У гэты час там, у краінах капіталізму, глыбокі экономічны крызіс, заняпад, які ператвараецца ў крызіс політычны, беспрацоўе, жабрацтва, голад, галеча шматмільённых пролетарскіх працоўных мас, разгул фашызму, мяркуючага затрымаць нарастаючую хвалю рэволюцыйнага руху, шалёна рыхтуючыгася да нападу на СССР. Рэконструкцыйны пэрыод, трэці рашаючы год пяцігодкі патрабаваў ад зьезду, ад усяго савецкага настаўніцтва па-бальшавіцку вырашыць пытаньне конкрэтных шляхоў сваёй далейшай работы пад кіраўніцтвам комуністычнай партыі. Усе пастановы зьезду якраз і накіраваны на тое, каб чырвонаштандарнае настаўніцтва БССР з яшчэ большай напружанасьцю, энэргіяй працавала на тых вучастках работы, куды яно пастаўлена рабочай клясай. У свой час асноўная маса настаўніцтва дала абяцаньне партыі быць яе лепшым агітпропам на вёсцы. Па ўдзелу ў усеабучы, ліквідацыі няпісьменнасьці, удзелу ў першай бальшавіцкай вясьне асноўная маса настаўніцтва вытрымала політычны экзамен. Гэта дае ўпэўненасьць у тым, што і на далейшы час чырвонаштандарнае настаўніцтва БССР ня толькі не паслабіць, але і значна пасіліць тэмпы сваёй вытворчай і грамадзкай работы. У асобе свайго зьезду настаўніцтва БССР моцна ўдарыла па аполітычнасьці, нэўтральнасьці, абвясьціўшы іх прамой дапамогай клясавому ворагу, контр-рэволюцыі, інтэрвэнтам. Савецкае настаўніцтва казала, што зараз ня можа сябе лічыць, ня можа належаць да савецкага настаўніцтва той настаўнік, які замкнецца ў сваёй скарлупе, які ня будзе зьвязаны з пролетарска-савецкай грамадзкасьцю, які будзе стаяць у баку ад вялізарных зрухаў у нашай краіне, які ня будзе прымаць актыўнага ўдзелу ў пабудове соцыялізму. Асноўная фігура настаўніцтва—гэта настаўнік-ударнік у школе, ударнік у грамадзкай рабоце, актыўны змагар за справу пролетарскай рэволюцыі, настаўнік, які шчыльна зьвязаны з рабочым, колгасьнікам, які пад кіраўніцтвам комуністычнай партыі, па-бальшавіцку вядзе барацьбу за яе генэральную лінію, які стаіць у першых шэрагах соцыялістычнага наступу, які на справе даказвае, што ён поўнасьцю ўявіў і практычна праламляе пастановы XVI зьезду УсеКП(б), XIII зьезду КП(б)Б. З рэспубліканскай трыбуны зьезду савецкае настаўніцтва аб гэтым рашуча заяўляла, казала аб практычнай рабоце, якую яно ўжо праводзіць у гэтым напрамку. У простых словах, але глыбокіх па свайму сэнсу, лепшая частка настаўніцтва казала, як яно, перамагаючы цяж-

касьці, вядзе барацьбу за выкананьне задач, пастаўленых партыяй перад савецкай інтэлігенцыяй.

Задачы настаўніцтва ў рэканструкцыйны пэрыод вялікія і складаныя. Для выкананьня іх патрэбна ня толькі жаданьне, але і адпаведная падрыхтаванасьць. „Не супакойвацца на тым, што маецца ўжо добры вопыт удзелу ў вытворчай, грамадзкай рабоце, вучыцца аўладзяваць, узбройвацца рэволюцыйнай, марсыцка-ленінскай тэорыяй, узбройвацца пастановамі комуністычнай партыі для актыўнай і пасьпяховай работы ў рэконструкцыйны пэрыод“—такім было слова, такая была пастанова зьезду. Гэта пастанова цалкам адпавядае тым запатрабаваньням, якія прад'яўляе комуністычная партыя да савецкага настаўніцтва ў рэконструкцыйны пэрыод. Нарада па пытаньнях народнае асьветы пры Цэнтральным Камітэце ЎсеКП(б) казала, што ўся дзейнічаючая зараз сыстэма пэдагогічнай асьветы павінна рыхтаваць пэдагога: „ваяўнічага матэрыяліста-дыялектыка, узброенага марсыцкаленінскай тэорыяй, актыўнага барацьбіта з усімі праявамі варожай і чужой нам ідэолёгіі ў культурнай рабоце, організатара шырокіх мас працоўных на фронце культурнай рэволюцыі, абладаючага політэхнічнымі ведамі і практычнымі навыкамі ў галіне прамысловай і сельска-гаспадарчай працы і ўмеючага выхоўваць пакаленьне, здольнае канчаткова зьнішчыць разрыў паміж горадам і вёскай, паміж разумовай і фізычнай працай, умеючага сыстэматычна падымаць сваю кваліфікацыю з тым, каб не адставаць ад запатрабаваньняў рэконструіруемай народнай гаспадаркі

За такога пэдагога будуць весьці барацьбу савецкае настаўніцтва, органы Наркамасьветы, профсаюзы пад кіраўніцтвам комуністычнай партыі.

Зьезд мобілізаваў сябе, прызваў усё савецкае настаўніцтва БССР да рэалізацыі закліку III Пленуму Цэкпросу аб паходзе за марксыцкаленінскай тэорыяй, казаўшага:

„У горніле жорсткіх клясавых боек культурнай рэволюцыі вытвараецца рэволюцыйная закалка працаўнікоў культурнага фронту. Толькі гэта ленінская закалка дае магчымасьць асьветнікам, перадавым атрадам культармейцаў разрашыць адказьнейшыя задачыператварэньня культурна-асьветных устаноў у сапраўдныя штабы культурнай рэволюцыі. Толькі падвёўшы пад сваю работу асновы марксыцка-ленінскай тэорыі, асмысьліўшы, з пункту гледжаньня ленінізму, рэволюцыйныя процэсы, якія зараз адбываюцца, і ўвязаўшы іх з пытаньнямі выхаваньня, абучэньня, настаўнік, хатнік, навуковы працаўнік і ўся маса асьветнікаў акажуцца на высаце патрабаваньняў і задач эпохі“.

Запатрабаваньне максымальна чоткай клясавай лініі ў рабоце настаўніка, неабходнасьць політэхнізацыі ўсёй школьнай сыстэмы, перабудовы школы ў адпаведнасьці з задачамі рэконструкцыйнага пэрыоду з асаблівай вастратой высунула пытаньне аб звароце савецкага настаўніцтва *тварам да піонэрскай організацыі, да комсамолу.* Даклад ЦК комсамолу на зьезьдзе якраз быў накіраваны на тое, каб агульнымі сіламі знайсьці лепшы шлях для таго, каб самым шчыльным чынам усю работу школы органічна зьвязаць з піонэрскай, комсамольскай організацыяй, каб савецкі настаўнік зрабіўся яшчэ лепшым дапаможнікам піонэрскай організацыі ва ўсёй яе рабоце. Прынятыя зьездам пастановы павінны зьявіцца і бязумоўна зьявяцца пачаткам рашучага пералому ў бок пасіленьня кіруючай ролі піонэрскай, комсамольскай організацыі ў школе. Савецкі настаўнік зможа пасьпяхова

справіцца з задачамі перабудовы работы школы толькі пры ўмове, калі ён будзе апірацца на комсамольскую, піонэрскую організацыі. Асобным пытаньнем зьезд абгаварыў задачы профсаюзу працаўнікоў асьветы па рабоце сярод настаўніцтва. Абгаварэньне гэтага пытаньня праходзіла непасрэдна пасьля толькі што скончыўшага сваю работу V-га Пленуму УсеЦСПС і V-га Пленуму ЦК саюзу Працасьветы. Гэтыя Пленумы прайшлі пад знакам далейшага замацаваньня перабудовы профсаюзаў пад лёзунгам „Тварам да вытворчасьці“, далейшага палепшаньня работы профсаюзаў. На долю саюзу працаўнікоў асьветы прыпадае вялікая задача організаваць масы асьветнікаў на выкананьне разам з пролетарыятам задач рэконструкцыйнага пэрыоду, быць організатарам мас асьветнікаў у яе барацьбе за генэральную лінію партыі. Усё гэта патрабуе ад профсаюзаў працасьветы яшчэ большай і яшчэ лепшай перабудовы сваёй работы, перабудовы яе тварам да задач культурнай рэволюцыі, нацыянальна-культурнага, соцыялістычнага па зьместу будаўніцтва, стаць на чале руху асьветніцкіх мас, дапамагаць апошнім запазычыць лепшыя рэволюцыйныя формы работы пролетарыяту на вытворчасьці (соцспаборніцтва, ударніцтва), выхаваньне з асьветнікаў актыўных барацьбітоў за соцыялістычную перабудову вёскі, пропагандыстых ідэй колектывізацыі і коопэраваньня і памочнікаў пролетарыяту ў культурным абслугоўваньні сэзоньнікаў, колгасьнікаў, беднаты, організатараў культпаходу на вёсцы, ліквідатараў агульнай і політычнай няпісьменнасьці, прапітваючых усю сваю работу клясавымі задачамі пролетарыяту. Зьезд паставіў перад профсаюзам працасьветы шэраг конкрэтных задач, накіраваных на палепшаньне работы профсаюзу сярод настаўніцтва, набліжэньне профсаюзнага апарату да мас, уцягненьне мас у работу апарату, апіраючыся на ўдарніка-асьветніка, дапамагаючы масам разгортваць соцыялістычнае спаборніцтва. Шырокае разгортваньне пролетарскай самакрытыкі на зьезьдзе забясьпечыла выяўленьне ўсіх недахопаў, якія маюцца ў рабоце органаў Наркамасьветы, профсаюзаў сярод настаўніцтва. Далейшае разгортваньне бальшавіцкай самакрытыкі ў штодзённай рабоце настаўніцтва будзе самым лепшым чынам спрыяць поўнаму выкананьню прынятых зьездам пастаноў. Пролетарская самакрытыка павінна зьявіцца сталым мэтодам работы настаўніцтва.

Усе свае пастановы зьезд выносіў, выходзячы з задачы ўзмацненьня абароназдольнасьці нашай краіны. І не выпадковым быў той уздым, энтузіязм, з якім зьезд сустракаў прыходзіўшых з прывітаньнямі байцоў Чырвонай Арміі, якім было прынята прывітаньне правадыру Чырвонай Арміі т. Варашылаву, праведзены зборы на дырыжабль „Клим Ворошилов“. Усё гэта зьявілася адзнакаю разуменьня савецкім настаўніцтвам, што сучасны момант патрабуе асаблівай клясавай пільнасьці, напружанай работы па ўзмацненьню абароназдольнасьці нашай краіны. „Аддамо ўсе сілы на будаўніцтва соцыялізму, па-ўдарнаму будзем працаваць на тых участках, куды нас паставіла партыя, савецкая улада. Няхай вораг паспрабуе пасягнуць на заваёвы Кастрычніка — чырвонаштандарнае настаўніцтва, усё, як адзін, стане з аружжам у руках на абарону краіны дыктатуры пролетарыяту“ — так заявіў зьезд, так казала праз зьезд усё чырвонаштандарнае настаўніцтва Савецкай Беларусі.

Політычнае значэньне III зьезду вялікае. Ён зьяўляецца новым этапам у жыцьці, рабоце савецкага настаўніцтва БССР, этапам рашучага і беспаваротнага прыходу асноўнай масы да пролетарыяту, яго авангарду, комуністычнай партыі, этапам паходу асноўнай масы на-

стаўніцтва за выкананьне пастаўленых компартыяй перад савецкай інтэлігенцыяй задач. Асноўнай фігурай, даўлеючай фігурай настаўніцтва стаў настаўнік, актыўны змагар за справу дыктатуры пролетарыяту. Савецкае настаўніцтва мобілізавалася на барацьбу пад кіраўніцтвам компартыі за пяцігодку ў чатыры гады. Савецкае настаўніцтва ўявіла, што яно працуе на адказьнейшым вучастку соцыялістычнага будаўніцтва, на вучастку падрыхтоўкі пролетарскіх кадраў. З яшчэ большай клясавай закалкаю, з яшчэ большым энтузіязмам прыступае чырвонаштандарнае настаўніцтва БССР да работы ў найадказьнейшы пэрыод. Компартыя па-ленінску вырашае задачу „паставіць настаўніка на такую вышыню, на якой ён не стаяў і ня можа стаяць ні ў ваднэй капіталістычнай краіне“. Партыйныя, профсаюзныя, савецкія і грамадзкія організацыі на мясцох пасіляць сваё кіраўніцтва работай сярод настаўніцтва, абкружаць яшчэ большым таварыскім давер'ем, падтрымкаю савецкага настаўніка, дапамогуць яму яшчэ ў большай ступені быць уцягнутым у соцыялістычнае будаўніцтва, дапамогуць яму хутчэй пазбавіцца ад чужакоў у сваім асяродзьдзі, быць у першых шэрагах актыўных удзельнікаў бальшавіцкага правядзеньня другой бальшавіцкай вясны, усеабучу, ліквідацыі няпісьменнасьці, політэхнізацыі асьветы.

Пад кіраўніцтвам комуністычнай партыі савецкае настаўніцтва БССР на справе павінна даказаць і з дапамогаю ўсёй пролетарска-савецкай грамадзкасьці дакажа, што яно дастойна насіць вялікую назву чырвонаштандарнага настаўніцтва.

---

**Р. Выдра**

# Гісторыя не бяз вынікаў

23/XII-1930 г. у Менскім клюбе навуковых работнікаў меў месца дыспут на тэму: „Рэлігія і навука“.

На гэтым дыспуце адзін з відных навуковых работнікаў, проф. Мелкіх, зрабіў даволі нязграбны рэвэранс у бок рэлігіі, паспрабаваўшы ўгрунтаваць яе меркаваньнямі маралі, этыкі і да т. п. Само сабою зразумела, што ён спаткаў належны адпор у відзе зьнішчальнай крытыкі яго довадаў. Але гэтым справа не абмежавалася.

24/XII, г. зн. на другі-ж (!) дзень той-жа прафэсар атрымаў пісьмо ад белар. япіскапа, цяпер архіяпіскапа пяцігорскага, Паўла. У гэтым пісьме вельмі паважаны архіяпіскап сьпяшаецца прысьці на дапамогу прафэсару і даць яму ў рукі больш спадзейную зброю ў змаганьні за рэлігію, чым тая слабая „этычная“ зброя, якою паспрабаваў карыстацца прафэсар. Архіяпіскап Павел далучыў да пісьма артыкул, які і павінен быў даць у распараджэньне прафэсара арсэнал „сапраўдных“ сродкаў змаганьня за рэлігію. У самым пісьме архіяпіскап Павел, і ня думае скрываць, што ён выступае супроць Саюзу ваяўнічых бязбожнікаў. „Супроць гэтых апошніх, піша арх. Павел, галоўным чынам, накіраваны мае артыкулы, у якіх я наўмысьля дапусьціў месцамі звычайна *прынятыя ў сав. работнікаў рэзкія выразы ў адносінах да рэлігіі і царквы, каб унікнуць падазрэньня ў асобнай „профэсіянальнай“ староннасьці да іх.* Спадзяюся, гэтыя выразы не прывядуць Вас у замяшаньне, і Вы, ня гледзячы на такую зьнешнасьць, разгледзіце і ацэніце *істасьць справы*“.

Проф. Мелкіх не забавіўся „ацаніць *істасьць справы*“: на прадаўжэньні дыспуту ў студзені 1931 г. ён выкрыў махінацыі арх. Паўла і публічна заявіў, што нічога агульнага ні з ім, ні з іншымі прадстаўнікамі рэлігійных культаў ня меў, ня мае і мець ня будзе. Разам з тым ён заявіў, што пад кіраўніцтвам комуністычнай партыі будзе прадаўжаць справу пабудовы соцыялізму.

З гарашчымі сьлядамі аплявухі арх. Павел выяжджае ў новую эпархію ў Пяцігорск. Водгукі аплявухі яшчэ раздаюцца ў Беларусі, на сходзе менскага актыву саюзу ваяўнічых бязбожнікаў і ў іншых мясцох. Рэакцыйныя „вучоныя“ зубры, якія ўладаюць неймавернай адвагай... за печкай, але страчваюць апошнія рэшткі яе, калі справа даходзіць да адкрытых выступленьняў, солідарным маўчаньнем выказваюць сваё спачуваньне „беднаму“ архіяп. Паўлу і сваю нянавісьць да проф. Мелкіх.

Такавы палітычныя вынікі архіяпіскапальнай „інтэрвэнцыі“ ў дыспут: далейшае размежаваньне ў асяродзішчы навуковых работнікаў,

далейшае разбурэньне рэштак яе корпорацыйнага духу, далейшая дыфэрэнцыяцыя навуковых работнікаў, ізоляцыя варожых нам, буржуазна-рэстаўратарскіх элемэнтаў і вылучэньне, перавыхаваньне тых, якія хочуць шчыра і аддана стаць сапраўднымі ўдзельнікамі вялікай справы пабудаваньня соцыялізму.

Як-жа, аднак, стаіць справа з тым докумэнтам ваяўнічага невуцтва, які ў выглядзе артыкулу хацеў апублікаваць у выданьнях БДУ (!!!) або БАН (!) архіяпіскап Павел?

Трэба сказаць, што гэты докумэнт заслугоўвае самай сур'ёзнай увагі. Ужо адзін той факт, што артыкул архіяп. Паўла напісаны як быццам „мовай бязбожніка“, што ў ім ёсьць такія палажэньні: „мэтай антырэлігійнай работы, паколькі ў ёй зацікаўлена савецкая дзяржава, можа быць толькі адно: вызваліць рабочыя і сялянскія масы ад усіх рэштак шкоднага ўплыву на іх рэлігіі і царквы“..., што ён багаты цытатамі з Маркса, Сталіна і інш.,—прымушае нас настаражыцца. Вораг ужывае новыя, больш утончаныя, больш замаскаваныя формы змаганьня: пад формай атэізму ён дабіваецца ў што-б там ні стала захаваньня рэлігійнага дурману, дурману ачышчанага, пазбаўленага ўсіх тых зьнешніх уласьціваcьцяй яго, якія адразу выдаюць яго агідную сутнасьць.

Асноўная мысьль высокашаноўнага архіяпіскапа складаецца з таго, што прычыны нашых нібыта няўдач на антырэлігійным фронце „заключаюцца ў прынцыпова-няправільным падыходзе да справы змаганьня з рэлігіяй, у няўменьні знайсьці і бачыць у гэтай справе *сапраўды-політычную* старану, замест якой зварачаюць увагу і накіроўваюць усе удары на тое, што мае толькі рэлігійнае значэньне“.

Вывад, да якога на падставе гэтага прыходзіць наш „бязбожны“ змаганьнік за „чыстую“ рэлігію, гаворыць: „указаны лёзунг (аб сапраўды-політычнай старане) вымагае ад савецкіх работнікаў конкрэтнакарыснага і патрэбнага дзяржаве змаганьня з рэлігіяй і царквою, змаганьня з выразна ўстаноўленай і рэальна знойдзенай наяўнасьцю супраціўленьня і шкодніцтва з боку рэлігіі і царквы пры правядзеньні ў жыцьцё таго ці іншага мерапрыемства соцыялістычнага будаўніцтва, а не беспрадметнага і бязмэтнага змаганьня з рэлігіяй „наогул“, накіраванага на зьневажаньне і зьніштажэньне рэлігійных сымболяў, спэцыяльных атрыбутаў культу ды інш.“

Само сабою зразумела, што наш „бязбожны“ змаганьнік за „чыстую“ рэлігію папрабаваў угрунтаваць як сваю ацэнку становішча, так і зроблены ім вывад. Само сабою зразумела, што пры такой справе ён не прамінуў сказіць сапраўдны стан рэчаў, ператасаваць факты, напусьціць туману, фальшывізаваць заснавальнікаў і пасьлядоўцаў марксызму-ленінізму, заблытаць ясны сэнс самых простых рэчаў і—пад канец паказаць... свайго „голенькага“, „чысьценькага“ бога.

Што ўсё гэта ў непрыфарбаваным выглядзе заключаецца ў трагікомічным дзействе шаноўнага архіяпіскапа, мы зараз пераканаемся на справе.

Як ужо вядома, архіяп. Павел нездаволен існуючымі ў нас *антырэлігійнымі* організацыямі, якія даюць, на яго думку, толькі „*сурогат* антырэлігійнай работы“. Хто-ж гэтыя *антырэлігійныя* організацыі? Архіяп. Павел, ніштожа сумняшася, пераходзіць да іх пералічэньня. Першае месца займае... абнаўленцкая царква! Каб чытач не падумаў, што архіяп. Павел міла жартуе, дамо яму слова: „Аднэю з такіх організацый зьяўляецца, перш за ўсё, так званая абнаўленцкая царква, якая, як вядома, увесь сэнс свайго існаваньня лічыць у змаганьні

з „ціханаўшчынай“, чаму і карыстаецца павагай у шмат і шмат якіх савецкіх работнікаў. І так, антырэлігійная арганізацыя № 1—абнаўленцкая царква!

Накіраваўшы свае архіяпіскапскія громы і маланкі на абнаўленцкую царкву, якая займаецца толькі „пустым і нікчэмным ліцадзействам“, каб схаваць сваё „заняволеньне буржуазна-капіталістычнай стыхіяй, з чым абнаўленцы і ня думалі ніколі змагацца“, арх. Павел пераходзіць да другой *антырэлігійнай* (!) арганізацыі—аўтокефальнай царквы. Яе арганізацыі, „якія *сымулююць* спрыяльную саветам палітыку“, выявілі таксама факты контр-рэволюцыйнага нац.-дэмократызму, „якія даўно ўжо павінны былі павесьці да ліквідацыі падобнага роду ўяўных цэркваў“. І так, антырэлігійная арганізацыя № 2—аўтокефальная царква!

Абвінавачваючы абедзьве гэтыя „антырэлігійныя“ арганізацыі ў „сымуляцыі спрыяльнай саветам палітыкі“, у ашуканстве, хлусьлівых мясцох і г. д., арх. Павел выступае з гарачай абаронай „ціханаўшчыны“ або ціханаўскай царквы. Калі ціханаўшчына, як „больш ці менш адкрыта выражаныя прагненьні да рэстаўрацыі царскай монархіі ў першы час пасьля рэволюцыі, бадай, яшчэ магла дзе-колечы мець месца ў царкоўным асяродзішчы“, дык „затым яна рашуча зьнікае з акружаючай нас рэчаіснасьці“.

Як гэта добра і прыемна! Радуйцеся, людзі савецкія—ніякіх рэстаўратарскіх „прагненьняў“ у „царкоўным асяродзішчы“, гэта значыць, у „акружаючай нас рэчаіснасьці“ няма. Сьпіце спакойна, дбайны вартавы рэволюцыі!—архіяп. Павел запэўнівае, што ніякіх рэстаўратарскіх „прагненьняў“ няма анідзе. Ва ўсякім выпадку, пакіньце ў спакоі ціханаўскую царкву: там контр-рэволюцыя „рашуча зьнікае“.

Як гэта ўсе добра і як гэта нагадвае... „разумныя“ словы старога царскага зубра япіскапа Мітрафана, які на пасяджэньні Дзярж. Думы ад 28 (16) красавіка 1909 г. заявіў: „гаварыць аб клерыкалізьме рускага праваслаўнага духавенства ня прыходзіцца—ніколі замераў падобнага роду ў нас ня было...“!

Каб не пакінуць сумненьняў у сваім бліжэйшым сваяцтве да мітрафанаўшчыны, архіяп. Павел неўзаметку для самога сябе трохі адкрывае свае стара-царкоўныя клыкі: усе гэтыя „цэрквы“ даўно пара было-б ліквідаваць. Па яго думцы, даўно пара было даць выключныя прывілеі старой праваслаўнай царкве, даўно пара было забараніць існаваць усім іншым цэрквам, як ненавісным конкурэнтам у такой зыскоўнай справе, як адурманьваньне народу, даўно пара абярнуць гэтую справу ў выключна прывілеяваную монополію старой ціханаўскай царквы! Архіяпіскап Павел добра ведае, што значыць весьці антырэлігійнае змаганьне не на грунце *рэлігіі*, а на грунце *палітыкі*. Ён нават вывучыў адпаведныя творы Маркса і з цытатамі ў руках пакажа вам, як трэба *палітычна* весьці змаганьне з рэлігіяй. О, ён „вялікі“ палітычны майстра! Але да *гэтага* яго майстэрства мы яшчэ вернемся пазьней.

І так, арх. Павел налічыў ужо дзьве „антырэлігійныя“ арганізацыі: абнаўленцкую і аўтокефальную. Аблаяўшы трэцюю „антырэлігійную“ арганізацыю—сэктанцтва,—як арганізацыю кулацкую, арх. Павел зварачаецца, нарэшце, да „апошняй“ антырэлігійнай арганізацыі—да Саюзу ваяўнічых бязбожнікаў. Ня будзем засмучацца, т. т. бязбожнікі: Lost but not bast. Паставіўшы нас у адзін рад з такімі „антырэлігійнымі“ арганізацыямі, як абнаўленцы, аўтокефалісты і сэктанты, даўшы нам у гэтым „выдатлівым“ радзе *апошняе* месца, архіяп. Павел, па-першае, вычарпаў увесь свой запас абвінавачаньняў у рэстаўрацыйных імкнень-

нях, контр-рэволюцыйнасьці, буржуазнасьці ды інш., так што для СВБ іх ужо не засталося; па-другое, усю сваю „асьвечанасьць“, усю сваю цяжкую артылерыю архіяпіскапальнага марксызму, усю сілу свайго замаскаванага паклёпу і нязграбнай фальсыфікацыі,—усё гэта ён накіраваў на СВБ.

Архіяп. Павел „ведае“, што значыць змагацца з рэлігіяй не рэлігійна, а політычна. Ён да таго-ж ведае, „што поўнага дзелавым энтузіязмам рабочага люду ані ня вабіць пэрспэктыва, што яго хочуць засадзіць, бадай, на цэлыя гады, за вучобу па прадметах нейкага навукова-бязбожнага веданьня, і пры тым дзеля чаго? дзеля таго, каб навучыцца і яму „абвяргаць“ рэлігію ды крытыкаваць папоў. І гэта ў той час, калі ўсім вядома, што рэлігія і царква ў нас *політычна* ня існуюць, г. зн. не павінны існаваць“.

Сапраўды, становішча СВБ ахавае. Існаваньне яго, паводле арх. Паўла, ня мае жаднага сэнсу. З аднаго боку—„усім вядома, што рэлігія і царква ў нас *політычна* ня існуюць“, а „на няма—усім вядома“—суда няма. З другога боку, „рабочага люду ані ня вабіць пэрспэктыва“ доўгалетняй „вучобы па прадметах нейкага навукова-бязбожнага веданьня“, а раз архіяпіскапу вядома такая „няпрывабнасьць“, дык хіба ёсьць сэнс змагацца супроць яго настолькі асьвечанай думкі!

Як гэта ні небясьпечна, прыдзецца ўсё-ткі адстаяць існаваньне СВБ. Як гэта ні няпрыемна архіяп. Паўлу, прыдзецца зьняць з яго політычна-„аполітычныя“ рызы ды паказаць яго ва ўсёй нагаце контр-рэволюцыйнага паклёпніка на савецкую ўладу, лісападобнага хітруна, які хвастом замятае свае рэакцыйныя замыслы і справы, „вучонага“ ваяўнічага невука, які ў бясьсільлі сваім кідае „глубокамысныя“ жардзіны ў колы ідучага наперад Саюзу ваяўнічых бязбожнікаў.

„Рэлігія і царква ў нас політычна ня існуюць“. А як-жа гэта пагадзіць з цьверджаньнем архіяп. Паўла-ж аб „соцыяльна-клясавай варожасьці царквы і рэлігіі да справы савецкага будаўніцтва“, заняволеньні іх *наогул* (курс. наш—Р. В.) буржуазна-капіталістычнай стыхіяй“? Мы ведаем, што высокашаноўны арх. Павел зараз-жа ўсхопіцца і „узглаголе“: трэба, каб рэлігія і царква *вызвалілася* ад гэтага заняволеньня, каб яна стала чысьценькай, незаплямленай, „бясклясавай“ рэлігіяй. Але-ж, па-першае, хлусьня, абман і замятаньне сьлядоў, быццам у нас рэлігія і царква *політычна* ня існуюць. Наадварот, усім вядома, што рэлігійныя і царкоўныя організацыі часамі пускаюцца ў нас ва ўсе цяжкія ў політыку, вядучы контр-рэволюцыйную агітацыю і імкнучыся да „*політычнага аформленьня*“ (словы арх. Паўла).

— Ах, усклікае высокашаноўны архіяпіскап, я-ж дабавіў: „г. зн. не павінны існаваць“.

Добра, архіяп. Павел ставіць царкве і рэлігіі патрабаваньне—не займацца політыкай. У выкананьні гэтага патрабаваньня ён бачыць адзіную ўмову, якая забясьпечвае рэлігіі спакойнае існаваньне і гарантуе захаваньне яе як гэткай, як „чыстай“, „аполітычнай“ рэлігіі. Як-жа гэты новаяўлены тэорэтык і зьвястун „чыстай“, „аполітычнай“ рэлігіі выконвае ім самім пастаўленую ўмову?

Пакінем у баку *політычныя* ацэнкі, якія, як *прадстаўнік царквы*, архіяп. Павел дае абнаўленцам, аўтокефалістам, сэктантам,—ацэнкі, за якія мы шчыра ўдзячны яму, як за вурок *політычнае* асьветы, што ідзе ад галавы эпархіі, які рупіцца аб „*аполітычнасьці*“ веры.

Пакінем у баку яго чыста *політычную* спробу абяліць ціханаўскую царкву і прадставіць яе ў выглядзе нявіннага ягняці,—старая

і даўно выкрытая *палітычная* ігра мацёрых ваўкоў: апранацца ў авечыя скуры.

Пакінем у баку чыста палітычнае выступленьне архіяп. Паўла ў форме яго артыкулу, які дамагаецца зьмяніць нашу *палітыку* ў антырэлігійнай рабоце,—не ўсядзець *палітычнаму* бесу, заключонаму ў асобу высокашаноўнага архіяпіскапа і апанаваўшаму яго „апалітычным", „чыста"-рэлігійным пяром.

Пакінем усё гэта ў баку і зьвернемся да дасканалага вобразу СВБ, нарысаванага сьмелай рукой абаронцы „чыстай" рэлігіі. „Нашы антырэлігійнікі патрабуюць у нас ад веруючых: „вы павінны перастаць быць веруючымі, каб быць грамадзянамі Савецкага Саюзу", так вяшчуе архіяп. Павел аб нашых бязбожніках.

Гэта падвойная хлусьня і паклёп! Хлусьня, быццам у нас у Савецкім Саюзе дзяржаўныя органы пакідаюць вырашэньне пытаньня аб палітычных правох грамадзян на погляд грамадзкай арганізацыі, якою зьяўляецца СВБ. Хлусьня і паклёп, быццам СВБ выстаўляе патрабаваньне няверы, як умову грамадзянства Савецкага Саюзу.

У нас, у Савецкім Саюзе, пазбаўлены палітычных правоў няверуючыя, а прыслужнікі рэлігійных культаў. І пазбаўлены яны адпаведных правоў не за тое, што падзяляюць пэўныя рэлігійныя погляды, а за тое, што гэтыя погляды абернуты імі ў сваю профэсію, у крыніцу існаваньня. Ні для воднага рабочага або працоўнага селяніна яго рэлігійныя погляды не дастаўляюць яму сродкаў да існаваньня. Наадварот, яны адбіраюць у яго сродкі існаваньня. Прыслужнікі-ж рэлігійных культаў „цудоўным" спосабам абарачаюць рэлігійныя погляды мас у крыніцу свайго існаваньня, у прадмет эксплёатацыі. Тым самым яны вызваляюць сябе ад ядынай функцыі—функцыі працы, якая і зьяўляецца ў нашым Саюзе падставай палітычных правоў. А шаноўны архіяп. Павел „бязбожна" хлусіць і робіць паклёп, калі сьцьвярджае быццам „нашы антырэлігійнікі патрабуюць ад веруючых: „вы павінны перастаць быць веруючымі, каб быць грамадзянамі Савецкага Саюзу".

Ня меншай хлусьнёй і паклёпам зьяўляецца цьверджаньне архіяп. Паўла, быццам Саюз бязбожнікаў „ставіць цяпер галоўнай задачай антырэлігійнай работы—масавае зачыненьне цэркваў, ліквідацыю (!) абслугоўваючага іх духавенства ды інш.", або СВБ „клапоціцца аб тым, каб веруючыя сталі няверуючымі, тыя, што маліліся, перасталі маліцца, каб як мага больш цэркваў ды малельняў было закрыта, каб прыслужнікі рэлігійных культаў зьнялі свае „годнасьці", пераапрануліся ў звычайныя адзежы і г. д.".

„Тонкі" палітык, гэты шаноўны архіяпіскап. Зваліўшы ўсё ў адну кучу і ўскінуўшы яе на СВБ ён лічыць, што яму ўдасца засыпаць пяском вочы працоўных мас. Бачыце—бо—масавае зачыненьне цэркваў, ліквідацыя абслугоўваючага іх духавенства, абярненьне веруючых і няверуючых, тых, што маліліся, у нямолячыхся, зьняцьце „годнасьці", маскарад у звычайных адзежах і г. д.—вось задачы СВБ. Сапраўды, раз СВБ дабіваецца таго, каб „веруючыя сталі няверуючымі", дык чаму-ж не прыпісаць яму заадно імкненьне пераапрануць усіх прыслужнікаў царквы, каб памагчы ім у звычайных адзежах лягчэй абдурваць народ? Раз СВБ дабіваецца таго, каб „веруючыя сталі няверуючымі", дык чаму-ж не прыпісаць яму заадно імкненьне, каб веруючыя, не перастаючы верыць, перасталі толькі маліцца? Чаму заадно не прыпісаць яму турбот аб зьняцьці „годнасьці" прыслужнікамі рэлігійных культаў, каб перакінуць адказнасьць за гэта з тых, хто здымае

або пазбаўляе „годнасьці“,—г. ё. з архіяпіскапаў ды іншых „уладу маючых“ сьвяціл царквы на СВБ? Раз СВБ дабіваецца, каб, у выніку масавага пашырэньня атэізму, цэрквы самі сабою зачыняліся, страціўшы сваю матэрыяльную і духоўную базу, дык чаму-ж не зрабіць паклёпу на яго і не сказаць, што ён дабіваецца масавага зачыненьня цэркваў і ліквідацыі (!) духавенства?—Кім і як? Архіяпіскап Павел разважна, але затое многазначна маўчыць.

Шаноўны архіяпіскап ведае, што ён хлусіць. Архіяп. Павел ведае, што СВБ знаходзіцца пад кіраўніцтвам комуністычнай партыі. Архіяпіскап Павел ведае, што таму СВБ не стаіць на пункце гледжаньня зьнешняга змаганьня з рэлігіяй, змаганьня са зьнешнімі ўласьцівасьцямі рэлігіі.

Але архіяп. Павел ведае, у чым заключаецца сапраўдная небясьпека, якая пагражае рэлігіі ад СВБ. Таму вось іменна на яго ён і ўзбройваецца, зьбірае ўсю сваю „мудрасьць“, мобілізуе... Маркса, Леніна, каго хочаце, абы толькі прыпыніць, унесьці замяшаньне ў рады Саюзу ваяўнічых бязбожнікаў.

Успомнім, як ён хоча „прысьці нам на дапамогу“. „У нас прынцыпова-няправільны падыход да справы змаганьня з рэлігіяй, мы ня можам знайсьці і бачыць у гэтай справе *сапраўды-політычнай старсны*, замест якой зварачаем увагу і накіроўваем усе ўдары на тое, што мае толькі рэлігійнае значэньне“.

Чаго-ж хоча архіяп. Павел? Ён хоча ад „савецкіх работнікаў конкрэтна-карыснага і патрэбнага дзяржаве змаганьня з рэлігіяй і царквою, змаганьня з выразна ўстаноўленай і рэальна знойдзенай наяўнасьцю супраціўленьня і шкодніцтва з боку рэлігіі і царквы пры правядзеньні ў жыцьцё таго ці іншага мерапрыемства соцыялістычнага будаўніцтва, а не беспрадметнага і бязмэтнага змаганьня з рэлігіяй „наогул“.

Архіяп. Павел, ці бачыце, згаджаецца на тое, каб савецкая ўлада змагалася з контр-рэволюцыяй і шкодніцтвам, калі яны ўкрываюцца ў рэлігійна-царкоўных організацыях. Шчыра ўдзячны за такую архіяпіскапскую ўступчывасьць. Але шаноўны архіяпіскап ня схільны ўступаць у пытаньні „беспрадметнага і бязмэтнага змаганьня з рэлігіяй наогул“. Ён, ці бачыце, лічыць, што „лёзунг бязбожжа ...ёсьць лёзунг *політычнага*, так сказаць, а не рэлігійнага бязбожжа“. Таму ён лічыць, што самае існаваньне СВБ ня мае жаднага сэнсу, бо супярэчыць марксызму!

Ці ня хочаце пераканацца!—„нашы антырэлігійнікі ставілі і ставяць адной з задач савецкага соцыялістычнага дзяржаўнага (?) будаўніцтва не *політычнае зьніштажэньне рэлігіі* (г. зн. зьніштажэньне рэлігіі, як *політычнай* сілы), як гэта дакладна формуляваў К. Маркс адносна Бр. Бауэра, а *зьніштажэньне рэлігіі наогул*“.

І так, архіяпіскап Павел у ролі... абаронцы марксызму супроць... СВБ! Што-ж прымусіла яго прыняць такое супроцьнатуральнае палажэньне? Усё тая-ж небясьпека, якую архіяпіскап адчуў з боку сапраўднага змаганьня СВБ. СВБ — вось галоўны вораг, вораг, які б'е не са зьнешнасьці, а ў самую істасьць, які падрывае „рэлігію наогул“, які не абмяжоўваецца політычным змаганьнем, а вядзе курс на „зьніштажэньне“ рэлігіі як гэткай. — Ёсьць з-за чаго пакапáцца ў Марксе!

Што атрымалася з „капаньняў“ шаноўнага архіяп. Паўла, мы зараз убачым.

Матэрыялам для архіяп. Паўла паслужылі артыкулы Маркса аб яўрэйскім пытаньні і „Св. семейство“. Каб „знайсьці“ ў гэтых матэры-

ялах тое, што яму патрэбна, архіяп. Павел не пасароміўся прадэманстраваць сваё невуцтва, сваё неразуменьне што да чаго, свае фальсыфікатарскія здольнасьці і свае ня ведаючыя прыкладу дзёрзкасьць і нахабнасьць — прычасаць Маркса пад... архіяпіскапа Паўла!!!

Як вядома, артыкулы Маркса „К еврейскому вопросу“ і работа яго „Св. семейство“ адносяцца адпаведна да 1843 і 1844 гг., г. зн. гадоў, якія былі напярэдадні рэволюцыі 1848 г. у Германіі. Як вядома, асноўным пытаньнем, якое займала *тады* галовы, было пытаньне аб так званай політычнай эмансыпацыі, г. зн. аб зьніштажэньні фэўдальных прывілей і ўстанаўленьні замест іх буржуазна-прававой дзяржавы. Конкрэтна, у адносінах яўрэйскага пытаньня справа стаяла так: нямецкія дзяржавы, якія прызнавалі толькі адну рэлігію і давалі ёй усе політычныя прывілеі — іменна хрысьціянскую рэлігію, адносіліся „выключальна“ да яўрэйскай рэлігіі, пазбаўляючы на гэтай падставе яўрэяў тых прывілей, якімі карысталіся хрысьціяне. Адзін з тагочасных „крытыкаў“, Бруно Бауэр, узяўся за вырашэньне яўрэйскага пытаньня. Але як ён за яго ўзяўся? Замест таго, каб паставіць пытаньне *політычна*, ён паставіў яго *тэолёгічна*, г зн. з рэлігійнага пункту гледжаньня. Ён высунуў патрабаваньне эмансыпацыі (вызваленьня) ад рэлігіі як неабходную ўмову політычнай эмансыпацыі, г. зн. зьнішташэньня фэўдальных рэштак у буржуазнай рэволюцыі.

Само сабой зразумела, што К. Маркс рашуча паўстаў супроць такога абярненьня політычных пытаньняў у тэолёгічныя (рэлігійныя). Характарызуючы Бауэраўскую пастаноўку пытаньня, Маркс піша пра яе наступнае: „Яна ўласна адказвае не на *сапраўдныя* пытаньні, а падстаўляе *зусім другія* пытаньні... Калі-б гутарка ішла аб кодэксе Напалеона, яна-б доказала, што *ў сутнасьці* гутарка ідзе аб „Пятикнижии“. Яе *адносіны* да бягучых пытаньняў ёсьць *скажэньне іператасоўка* зьместу гэтых пытаньняў. Так, напрыклад, яна перакшталтавала яўрэйскае пытаньне такім спосабам, што ёй ужо ня было патрэбы заняцца дасьледваньнем *політычнай эмансыпацыі*, якая складае зьмест пытаньня, і яна магла, наадварот, задаволіцца крытыкай яўрэйскай рэлігія і выабражэньнем хрысьціянска-германскай дзяржавы“ (К. Маркс, „Св. семейство“, III т. твораў, стар. 114).

Што гутарка ішла аб *буржуазнай* політычнай эмансыпацыі, Маркс даказвае ў „Св. семействе“ наступнымі словамі: „...гэта „свабодная чалавечнасьць“ і яе „прызнаньне“ ёсьць ня што іншае, як прызнаньне эгоістычнага буржуазнага *індывідума* і *нястрыманага* руху духоўных і матэрыяльных элемэнтаў, утвараючых зьмест жыцьцёвага становішча індывідума, зьмест *сучаснага* буржуазнага жыцьця; ...таму *правы чалавека* не вызваляюць чалавека ад рэлігіі, а толькі даюць яму *свабоду рэлігіі...*“ (Там-жа, стар. 140).

Нарэшце, аб самой рэлігіі Маркс у артыкуле „К критике гегелевской философии права“, які адносіцца да 1843 г., выразіўся з вычарпальнай яснасьцю: „...Змаганьне супроць рэлігіі ёсьць ускосна змаганьне супроць таго сьвету, духоўным араматам якога зьяўляецца рэлігія.

Рэлігійнае ўбоства ёсьць у адзін і той-жа час выражэньне сапраўднага ўбоства і протэст супроць сапраўднага ўбоства. Рэлігія—гэта ўздых прыгнечанага стварэньня, душы бессардэчнага сьвету, дух ліхалецьця. Яна—опіум народу“ (К. М. і Ф. Э. „Лит. наследство“, т. I, выд. Мир., ст.341).

Такім чынам, для нас зусім ясны наступныя пункты: Бруно Бауэр замяніў пытаньне аб політычнай эмансыпацыі ў буржуазнай рэволюцыі пытаньнем рэлігійным, Марк перавярнуў пытаньне, паставіўшы яго з галавы на ногі, г. зн. абярнуўшы яго ў адно з часных пытаньняў

буржуазнай рэволюцыі; Маркс-жа паказаў, што буржуазная палітычная эмансыпацыя ані не азначае эмансыпацыі чалавецтва ад рэлігіі, і што для таго, каб вызваліцца ад апошняй, патрэбна будзе нешта большае, чым буржуазная рэволюцыя, пакідаюча рэлігію ў недатыкальнасьці,— патрэбна будзе тэорытычнае і практычнае руйнаваньне яе зямных каранёў, патрэбна будзе соцыялістычная рэволюцыя, або, на тагочаснай мове Маркса: „Калі чалавек пазнае і арганізуе свае forces progres (асабістыя сілы) як грамадзкія сілы і таму больш ня будзе аддзяляць ад сябе грамадзкай сілы ў відзе палітычнай сілы,— толькі тады зьдзейсьніцца чалавечая эмансыпацыя“ (Маркс. „К еврейскому вопросу“, Литер. наследство, т. I, стар. 375—6).

Паслухаем цяпер апавяданьне архіяп. Паўла. Падаўшы адпаведныя цытаты з арт. Маркса „К еврейскому вопросу“: „Бауэр у абсягу палітыкі займаецца не палітыкай, а тэолёгіяй“, „ён змагаецца супроць рэлігійнай сьвядомасьці, як супроць самастойнага пачатку“, „мы зводзім тэолёгічныя пытаньні да сьвецкіх“ і да т. п.,—арх. Павел гаворыць: „У аснове ўсіх гэтых суджэньняў К. Маркса аб яўрэйскім пытаньні ляжыць, відавочна, наступная агульная мысьль аб адносінах рэлігіі да справы *чалавечай свабоды* (курсіў наш—*Р. В.*). Свабодзе не перашкаджае рэлігія сама па сабе, а перашкаджаюць такія формы яе існаваньня, калі яна, падтрымліваная капіталам і сама служачы яму і дагаджаючы, набывае значэньне вялікай зьнешняй сілы, якая таксама па-свойму падзяляе людзей, прыгнятае іх і пануе над імі, падобна да таго, як гэта робіць першы сапраўдны гаспадар усяго на сьвеце — капітал“.

Вось на якой мове загаварыў архіяп. Павел! Аднак, прыглезімся бліжэй.

„У аснове... ляжыць, відавочна... агульная мысьль аб адносінах рэлігіі да справы чалавечай свабоды“. Што за чалавечая свабода наогул? Хіба Маркс у крытыцы Бауэра гаворыць аб *чалавечай свабодзе?* Хіба ён на тысячу ладоў не падкрэсьлівае, што гутарка ідзе аб *палітычнай* свабодзе, аб зьніштажэньні фэўдальных прывілей? Хіба Маркс не даказаў ва *ўсіх* сваіх творах і хіба ўвесь гістарычны вопыт не пацьвердзіў, што размовы архіяпіскапаў ды іжэ з імі аб „чалавечай свабодзе“ служаць толькі адной мэце: апрануць у такую прыгожую форму свабоду для буржуазіі, эксплёатаваць, прыгнятаць, ашукваць, падкупляць, рабіць усе дапушчальныя і недапушчальныя праступленьні!

Высокашаноўны архіяпіскап гарліва выконвае сваю нядрэнна аплочваную службу: ён падтасоўвае факты, займаецца шулерствам, нязграбна падсоўвае Марксу „чалавечую свабоду“ наогул там, дзе Маркс ясна гаворыць аб *палітычных правох* буржуазнай дэмократыі, якія ідуць на зьмену фэўдальным прывілеям. Яны, іх высокае прэвасьвяшчэнства, маюць дзёрзкасьць гаварыць аб „чалавечай свабодзе“ наогул на падставе таго твору Маркса, у якім напісана: ...„гэта „свабодная чалавечнасьць“ і яе „прызнаньне ёсьць ня што іншае, як прызнаньне *буржуазнага індывідума*, ...што, дзеля гэтага, *правы чалавека*... не вызваляюць яго ад бруднай пагоні за нажывай, а толькі надзяляюць яго *свабодай промыслу*“ (Творы, т. III, стар. 140).

„Свабодзе, вяшчае архіяп. Павел, свабодзе не перашкаджае рэлігія сама па сабе“... Вядома, паважаны архіяпіскап, вядома. Гэтай буржуазнай свабодзе, свабодзе бруднай пагоні за нажывай, рэлігія сама па сабе не перашкаджае. Наадварот, яны адзін аднаго дапаўняюць, адзін аднаму дапамагаюць, адзін аднаго абумоўліваюць.

Але ніхто не дазволіць высокашаноўнаму архіяпіскапу гэта чульлівае адзінства буржуазнай свабоды і рэлігіі „самой па сабе“ выда-

ваць за Марксаву „агульную мысьль аб адносінах рэлігіі да справы чалавечай свабоды“. Сваю „агульную мысьль аб адносінах рэлігіі да справы чалавечай свабоды“ Маркс сам выразіў досыць ясна і дакладна: „Змаганьне супроць рэлігіі ёсьць укосна змаганьне супроць таго сьвету, духоўным араматам якога зьяўляецца рэлігія“. І іменна, абапіраючыся на гэтыя адносіны Маркса да рэлігіі, пад кіраўніцтвам камуністычнай партыі, СВБ, вядучы *прамое* змаганьне супроць таго сьвету капіталізму, не забывае весьці і *ўкоснае* змаганьне супроць яго — змаганьне супроць рэлігіі. Разам з тым мы ні ў якім выпадку не забываем указаньняў Леніна, „што атэістычная пропаганда соцыял-дэмократыі павінна быць *падначалена* яе асноўнай задачы: разьвіцьцю клясавага змаганьня эксплёатаваных мас супроць эксплёататараў“(Ленін, Зб. твораў, т. XIV, стар. 71).

Архіяпіскапу Паўлу вельмі хацелася-б падсунуць нам свой „архіяпіскапскі марксызм“: моў, супроць капіталу, хай сабе, дазваляю вам змагацца, але супроць рэлігіі — ні-ні. У сваёй гарлівасьці ён ня спыняецца перад тым, каб... прымусіць Маркса пісаць тое, чаго Маркс ніколі ня пісаў.

„Палітычную рэволюцыю, якая дала ў рэзультаце свабоду сумленьня, зьніштажэньне прывілей адной якой-небудзь веры К. Маркс таксама называе „вызваленьнем чалавецтва ад рэлігіі“.

Дзе, калі Маркс пісаў гэта? Чаму не паказаны старонкі? Ды проста таму, што наш архіяпіскап дайшоў да замарачэньня розуму: узяў сваё пяро, абмакнуў у чарніла дый парашыў — была ня была — раз Маркс сам не пасьпеў напісаць, давай я цяпер упішу ў яго творы гэту патрэбную мне мысьль!

Мы, вядома, разумеем, што архіяпіскапу ёсьць з чаго дайсьці да замарачэньня розуму, але навошта-ж яшчэ замарочваць галовы другіх? Яно, вядома, — такая справа зьяўляецца яго профэсіяй, але-ж і профэсіі маюць граніцы, зьне якіх яна абарачаецца ў сваю процілежнасьць. Напрыклад, разумнае начальства архіяпіскапа Паўла можа прысьці да вываду, што яго стараннасьць не па розуму абярнулася ў комічнае відовішча, ва ўсенародны посьмех, які, бадай, ня зусім падыходзіць да такой профэсіі, як архіяпіскапства.

Ці варта пасьля гэтага ўпамінаць аб апошніх праблісках беднасьці розуму шаноўнага яшчэ-архіяпіскапа Паўла, яго брэд наконт таго, што „К. Маркс на філёзофскай мове свайго часу (Кант-Гегель-Фіхтэ) адрозьнівае дваістую сьвядомасьць чалавека, „я“ і „ня я“, „чыстую“ сьвядомасьць і сьвядомасьць „эмпірычную“, г. зн. чалавека, як асобы, і чалавека, як ён даны з усімі староньнімі на яго ўплывамі ў акружаючай яго рэчаіснасьці. Гэту апошнюю сьвядомасьць і мае на ўвазе К. Маркс, калі гаворыць аб неабходнасьці вызваліць чалавечую сьвядомасьць ад рэлігійнага насланьня“.

Ну так, вядома! Бо К. Маркс за тое, што ён вынайшоў дзьве сьвядомасьці ў „я“ і адну з іх кінуў на зьядзеньне бязбожнікам, а другую захаваў на вечныя часы для патрэбы „чыстай“ рэлігіі, — бо за ўсё гэта К. Маркс быў залічаны рымска-каталіцкай царквою да ліку сьвятых, цяпер залічаецца сьпешна эпархіяльнай галавой, архіяп. Паўлам, у парадку дагаворанасьці з... СВБ.

Вось гавары цяпер, што абяднела наша зямля...

— „Аб „чыстай“ сьвядомасьці, аб чалавечай асобе, тут і гутаркі не магло быць у яго, бо чыстая (бяз двукосьсяў) сьвядомасьць па самой прыродзе сваёй ні ў якім вызваленьні патрэбы ня мае, будучы такім абсягам, дзе кожны чалавек дзейнічае і робіць так, як сам хоча“.

І так, мы ўступілі ў царства „чыстай“ сьвядомасьці, — наогул, дзе ўсё нязвычайна „чыстае“: „прачыстыя“ анёлы ўзносяць „прачыстую“ хвалу „прачыстай“ дзеве ў „прачыстых“ адзеньнях, „прачыстыя“ архіяпіскапы лунаюць у абсолютнай „чыстаце і робяць так, як самі“ хочуць“.

Так, архіяп. Павел сам гэтага захацеў. Перасыціўшыся шчасьцем нябеснай „чыстаты“, ён рынуўся ў бурнае мора зямной палітыкі. Вярней, адчуўшы ўдары, якія сутрасаюць яго „чыстае“ царства, ён вырашыў пакінуць яго на час і выйсьці насустрач ворагу. Адчуваючы небясьпеку аблогі, ён наважыўся на вылазку, каб даць бой на тэрыторыі ворага, каб паспрабаваць Марксам, Леніным і Сталіным пабіць... Саюз ваяўнічых бязбожнікаў.

Але якія сумныя вынікі! Парэзаўшыся аб узятую ў „чыстыя“ рукі зброю, залізваючы раны, адбрэхваючыся хлусьнёю, паклёпам, фальсыфікацыяй, архіяп. Павел дабраўся, нарэшце, да свайго звычайнага „чыстага“ затулку і звыклым тонам завыў: „госпаду-богу памолі-і-і-мся!“

Спазьніліся крышку, шаноўнейшы архіяпіскап! Умешваньне ў палітыку бясьсьледна не праходзіць. На вайне як на вайне: на ўдар адказваюць ударам.

І няхай архіяп. Павел не наракае: ён зрабіў як чалавек, як „сам хоча“.

---





Друк… № 3378. Галоўлітбел № 356. Тыраж 1900 экз. 6 арк. і 10 стар.

# Зьмест